# НАШ КРАЙ



№ 8-9 (47-48) 1929

ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

# ЗЬМЕСТ.

*Стар*

**В. Самцэвіч.**—Бліжэйшыя задачы краязнаўчай працы ў сувязі з выкананьнем пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва . . . . . . . . . . 3
**В. Скардзіс**—Літоўцы па Беларусі (працяг) . . . . 8
**Віт. Вольскі.**—Беларускія элемэнты ў бытавой абраднасьці літоўскіх татар . . . . . . . . . 23

## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**І. Крывіцкі.**—Будаўніцтва сельскае гаспадаркі Случчыны . 30
**А. Жаўрыд.**—Лекавыя сродкі народнай мэдыцыны . . . 59
Проф. **П. Салаўёў.**—Атрутная мошка . . . . . . 63
**А. Шашалевіч.**—Па Дзьвіне ў Сураж . . . . . 64
**Г. Лагун.**—Мікольскі кірмаш у Рагачэве . . . . . 71
**І. Карандзей.**—Помнікі старасьветчыны і краявіды Вульскага і Расонскага раёнаў у Полаччыне . . . . . . 74
**Т. Гурыновіч.**—Там, дзе знойдзены Старобінскія грыўны . 75
**С. Мялешка.**—Праца навукова-дасьледчае экспэдыцыі Цэнтальных Дзяржаўных Рэстаўрацыйных майстэрняў у Полацку . 77

## ХРОНІКА.

Інструкцыйны ліст да ўсіх краязнаўных організацый БССР . 81
Дзейнасьць ЦБК . . . . . . . . . . 82
Што атрымала ЦБК і час. „Наш Край" у красавіку—ліпені мес. 1929 г. . . . . . . . . . . 83
Ахова помнікаў прыроды на Украіне . . . . . . 84
Пэрспэктывы цукраварэньня ў Беларусі . . . . . 85
Другая Латвійская географічная конфэрэнцыя . . . . 85
Экспэдыцыя па вывучэньні помнікаў старасьветчыны г. Полацку 87
Разьведачная археолёгічная экспэдыцыя . . . . . 87
Па калгасах Азарыцкага раёну . . . . . . . 89
Краёвая бібліографія . . . . . . . . 91

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 8-9 (47-48) Жнівень-Верасень 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Бліжэйшыя задачы краязнаўчае працы ў сувязі з выкананьнем пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

Пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры СССР і БССР, які зьяўляецца практычнай часткай програмы Комуністычнай партыі на бліжэйшы адцінак часу, для поўнага свайго ажыцьцяўленьня патрабуе вялікага напружаньня сіл працоўных мас, энэргіі, культуры мас і максымальнага скарыстаньня ўсіх дасягненьняў тэхнікі і навукі. „А што навуковая праца нам патрэбна, — гэта бясспрэчна. Бо... у нас, як асноўная энэргетычная база, выяўлены толькі торф, іншыя нашы прыродныя багацьці яшчэ зусім ня вывучаны. А для таго, каб ажыцьцявіць плян, трэба ўзьняць усё—і што на зямлі, і што пад зямлёй, што толькі можна ўзьняць на справу індустрыялізацыі БССР. А ўзьняць гэта можна толькі праз пашырэньне працы навукова-дасьледчых устаноў. Тут стаяць гіганцкія задачы па стварэньню матар'яльнай і энэргетычнай базы на падставе навукова-дасьледчай працы". (З дакладу т. Галадзеда на IX Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў).

У выяўленьні прыродных вытворчых сіл і энэргетычных рэсурсаў краіны значную ролю павінны адыграць і нашы краязнаўчыя організацыі і паасобныя краяведы, асноўнай задачай якіх павінна быць дапамога і актыўны ўдзел у вывучэньні ўсіх сродкаў, якія можна скарыстаць у мэтах соцыялістычнага будаўніцтва гаспадаркі і культуры.

Навукова-дасьледчая праца ўсіх інстытуцый наогул і краязнаўчых організацый у прыватнасьці ў нашай дзяржаве павінна быць цесна ўвязана з працай нашых дзяржаўных гаспадарчых і культурна-асьветных устаноў у іх плянавай працы соцыялістычнага будаўніцтва.

„У апошні час мы маем вялікае імкненьне, асабліва з боку раёнаў, займацца плянавай працай; гэта зусім натуральнае жаданьне лепш кіраваць сваёй гаспадаркай на месцы, ў раёне, на вёсцы зьяўляецца няўхільным вынікам і неадымнай часткай ажыцьцяўленьня ўсяго таго вялізарнага будаўніцтва, якое адбівае пяцігадовы пэрспэктыўны плян. І толькі ўдзелам самага шырокага актыву працаўнікоў і шырокіх мас рабочых і сялян магчыма ажыцьцявіць высока-напружаныя ліміты, якія дадзены і зацьверджаны Зьездам Саветаў.

Дзякуючы гэтаму, *кожны завод* павінен знаць, у чым вызначаецца яго пяцігодка, якія запатрабаваньні пяцігадовы пэрспэктыўны плян усклаў на тыя трэсты, на тыя прадпрыемствы, якія складаюць гэты самы трэст; *кожны раён* (падкрэсьлена мной. В. С.) павінен яскрава сабе ўявіць, якія акруговыя заданьні мае ўся акруга, і да чаго павінны імкнуцца раён, вёска, каб гэтыя акруговыя заданьні былі выкананы". (М. Карклін. „Далейшая праца па пяцігодцы". Сав. Бела-

русь, № 133, 1929). І паасобныя гаспадарчыя ўстановы імкнуцца да плянавай працы. Мне, напр., прыходзілася быць прысутным на вытворчай нарадзе ў савгасе Палялюм (Барысаўскага раёну Менск. акр.), на якой рабочыя савгасу ўжо ставілі пытаньне аб пяцігадовым пляне савгасу і выказвалі нездаваленьне, што Белсельтрэст яшчэ да гэтага часу такога пляну ня мае, а гэта затрудняе плянаваньне гаспадаркі ў паасобных савгасах.

„Зараз за агульнымі прынцыповымі месцамі акруговых пяцігодак павінны быць шырока распрацаваны практычныя мерапрыемствы, г. зн., *дзе* павінен быць пабудован завод ці прадпрыемства, *як* трэба падняць ураджайнасьць у раёне, *якіх* можна чакаць вынікаў (падкрэсьлена мной. В. С.). Згрупаваўшы такім чынам увагу ўсяго насельніцтва на гэтых конкрэтных пытаньнях, мы даб'ёмся таго практычнага адбітку нашай пяцігодкі на мясцох, у вёсцы, на заводзе, у школе і г. д., да якога заклікае нас партыя". (Там-жа).

На мясцох пакуль што мы яшчэ (як у гэтым я ўпэўніўся) такой прапрацоўкі пяцігадовага пляну ня маем.

І зусім зразумела, што краязнаўчыя організацыі, якія ставяць сваёй задачай вывучэньне свайго краю (раёну, сельсавету) у практычных мэтах дапамогі разьвіцьцю нашай соцыялістычнай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і пролетарскай культуры, павінны ў сваёй плянавай практычнай працы орыентавацца на пяцігадовы плян у яго прыстасаваньні да мясцовых умоў, да задач свайго раёну, сельсавету і паасобных гаспадарак (прамысловае прадпрыемства, савгас, колгас).

Асноўным зьместам плянаў працы краязнаўчых організацый павінны быць якраз пытаньні — вывучэньня і популярызацыі індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскае гаспадаркі, разьвіцьця культуры мас. Іншыя пытаньні (вывучэньне мінулага, фольклёр і г. д.) павінны занімаць другараднае месца.

Якія-ж конкрэтныя задачы павінны паставіць перад сабой краязнаўчыя організацыі, орыентуючыся і выходзячы з пяцігадовага пляну разьвіцьця гаспадаркі і культуры БССР? Краязнаўчыя організацыі ў гарадох і на паасобных прамысловых прадпрыемствах павінны максымум увагі ўдзяліць задачам рэконструкцыі прамысловасьці ў абхопе свайго дасьледваньня. Сюды могуць увайсьці прыблізна такія пытаньні: вывучэньне асноўных момантаў процэсаў вытворчасьці ў сувязі з рацыяналізацыяй працы; вывучэньне якасьці, запасаў і забясьпечаньня прамысловасьці сыравінай; вывучэньне рынкаў збыту продуктаў вырабу і ступені задаваленьня паасобнымі прадпрыемствамі запатрабаваньняў спажыўцоў; дасьледваньне ўмоў працы рабочых на розных прадпрыемствах і магчымасьці палепшаньня якасьці працы, падняцьця дысцыплінаванасьці ва ўсіх галінах прамысловасьці; вывучэньне пытаньня зьніжэньня сабекошту продуктаў вытворчасьці і г. д. Пытаньні палепшаньня ўмоў жыцьця рабочых, падвышэньня іх кваліфікацыі, падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы — таксама павінны заняць належнае месца ў працы краязнаўчых організацый, зьвязаных з прамысловасьцю.

Вывучэньне паасобных галін прамысловасьці і паасобных прадпрыемстваў павінна выявіць іх дынамічнае разьвіцьцё і далейшыя пэрспэктывы. З гэтага пункту погляду цікава зьвярнуць належную ўвагу і вывучыць правядзеньне і вынікі соцыялістычнага спаборніцтва паасобных прамысловых прадпрыемстваў.

„Асаблівае месца павінна заняць выяўленьне новых галін прамысловасьці і папаўненьне тымі асортымэнтамі, у якіх зараз ёсьць недахоп на нашым шырокім таварным рынку“. (М. Карклін).

Што-ж да прадпрыемстваў мясцовай і коопэрацыйнай прамысловасьці, дык гэтае пытаньне далёка яшчэ не прапрацавана. Тут „галоўная ўвага павінна быць сконцэнтравана на правільнай ацэнцы сырцовай базы, на падставе якой павінны быць пабудаваны гэтыя прадпрыемствы“. (М. Карклін).

У сучасны момант трэба лічыць асабліва неабходным усебаковае вывучэньне і монографічнае апісаньне паасобных фабрык і заводаў. Гэта будзе мець вялікае практычнае значэньне ў сэнсе шырокай популярызацыі разьвіцьця нашай прамысловасьці, выяўленьня працы, умоў жыцьця і быту рабочых.

Аднэй з вялізарных задач пяцігадовага пляну зьяўляецца задача рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі, падняцьця яе на вышэйшую тэхнічную базу, організацыі яе згодна навуковых даных. „Прышоў час, калі стала асабліва неабходным аграмаджаньне сялянскай гаспадаркі. *Узмацняйце сялянскую гаспадарку на коопэрацыйным грунце!* — вось цэнтральны лёзунг дня“. (З дакладу т. Калініна на XVI Усесаюзн. конфэр. ВКП(б). Гэтаму аграмаджаньню сялянскай гаспадаркі, будаўніцтву па магчымасьці буйных колгасаў (і саўгасаў) нашы краязнаўчыя організацыі павінны дапамагчы ў максымальнай меры, і гэта тым больш патрэбна, што да гэтага часу мы яшчэ ня вывучалі належным чынам нашага колгаснага будаўніцтва, рост якога адбываўся досыць стыхійна. Роля краязнаўчых організацый—навукова ў популярнай форме паказаць селяніну перавагу вядзеньня буйное гаспадаркі над гаспадаркай дробнай. „Эти преимущества экономики более крупного зажиточного крестьянского хозяйства перед мелким и мельчайшим бедняцким и середняцким хозяйством,—эти преимущества должны заставить нас глубже вдуматься в наши деревенские задачи. Надо указать на это крестьянину и растолковать, что в этом теперь основное зло деревни и в этом ее основное экономическое противоречие, и поэтому же в этом заключается центр наших задач в отношении деревни“ (з прамовы т. Молатава на 15 партзьезьдзе). Вынікі краязнаўчых дасьледваньняў дробных індывідуальных гаспадарак беднякоў і сераднякоў з аднаго боку і буйных (колгасаў пераважна) з другога дадуць шмат фактычнага, лічбовага матар‘ялу, на якім найлепш будзе паказаць селяніну патрэбнасьць організацыі буйное колектыўнае гаспадаркі, яе перавагу, экономічную мэтазгоднасьць.

Неабходна зьвярнуць увагу і належным чынам дасьледваць прычыны, якія стымулююць організацыю колектыўных гаспадарак у адных выпадках і затрымліваюць іх разьвіцьцё, часамі выклікаюць іх распад. Так, напр., у мэтах практычнага садзейнічаньня колгаснаму будаўніцтву пажадана і патрэбна дасьледваць, у якой меры робіць уплыў на організацыю колгасаў ступень коопэраванасьці насельніцтва, залежнасьць іх ад рынку, роля складаных сельска-гаспадарчых машын і інш. і наколькі перашкаджаюць колгаснаму будаўніцтву кулацкія процівадзеяньні і агітацыя, народная цемра, адсутнасьць агродапамогі.

Пры вывучэньні колгасаў неабходна дасьледваць: ролю прасьцейшых форм колектывізацыі (таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі, арцелі) у організацыі і сельска-гаспадарчых комун, а таксама наколькі незабясьпечанасьць гаспадарак інвэнтаром выклікае і паскарае колектывізацыю дробных сялянскіх гаспадарак. Вельмі цікава і карысна бу-

дзе выявіць, наколькі і ў залежнасьці ад якіх прычын ураджай у колектыўных гаспадарках вышэй, чым у гаспадарках індывідуальных (нават вярхушчачных—найбольш буйных), наколькі колгаснае будаўніцтва зьнішчае трохпалёўку, уводзіць новыя палепшаныя спосабы апрацоўкі і ўгнаеньня зямлі, дапамагае разьвіцьцю жывёлагадоўлі і інш. Пытаньні організацыі колектыўнай працы, яе дысцыпліны, будаўніцтва новага быту—зьяўляюцца пытаньнямі вельмі актуальнымі для сучаснага моманту. Цікава выявіць і такія пытаньні: наколькі колектыўныя гаспадаркі карыстаюцца наёмным інвэнтаром або ў якой ступені інвэнтар (машыны) колгасаў здаецца ў часовае платнае карыстаньне сялянам бліжэйшых вёсак (факты адмоўныя, выяўленыя ўсесаюзным перапісам колгасаў).

Проблема падвышэньня ўраджайнасьці ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках і правядзеньне ў жыцьцё шэрагу прасьцейшых агрыкультурных мерапрыемстваў (пераход на шматпольле, ужываньне мінэральных угнаеньняў, барацьба з засьмечанасьцю палёў, барацьба са шкоднікамі культурных расьлін і г. д.[1]), зразумела, павінна заняць пэўнае месца ў працы ўсіх краязнаўчых організацый.

„Для ажыцьцяўленьня задач узьняцьця сельска-гаспадарчай вытворчасьці мы яшчэ павінны прыняць шэраг агрыкультурных мерапрыемстваў і нам трэба сапраўды ажыцьцявіць задачу агрыкультурнай рэволюцыі; нам трэба на зьезьдзе сказаць, што закон нашага ўраду, які мы выдалі аб агромінімуме, аб прасьцейшых формах агрономічных мерапрыемстваў, што закон гэты павінен быць настольным каляндаром кожнага селяніна, і што ён павінен праводзіцца ў жыцьцё, стварыць навакол гэтага пытаньня шырокую грамадзкую думку, мобілізаваць увагу сялянства на тое, каб уздым сельскай гаспадаркі забясьпечвалі ня толькі сродкамі вытворчасьці (гэта, вядома, важнейшае), але і сур'ёзьнейшай працай па ажыцьцяўленьню агрыкультурнай рэволюцыі (з дакладу т. Галадзеда на IX Усебеларуск. Зьезьдзе Саветаў). Зразумела, што для ажыцьцяўленьня пастаўленай нашым урадам задачы агрыкультурнай рэволюцыі нельга будзе абмежавацца аднэй агітацыяй за правядзеньне ў жыцьцё нават прасьцейшых агрыкультурных мерапрыемстваў. Тут патрэбна будзе шырокае і грунтоўнае вывучэньне гэтага пытаньня ў яго практычнай пастаноўцы, патрэбна вывучэньне ўдалых досьледаў і спроб, патрэбны факты, лічбы, наглядны паказ. Улічыць конкрэтныя запытаньні і запатрабаваньні сялян і даць належныя адказы на гэтыя запытаньні—справа мясцовых агропрацаўнікоў і краязнаўчых організацый, якія вядуць дасьледчую і популярызацыйную працу.

„На шляху да перабудовы сельскай гаспадаркі нам сустрэнуцца значныя цяжкасьці. Неабходна сьвядомае і трапнае выкарыстаньне навейшых дасягненьняў навукі. Неабходна *мэтазгодна і рацыянальна выкарыстоўваць сялянскую працу*". (З дакладу т. Калініна на V Зьезьдзе Саветаў СССР. Падкрэсьлена намі. В. С.). А між тым, калі мы паглядзім, як у нашых вёсках за кожнай бараной у полі ідзе дарослы мужчына або падлетак, за 1-2 каровамі ўвесну—пастух з кожнага двара, калі ў нас малоцяць цэпам, чысьцяць зерне ручной веялкай і г. д., дык перад намі сапраўды паўстане ва ўсю велічыню пытаньне аб рацыяналізацыі сялянскай працы ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках, а таксама і ў колектыўных (дзе справа з рацыяналізацыяй працы стаіць

[1]) Больш дакладна аб гэтым у маім артыкуле „Проблема падвышэньня ўраджайнасьці і краязнаўства. („Наш Край" № 3. 1929 г.).

яшчэ далёка не на належнай вышыні). Усякія дасягненьні ў гэтым кірунку (рацыяналізацыі працы) нам неабходна належным чынам дасьледваць і азнаёміць з імі працоўныя сялянскія масы, арганізаваць іх для больш рацыянальнай працы пры дапамозе мясцовых грамадзкіх арганізацый (колектыўна набыць малатарню або сартыроўку для агульнага карыстаньня і інш.).

Арганізацыя і рацыяналізацыя сялянскай працы асабліва патрэбна ў галіне хатніх рамёстваў, на якія ў нас да гэтага часу зварачвлася вельмі мала ўвагі і якія могуць і павінны яшчэ ў бліжэйшыя гады адыгрываць значную ролю ў сялянскай гаспадарцы. „Нельзя забыть при проектировке пятилетнего плана и про кустарную промышленность. Можно было бы подумать так, што эти крупные темпы развития нашей тяжелой индустрии и нашей индустрии вообще, не свойственные темпу ни одной капиталистической страны, происходят за счет вытеснения кустарей, кустарных промыслов, так развитых в нашей стране со старых времен. Но это было бы ошибочным представлением. Мы наряду с крупными программами роста для нашей промышленности предусматриваем соответствующий рост и кустарной промышленности. Производство кустарной промышленности увеличивается в два раза при огромном увеличении числа лиц, занятых кустарным промыслом... Кустарная промышленность важна с точки зрения борьбы с избыточной рабочей силой, и с точки зрения развития мощного источника снабжения нашего народного хозяйства предметами потребления. [З дакладу т. Куйбышава на XVI Усесаюзн. конфэр. ВКП(б)].

Вось у гэтай справе, у справе вывучэньня сучаснага стану нашай хатняй і саматужнай прамысловасьці, у высьвятленьні шляхоў яе далейшага разьвіцьця, коопэраваньня вытворчасьці і рацыяналізацыі працы нашы краязнаўчыя арганізацыі могуць зрабіць шмат пры ўмове ўзгадненьня сваёй працы з сельска-гаспадарчай коопэрацыяй і белсельпромсаюзам. Краязнаўчыя арганізацыі могуць у значнай меры выявіць попыт рынку на вырабы розных галін саматужнай прамысловасьці ў данай мясцовасьці і дапамагчы іх пашырэньню альбо заснаваньню новых відаў прамысловасьці. Наогул можна сказаць, што ў арганізацыі і разьвіцьці дробнай прамысловасьці, зьвязанай галоўным чынам з мясцовым рынкам, краязнаўчыя арганізацыі могуць прарабіць значную працу і дапамагчы ажыцьцяўленьню пяцігадовага пляну.

Разьвіцьцё нашай мясцовай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі патрабуюць вывучэньня і выкарыстоўваньня нашых прыродных багацьцяў і мінэральных адкладаў. „Аднэй з характэрных рысаў пяцігадовага пляну зьяўляецца тое, што ён пабудаваны на інтэнсыўным спальваньні торфу“ (Рыкаў), які ў нас (у БССР) „укараняецца ня толькі ў прамысловасьць і электрофікацыю, але і ў быт як апал, што замяняе дровы“. (Галадзед). Дзеля гэтага вывучэньне адкладаў торфу для апалу і ўгнаеньня, залежаў вапны і г. д. павінна зьявіцца аднэй з задач краязнаўчых арганізацый.

У нашай пяцігодцы строга праведзена клясавая лінія; гэтую-ж клясава-пролетарскую лінію трэба захаваць і ў плянах раёнаў, сельсаветаў і паасобных прадпрыемстваў. Краязнаўчыя арганізацыі павінны ўлічыць гэта і сваю дасьледчую працу праводзіць пад пунктам гледжаньня *клясавай барацьбы* ў горадзе і вёсцы.

Да ўсяго вышэйсказанага неабходна дадаць яшчэ адну вельмі важную задачу, якую краязнаўчыя арганізацыі павінны паставіць перад сабой, — папулярызацыю сярод шырокіх працоўных мас конкрэтных

мерапрыемстваў, прынятых зьездам саветаў, акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі. Адначасна з абгаварэньнем прынятых мерапрыемстваў павінна быць пастаўлена задача высьвятленьня найлепшага выкананьня прынятага пляну, дабаўленьне новых, непрадбачаных пяцігодкай пытаньняў. Творчая ініцыятыва мас павінна выявіцца ў поўнай меры пры практычным ажыцьцяўленьні пяцігадовага пляну ў мясцовым маштабе.

Мы закранулі толькі некалькі пытаньняў, некалькі конкрэтных задач пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, у вырашэньні якіх краязнаўчыя організацыі могуць і павінны прыняць належны ўдзел. Зусім зразумела, што праца гэтых організацый у справе вывучэньня і папулярызацыі соцыялістычнага будаўніцтва і выкананьня пляну будзе найбольш карыснай і патрэбнай, калі яна (праца) будзе ўвязвацца з конкрэтнымі плянамі мясцовых гаспадарчых і культурнаасветных установ, партыйных, саюзных і грамадзкіх організацый.

*В. Самцэвіч.*

---

**В. Скардзіс.**

# Літоўцы на Беларусі[1]).

*(Нарыс аб літоўскіх колёніях).*

### Гаспадарчае разьвіцьцё колёній і іх экономічны стан.

З боку гаспадарчага разьвіцьця літоўскія вясковыя паселішчы вельмі слаба дасьледваны і вывучаны. Матар'ялаў, якія далі-б мажлівасьць устанавіць дынаміку гаспадарчага росту колёній і больш-менш поўна высьвятлялі-б іх сучасны экономічны стан, няма. Тыя-ж весткі, якія нам удалося здабыць, вельмі абмежаваныя; на падставе іх можна зрабіць толькі самыя агульныя заўвагі. Краязнаўчая праца, якая, на вялікі жаль, да гэтага часу яшчэ зусім не разгорнута сярод літоўцаў-сялян, магла-б вельмі многа даць у напрамку вывучэньня экономічнага стану і быту літоўскіх вёсак.

У вывадах папярэдняга разьдзелу намі падкрэсьлівалася, што пэрспэктываў бліскучага гаспадарчага разьвіцьця для пераважнае масы перасяленцаў, аб чым яны марылі выяжджаючы на Беларусь, тут не аказалася. Гэта здарылася дзякуючы цэламу шэрагу акалічнасьцяй.

Справа перасяленьня належыць да самых цяжкіх момантаў сялянскага жыцьця. Яна патрабуе вялікіх клопатаў, значных сродкаў і шмат працы. У апісаньні ўзьнікненьня паасобных вёсак намі зазначаліся тыя цяжкасьці і перашкоды, якія павінны былі перамагчы колёністыя пры набываньні зямлі.

Як агульная зьява, колёністыя з першых-жа дзён адчувалі востры недахоп грашовых сродкаў. Усе сродкі былі патрачаны на пераезд і ўплату гатоўкаю за зямлю. Частка з іх перавозіла свой скарб чыгункаю (да Віцебску), рэшту шляху праяжджалі грунтавымі і прасёлачнымі дарогамі. Нямала было і такіх перасяленцаў, якія накіроўваліся на новыя месцы коньмі (па аднэй-дзьве фурманкі ўсяго скарбу!), бо не хапала грошай на чыгунку. У колёніі Сафійск расказваюць, што адзін з колёністых у часе перасяленьня з Літвы, набліжаючыся да колёніі, узяў у карчме шкалік гарэлкі. Выпіваючы гарэлку, ён прыз-

[1]) Гл. „Наш Край“ № 6-7. 1929 г.

наўся сваім таварышам: „ведаеце, братцы, апошнія 20 капеек прапіваю З чым і як буду жыць далей — ня ведаю“. Бясспрэчна, такія выпадкі маглі быць нярэдкімі.

Можна сабе ўявіць, наколькі цяжкімі былі першыя гады жыцьця колёністых на чужыне. Трэба было засноўвацца па новых мясцох, нярэдка зусім незаселеных, на полі, або ў лесе, у лепшым выпадку, на месцы старых фальваркаў. Ня ўсе перасяленцы выяжджалі адразу. Напрыклад, у Сафійску. некаторыя прыехалі праз год-два, і, нават, тры. Пасьля прыезду сюды яны павінны былі цясьніцца ў панскім доме, прыстасоўваючы і няжылыя будоўлі на скорую руку для жыцьця, пакуль ня былі пабудаваны пастаянныя хаты.

Некалькі год самай напружанай працы перасяленцы аддалі на забудаваньне сваіх двароў, набыцьцё патрэбнага сельска-гаспадарчага інвэнтару, рабочае жывёлы. Ня дзіўна, што прыходзілася зьвяртацца і да найму рабочых рук, асабліва для прац пры будаваньні.

Колёністыя ў сваёй масе мелі магчымасьць набыць даволі значную колькасьць зямлі. Разьмяркоўвалася зямля паміж імі згодна вялічыні ўнесенага ў пакупное таварыства капіталу; зямля пераходзіла ва ўладаньне на правох індывідуальнае ўласнасьці. Хаця няўдобнымі зямельнымі плошчамі, як хмызьнякі, балоты, яны карысталіся разам цэлай вёскай пад папас для скаціны, аднак і гэтыя плошчы знаходзіліся на вучоце паасобных двароў, пропорцыянальна зямельнай забясьпечанасьці апошніх. У якасьці зямельнае адзінкі многія вёскі ўжывалі валоку (20 дзесяцін зямлі розных угодзьдзяў); цяпер гэтая адзінка ўжо страціла сваё ранейшае практычнае значэньне,

Забясьпечанасьць зямлёю, пераважна лясною плошчаю, у паасобных дварох назіралася настолькі вялікая, што яны маглі прадаваць пэўныя часткі свае зямельнае маемасьці іншым асобам, ці з асяродку мясцовага беларускага насельніцтва ці наяжджаўшым з Літвы новым перасяленцам [1]).

Вось некаторыя весткі адносна першапачатковай забясьпечанасьці зямлёю перасяленцаў. Так, па вёсцы Б. Асінаўка з 11 заснаваўшыхся гаспадарак — тры гаспадаркі мелі па 2,5 валокі зямлі розных угодзьдзяў, і ніводнай гаспадаркі ня было, якая-б мела менш аднае валокі зямлі. У Сафійску з 29 гаспадарак — пяць гаспадарак мела па 1 валоцы, чатыры — па $1^1/_2$ вал., дванаццаць — па 2 вал., дзьве — па 3 валокі, тры — па 4 вал., адна — 5 валок і дзьве па 7 валок. Як бачым, ужо пры заснаваньні колёній наглядалася значныя дыфэрэнцыяцыя гаспадарак.

Але такі высокі ўзровень забясьпечанасьці зямлёю захаваўся вельмі нядоўга. Таму былі, галоўным чынам, дзьве прычыны: а) распродаж зямель і б) сямейныя разьдзелы. Хаця номінальна за гаспадаркамі лічылася даволі многа зямлі, але, як агульная зьява, прыгоднай для с.-г. эксплёатацыі ворнае зямлі, амаль што ўва ўсіх колёніях было вельмі недастаткова. Фальварковая зямля, якую набывалі перасяленцы, складалася пераважна з лясоў, пустыроў, хмызьнякоў, балот. Так у Сафійску на 1801 дзесяціну ўсяе купленае зямлі прыходзілася ворнае землі і сенажацяў ня болей 120 дзесяцін. Уся астатная плошча знаходзілася пад лесам і балотамі.

[1]) Напр., у Сафійску некалькі сямействаў прыехала з Літвы 3-4 гады пасьля заснаваньня колёніі.

Каб пасьпяхова разьвіваць гаспадарку, колёністым неабходна было з першых-жа дзён прыступіць да расьцярэбліваньня лясоў, асушкі балот, расчысткі хмызьнякоў. Для гэтага, апрача напружанай працы, патрэбны былі сродкі (с.-г. прылады, рабочая жывёла) і грошы. Сродкаў-жа далёка не хапала. Толькі нямногія колёністыя мелі патрэбную рабочую жывёлу. Пераважная большасьць гаспадарак адчувала востры недахоп грашовых сродкаў, бо усё, што было ад ліквідацыі маемасьці ў Літве, было затрачана на пакупку зямлі і пераезд на новыя месцы. Ня было і с.-г. інвэнтару. Так, колёністыя, асеўшыя ў ліку 11 сямействаў у Б. Асінаўцы, прывезьлі з Літвы трох коняй і некалькі сох. Незабясьпечанасьць рабочаю жывёлаю назіралася і па іншых колёніях.

Паўстаўшыя перад колёністымі задачы па абсталяваньню дворных будоўляў, набываньню жывога і мёртвага с.-г. інвэнтару, неадкладнай неабходнасьці павялічэньня нехапаючае ральлі, што вымагала расчысткі хмызьнякоў, выцярэбліваньня лясоў, асушкі балот — ставілі насельніцтва ў надзвычайнае цяжкае палажэньне.

Адзінаю крыніцаю, якая магла-б даць колёністым належныя сродкі, зьяўлялася эксплёатацыя ўласных лясоў і частковы распродаж зямель. Ліквідацыя часткі зямельнае маемасьці вымагалася яшчэ і тымі плацяжамі, якія ляглі на колёністых. Справа ў тым, што ніводзін з колёністых не набыў сабе зямлі без банкаўскага крэдыту. Крэдытаваньне-ж вымагала паступовага пагашэньня пазыкі і выплаты вызначаных процантаў. Апрача таго, колёністым належала, як і вакольнаму беларускаму сялянству, выплачваць рознастайныя дзяржаўныя падаткі і зборы, што яшчэ болей пагоршыла іх экономічны стан [1]).

Скараціць вялікія даўгі банку і паменшыць прыпадаючыя на зямлю дзяржаўныя падаткі і зборы можна было толькі шляхам продажу часткі зямлі. Некаторыя колёніі і прымушаны былі стаць на такі шлях [2]).

Траплялiся таксама выпадкі поўнага ліквідаваньня паасобнымі сем'ямі сваіх гаспадарак, якія, з прычыны вялікіх гаспадарчых цяж-

---

[1]) У купчай крэпасьці па Сафійску, пасьля вызначэньня плошчы фальварку (1801 дзес. 2122 кв. саж.), гаворыцца, што гэтая зямля пераходзіць ва ўласнасьць новых уладальнікаў „с переводом на них, покупщиков (... пералічваюцца асобы) за круговою друг за друга ответственностью лежащего на означенном имении долга Виленскому Земельному Банку, в залоге которого означенное имение состоит по свидетельству Могилевской Соединенной Палаты уголовного и гражданского суда от 12 октября 1876 года за № 53—14450 в сумме тринадцати тысяч шести сот рублей, сроком с 31 декабря 1876 года на сорок три с половиной года; коего дома за произведенными уплатами на 1 января 1887 г. состоит двенадцаь тысяч шестьсот двадцать четыре руб. девяносто восемь коп., с обязательством для них, покупщиков, уплачивать Банку за каждое полугодие вперед не позже 30 июня и 31 декабря каждого года по три и три четверти процента от первоначальной суммы займа, то-есть по пятисот десяти рублей и со всеми иными обязательствами по этому долгу в отношении к Банку. Взял я, продавец, с них, покупщиков, за то свое имение денег серебром двадцать пять тысяч руб., включая в эту сумму и вышеозначенный, переводимый на них, покупщиков, долг Виленскому Земельному Банку".

Колёнія Б. Асінаўка плаціла за валоку гатоўкаю 400 рублёў і настолькі-ж крэдытавалася ў Маскоўскім сялянскім пазямельным банку, з растэрміноўкай на 48 год, па 12% гадавых. (Апошнія даныя не праверны).

[2]) К 1893 году ў Сафійску з агульнае колькасьці зямлі ў 1801 дзесяціну засталося толькі 795 дзесяцін; зямля была прадана вакольным беларускім вёскам. (Акулінцы, Сухары).

касьцяў і нездаволенасьці новым жыцьцём, зварочваліся зноў на радзіму, або перасяліліся ў іншыя месцы імпэрыі [1]).

Лясы, якія былі набыты колёністымі разам з зямлёю, эксплёатаваліся зусім нерацыянальна; лясныя багацьці ня мелі выгаднага збыту, а купецтва мала цікавілася невялічкімі ляснымі дзялянкамі вяскоўцаў, бо ў тыя часы ішоў масавы распродаж панскіх лясоў. Колёністыя, праўда, маглі пастаўляць у бліжэйшыя гарады і мястэчкі дравяныя матар'ялы — і гэта складала важнейшую крыніцу іх гаспадарчага прыбытку на працягу доўгіх гадоў. Аднак, некаторыя колёніі былі пазбаўлены і такога рынку збыту для сваіх лесаматар'ялаў з прычыны значнай адлегласьці іх ад гарадзкіх цэнтраў. Заставалася адно: за бясцэнак збываць лесаматар'ялы вакольнаму насельніцтву, або, што таксама практыкавалася, паліць іх на месцы, у лядах.

Паступова павялічвалася плошча ральлі, вырубаліся і выкарчоўваліся лясы, узрастала колькасьць насельніцтва, драбіліся гаспадаркі і ўжо к 1914 году ня было і паміну тых лясных багацьцяў, якія меліся ў колёніях у часе іх заснаваньня. У сучасны момант частка колёній будаўнічыя лесаматар'ялы і апал набываюць праз дзяржаўныя лясьніцтвы, нярэдка з вельмі адлеглых лясных дач. Дзяржаўная лясная політыка і менавіта закон аб лясох мясцовага прызначэньня літоўскае насельніцтва сустрэла вельмі прыхільна, бо ў ім яно бачыць правільнае выйсьце зляснога крызысу.

Зараз-жа пасля перасяленьня колёністым трэба было прыпісацца ў мясцовыя падатковыя станы. У Літве яны лічыліся сябрамі сялянлянскіх грамадзтваў. Большая частка іх прыпісалася і тут да сялянскага стану, перавёўшы з урадавых устаноў Літвы свае пасямейныя сьпісы. Пакуль справа было ўладжана — а патрабавалася на гэта некалькі год — для адбыцьця вайсковай павіннасьці моладзь прымушана была езьдзіць па сваіх прызыўных вучастках у Літве.

Былі, аднак і такія колёніі, як напр. „Сафійск“, дзе колёністыя прыпісаліся, знайшоўшы для сябе больш выгадным, да мяшчанскага стану пры б. павятовым гор. Чавусы. Яны аж да самай рэволюцыі знаходзіліся ў веданьні мяшчанскага старасты, дзе ім выдаваліся і пашпарты і іншыя докумэнты. Але заставаліся, як у Сафійску, так і ў некаторых іншых колёніях увесь час і такія сем'і, якія ня былі прыпісаны ні да якога стану ў Беларусі аж да 1914 г. (пачатак вайны). Дзеці іх, якія нараджаліся тут, адбывалі вайсковую павіннасьць праз прызыўныя вучасткі Літвы. Падаткі-ж яны ўплачвалі разам з усімі колёністымі. У сучасны момант насельніцтва ўсіх літоўскіх колёній зьяўляюцца грамадзянамі БССР.

Колёністыя з першапачатку асядалі вёскамі. Ні пасёлкавая сыстэма ні хутарская ў той час, як у Літве, так і на Беларусі, распаўсю-

[1]) Пры заснаваньні калёніі Сафійск быў утворана выселак Супонічы з 8 гаспадарак. Праз два—тры гады выселак расфармаваўся, і колёністыя разышліся хто куды. Адны з іх вярнуліся ў Літву, іншыя, як відаць, разсяліліся па розных мясцох Беларусі і скора зусім згубілі сувязь з астаўшыміся ў Сафійску. У пэрыод між 1888—1890 і ў Сафійску 7 гаспадарак ліквідавалі маемасьць і выехалі, прадаўшы сваю зямлю астаўшымся і нова-прыбыўшым колёністым.

Корэсподэнт літоўскае газэты „Raud Art“. № 14—1927 г. аб вёсцы Трыпукі (Віцеб. акр.), якая заснавалася ў 1887 г. у ліку 25 сем'яў так піша: „Цяжка было жыць. Падаткі былі вялікія, выплачваць ня было моцы. У 1906 г. банк за несваечасовую ўплату процантаў прадаў зямлю 6 гаспадароў, і 28 асоб засталося бяз крову. Жыхарства другой вёскі, убачыўшы, што ўсё роўна ня змогуць выплаціць доўгу, прадалі сваю зямлю і разышліся па шырокай Расіі. У нашай вёсцы засталося толькі 5 гаспадарак, якія існуюць і цяпер.

джанымі ня былі. Аднак, вёскі, заснаваныя колёністымі, некалькі розьніліся ад беларускіх. Характэрным зьяўлялася тое, што будынкі ў літоўскай вёсцы разьмяркоўваліся ня ў выглядзе аднаго двара з выхадам у адны вароты, як у беларусаў, а паасобку: жылы дом стаяў некалькі паводаль ад халодных будынкаў, а паміж імі адкрытае месца — двор. Жылы дом звычайна складаўся з дзьвюх хат, за сенцамі пасярэдзіне. Як агульнае зьявішча, перад домам раскідваўся невялічкі городзік для кветак і нярэдка блізка ад дому сад. Часамі каля дамоў некаторыя гаспадары ставілі вялікія драўляныя крыжы — звычай, вывезены з Літвы. Такія крыжы можна назіраць яшчэ і цяпер у некаторых колёніях. Паасобнае разьмеркаваньне будынкаў двара, гародзікі з кветкамі каля хат і, нярэдка, прыгожыя сады, месцамі вялікія драўляныя крыжы ля хат, ужываемая ў абыходзе літоўская мова — вось тыя вонкавыя рысы, якія і цяпер яшчэ адрозьніваюць літоўскую вёску ад беларускай.

У першым разьдзеле гэтага артыкулу намі прыводзіліся статыстычныя даныя аб літоўскім насельніцтве па БССР. Але да гэтага часу шмат вясковых паселішчаў, нават, і павярхоўна яшчэ не дасьледваны. Ёсьць некоторыя весткі па 58 вёсках, якія так разьмяркоўваюцца па акругах:

| Акругі | Колькасьць вясков. нас. пунктаў | Колькасьць насельніцтва | Гаспадарак |
|---|---|---|---|
| Аршанская . . . | 17 | 1628 | 286 |
| Віцебская . . . | 22 | 774 | 143 |
| Магілеўская. . . | 1 | 345 | 58 |
| Менская . . . . | 2 | 220 | 42 |
| Полацкая . . . | 16 | 504 | 101 |
| Усяго . . | 58 | 3471 | 630 |

У гэтую табліцу ўвайшлі толькі тыя насельныя пункты, якія ахоплены працаю Літбюро пры ЦК КПБ і інспэктара літкультуры пры Наркамасьвеце, і калі тое-сёе [вядома аб часе ўзьнікненьня гэтых вёсак, месцы іх знаходжаньня, прыблізнай колькасьці насельніцтва, дык ніякіх вестак няма аб быце насельніцтва, аб яго гаспадарчым становішчы. Насельніцтва гэтых вёсак складае толькі 72% усяго літоўскага сялянства на Беларусі. Няма ніякіх даных аб літоўцах у Бабруйшчыне, Гомельшчыне, Мазыршчыне, дзе, паводле статыстыкі, жыве больш за 400 чалавек. Няма таксама вестак аб жыцьці колёністых (да 900 чалавек) і па тых акругах, дзе культурнае абслугоўваньне літоўцаў больш-менш наладжана. Тут, як відаць, шмат чаго яшчэ ня зроблена з прычыны позна распачатай працы.

Аб сучасным экономічным становішчы літоўскіх колёній мы, за адсутнасьцю матар'ялаў, можам сказаць вельмі мала.

Ужо зазначалася, што першапачатковыя літоўскія паселішчы прынялі выгляд вёсак, радзей пасёлкаў. Як і паўсюды, літоўская вёска ўжывала трохпольную сыстэму апрацоўкі зямлі. Гэтая сыстэма сама

па сабе не магла рабіць сельскую гаспадарку інтэнсыўнаю. Хаця колёністыя і вывезьлі з Літвы нядрэннае ўменьне гаспадарыць, але яны, як культуртрэгеры вёскі, адставалі ад латышоў. Апроч таго, цяжкі матар'яльны стан большасьці гаспадарак, асабліва ў першыя гады пасьля перасяленьня, і наяўнасьць культурнае адсталасьці самых перасяленцаў— не маглі спрыяць экономічнаму разьвіцьцю літоўскай вёскі. Адсутнасьць сродкаў не давала магчымасьці набываць патрэбны сельска-гаспадарчы інвэнтар, купляць штучнае ўгнаеньне. Вялікая патрэба ў гэтым адчувалася тады, калі ворная зямля з-пад ляд ужо высілілася і патрабавала лепшай апрацоўкі. Хаця паасобныя гаспадаркі і мелі зямлі ня так мала, але выкарыстаць яе культурным спосабам не маглі. Што-ж датычыцца незаможных гаспадарак, дык яны, сьціснутыя дзяржаўнымі падаткамі і банкаўскімі плацяжамі з аднаго боку і знаходзячыся ў экономічнай залежнасьці ад заможных і кулацкіх гаспадарак з другога боку — не маглі ісьці ў экономічных адносінах далёка ўперад. Распачатае пасьля рэволюцыі 1905 г. дзяржаўнае крэдытаваньне сельскай гаспадаркі давала наогул вельмі нязначныя вынікі. Але выкарыстоўваць гэтую сыстэму крэдытаваньня маглі толькі больш заможныя гаспадаркі; бедната і нават сярадняцкія гаспадаркі лічыліся неплацежаздольнымі і не маглі спадзявацца на падтрыманьне іх крэдытам.

Паводле вельмі няпоўных даных можна меркаваць, што да імпэрыялістычнай вайны агульны гаспадарчы ўзровень літоўскага сялянства не перавышаў і амаль што нічым не адрозьніваўся ад гаспадарчага ўзроўню вакольных беларусаў. Ужо пры ўзьнікненьні літоўскае вёскі назіралася ў ёй пэўная дыфэрэнцыяцыя гаспадарак. З цягам часу дыфэрэнцыяцыя павялічвалася. К 1914 году меліся гаспадаркі даволі заможныя і, нават, кулацкага тыпу, зямля якіх пасьля рэволюцыі падпала пад абрэзку. Цяпер, аднак, як і раней, пераважную большасьць гаспадарак складае сярадняцкі тып. Бясспрэчна, што да 1917 г. заможных і кулацкіх гаспадарак было больш, чым у сучасны момант. Зямельная рэформа савецкае ўлады дала мажлівасьць абяднеўшым колёністым і беззямельным атрымаць бясплатна зямлю і гэтым павялічыць свае надзелы за кошт кулацкай і абшарніцкай зямлі. У выніку земляўпарадкаваньня была праведзена абрэзка зямлі ў гаспадарках літоўцаў Расьнянскага раёну Аршанскай акругі, Лёзнянскага р. Віцебскай акругі і іншых мясцох. Гэтая рэформа выклікала вялікую задаволенасьць беднаты.

Было нямала выпадкаў і перасяленьня беззямельных або малазямельных двароў на абшарніцкія землі.

Павярхоўна абсьледваныя ў канцы 1927 і ў пачатку 1928 году 250 літоўскіх двароў-гаспадарак, што складае прыблізна каля 25% гаспадарак па БССР. падзяляюцца на наступныя маемасныя групы: (Весткі ўзяты з кнігі „Практическое разрешение нацвопроса в БССР" ч. II-я).

| | | | |
|---|---|---|---|
| заможных . . | 32 | гаспадаркі . . | 12,8% |
| серадняцкіх. . | 141 | „ . . | 56,4% |
| бядняцкіх . . | 74 | „ . . | 25,6% |
| беззямельных . | 3 | „ . . | 1,2% |

Ніжэй мы прыводзім больш падрабязныя даныя, сабраныя ў 1929 г., па 9 літоўскіх вёсках розных акруг (Магілеўскай, Віцебскай Полацкай і Аршанскай), якія ахапляюць 141 гаспадарку і 722 едакі, пры 1199,35 гэкт. зямлі (ральля і сенажаць).

Памянёныя 141 гаспадарка па забясьпечанасьці зямлёю падзяляюцца на такія групы[1]):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гаспадарак беззямельных | . . . . . | 2 — | 1,4% |
| „ якія маюць ад | 1—3 гэкт. | — | — |
| „ „ „ | 3—5 „ | 15 — | 10,7% |
| „ „ „ | 5—10 „ | 88 — | 62,4% |
| „ „ „ | 10—15 „ | 33 — | 23,4% |
| „ „ „ | 16 і больш | 3 — | 2,1% |

Такім чынам выходзіць, што 12,1% сялянскіх гаспадарак не забясьпечаны і мала забясьпечаны зямлёю, сярэдня забясьпечана 62,4% і добра забясьпечана 25,5%.

Вось табліца, якая паказвае дыфэрэнцыяцыю гэтых гаспадарак па рабочай жывёле (у процантах):

| Бяз коняў | З 1 канём | З 2-ма коньмі | З 3-мя коньмі | З 4-мя коньмі |
|---|---|---|---|---|
| 8,5% | 70,9% | 18,5% | 2,1% | — |

Як бачым, у параўнаньні з зямлёю, рабочаю жывёлаю гаспадаркі забяспечаны слабей.

Некалькі лепш абстаіць справа з рагатаю жывёлаю:

| Ня маюць кароў | 1 карова | 2 каровы | 3 каровы | 4 каровы |
|---|---|---|---|---|
| 3,5% | 43,3% | 38,4% | 12,0% | 2,8% |

Даных аб дыфэрэнцыяцыі гаспадарак па пасеўнай плошчы і с.-г. інвэнтару ў нас ня было. Аднак прыведзеныя табліцы усё-ж такі даюць магчымасьць зрабіць вывад, што пераважная большасьць з 141 гаспадаркі—серадняцкі тып; бяз коняй—8,5%, і заможных гаспадарак, відавочна, кулацкага тыпу (з 3 коньмі, 4 каровамі і звыш 16 гэктараў зямлі) налічваецца каля 3%. У гэтай масе гаспадарак ёсьць каля 22% вызваленых ад уплаты сельска-гаспадарчага падатку.

Зусім зразумела, што прыведзеныя намі вельмі абмежаваныя даныя і зробленыя на падставе гэтых даных вывады зусім не зьяўляюцца здавальняючымі і дастатковымі для таго, каб мець належнае ўяўленьне аб агульным экономічным стане літоўцаў на Беларусі.

Вышэй зазначалася, што да 1914 году ў літоўскіх гаспадарках панавалі экстэнсыўныя формы апрацоўкі глебы з трохпольным севазваротам. Шматпольле практыкавалася рэдка, абмяжоўваючыся пасевамі канюшыны. Аднак, цяга да больш інтэнсыўных форм гаспадаркі назіралася ў літоўцаў-сялян ужо даўно. Значная частка насельных пунктаў была земляўпарадкавана ў часе „сталыпінскай" рэформы і перайшла на хутарскую сыстэму. Меншая частка земляўпарадкавалася пасьля рэволюцыі. Параўнальна вялікіх вёсак, яшчэ не земляўпарадкаваных, засталося зусім мала. Тут бедната ўсялякім чынам хадайнічае аб пяскораньні земляўпарадкаваньня. Заможная частка колёністых, палохаючыся зямельнае абрэзкі, імкнецца рабіць перашкоды гэтай справе. Распластаваньне беларускай літоўскай вёскі вызначаецца до-

[1]) Весткі ўзяты з анкет камісіі па вывучэньні літколёній пры літкатэдры Бел. Ак. Навук

сыць выразна. Кулацтва імкнецца рабіць уплыў на серадняка, выступаючы з лёзунгам нацыянальнага адзінства.

У апошнія гады сярод літоўцаў назіраецца жаданьне палепшыць сваю гаспадарку, якая за часы войн прышла ў заняпад. Дзяржаўны крэдыт пачынае даваць станоўчыя вынікі, асабліва сярод дробных гаспадарак. Мацнеюць ня толькі індывідуальныя гаспадаркі, растуць і колектывістычныя пачаткі ў іх. У колёніях організоўваюцца машынныя т-вы, колёністыя ахвотна далучаюцца да мэліярацыйнай справы, якая шырока разгорнута на тэрыторыі БССР, уцягваюцца і ў іншыя віды коопэрацыі. У бягучым годзе 10 гаспадарак з вёскі Сафійск утварылі колектыў „Новае Жыцьцё", якому мяркуецца прыдаць жывёлаводны ўхіл. (Колгас мае 186 гэктараў зямлі).

У паляводзтве да гэтага часу пераважваюць зернавыя культуры: жыта, авёс, ячмень. Раскіданым па глухіх кутках Беларусі, у вялікай адлегласьці ад прамысловых прадпрыемстваў і гарадоў, колёністым ня так лёгка пераводзіць свае гаспадаркі на больш інтэнсыўныя культуры. А між тым яны да гэтага маюць і здольнасьць і ахвоту. У даваенныя часы сярод колёністых значнае распаўсюджваньне мела вытворчасьць ільну. Лён, можна сказаць, зьяўляўся вельмі важнаю крыніцаю прыбытковасьці гаспадаркі. Малазямельныя гаспадаркі нярэдка арэндавалі для засеву пад лён зямлю ў абшарнікаў. Пасеўная плошча ільну часамі даходзіла да дзьвюх і больш дзесяцін у аднэй гаспадарцы. Напрыклад, у колёніі Сафійск выпрацоўвалася ў некаторыя гады да 1.000 пудоў ільнянога валакна, частка якога збывалася на рынак, па цане ад трох да пяці рублёў за пуд, а рэшта заставалася на свае гаспадарчыя патрэбы.

Вайна і затым рэволюцыйныя падзеі зусім скарацілі плошчу засеву ільну, які культываваўся ў гэты час толькі для ўласных патрэб.

За апошнія два гады ізноў назіраецца рух у напрамку павялічэньня пасеўнае плошчы пад лён. Контрактацыя ільнаводзтва, выдаваньне коопэрацыйнымі організацыямі крэдытаў і насеньня ільнаводным гаспадаркам, увядзеньне даволі высокіх цэн на валакно—ўсё гэта зьявіцца надзейным стымулам для разьвіцьця культуры гэтае тэхнічнае расьліны.

Культура бульбы і бабовых расьлін яшчэ ня выходзяць за межы натуральнага гаспадарчага спажываньня. За апошнія часы, праўда, наглядаецца зацікаўленасьць пасевамі канюшыны, асабліва ў тых колёніях, дзе няма добрых сенажацяй.

Інвэнтар для апрацоўкі зямлі прыкметна паляпшаецца: ужываюцца пераважна жалезныя плугі і бароны. Сахі ў літоўскіх гаспадарках ужо не знайсьці. Малацьба збожжа часьцей праводзіцца машынаю. Серп пачынае замяняцца касою.

Даць малюнак аб становішчы жывёлагадоўлі ў літоўскіх вёсках мы ня можам, дзеля адсутнасьці вестак. Гэтая галіна гаспадаркі, відавочна, не зьяўляецца асноўнаю, аб чым выразна гавораць прыведзеныя вышэй табліцы.

Наглядаецца тэндэнцыя да распаўсюджваньня птушніцтва. Так, з ліку тых гаспадарак, весткі аб якіх мы бралі з анкет, у 25 гаспадарках разводзяцца гусі (ад 5 да 10 шт. і больш на гаспадарку), і гэты занятак, бязумоўна, павялічвае прыбытковасьць гаспадарак.

Пчалярства і да вайны ня мела шырокага распаўсюджаньня сярод колёністых; пчолы былі толькі ў рэдкіх паасобных гаспадарках.

Зусім заняпаўшае за часы войн пчалярства цяпер зноў пачынае ажываць і, нават, пашырацца (у коленіі Сафійск 5 гаспадарак уладае 30 калодамі пчол).

Саматужныя промыслы ў літоўскіх коленіях распаўсюджаны даволі слаба. Гаспадарак, якія жылі-б выключна адным рамяством, няма. У памянёных вышэй 141 гаспадарцы, якія абсьледваны анкетным парадкам, налічваецца: краўцоў—9, шаўцоў—3, кавалёў—4, сталяроў—4, слесароў—2. Гэтыя асобы, мала кваліфікаваныя ў сваёй спэцыяльнасьці, не парываюць з земляробствам і займаюцца сваімі промысламі ў вольны час.

Садоўніцтва, даволі пашыранае ў некаторых коленіях (Сафійск, Глушыца і інш.), ня прымае, аднак, прамысловай формы, хаця здача ў арэнду садоў у ўраджайныя гады зьяўляецца пэўнаю крыніцаю гаспадарчага прыбытку.

Трэба зазначыць досыць высокую пастаноўку ў коленіях хатняга вырабу розных гатункаў тканіны. Кожная гаспадарка мае кросны, і жанчыны вырабляюць з ільну і шэрсьці палотны і сукны, рознастайную шарсьцяную і паўшарсьцяную тканіну даволі добрай якасьці. Продукцыя ткацтва, аднак, ня служыла мэтам збыту на рынак, а толькі патрэбнасьцям гаспадаркі. Заняпад льнаводзтва, вялікая дарагоўля баваўняных і шарсьцяных нітак фабрычнага вырабу паслужылі прычынаю таго, што ў апошнія гады якасьць тканіны панізілася. Аднак ткацтва і да гэтага часу вельмі распаўсюджана, хаця гэта праца і зусім не аплачваецца. Гэта сьведчыць толькі аб тым, што товарнасьць літоўскіх гаспадарак вельмі слабая для таго, каб здавальняць свае патрэбы фабрычнаю тканінаю.

## Стан культуры ў літоўцаў.

Колёністыя прывезьлі на чужыну вельмі нязначны культурны багаж. Як ведаем, яны паходзілі галоўным чынам, з усходняй часткі Літвы, дзе культурны ўзровень вясковага насельніцтва ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя быў даволі нізкі. Пасьля падзеяў паўстаньня 1863 году расійскі ўрад забараніў літоўскі друк у мэтах хутчэйшай русіфікацыі краю. Аб разьвіцьці культуры ў умовах самага жорсткага нацыянальнага прыгнечаньня не магло быць і гутаркі. Друкаваныя кнігі і літаратура нелегальна дастаўляліся ў Літву з-за межаў (з Нямеччыны і Амэрыкі). Літоўскія гарады русіфікаваліся і полёнізаваліся, літоўская вёска гібела ў цемры, ня маючы школы, кнігі. І калі друкаванае слова на роднай мове ўсё-ж такі пападала у заходнюю Літву, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку царскай паліцыі і жандараў, дык ва ўсходняй яе частцы справа ў гэтым напрамку стаяла зусім дрэнна. Нацыянальны ўціск штурхаў літоўца-селяніна да саюзу з консэрватыўным духавенствам, якое падтрымлівала шкодны клерыкалізм на вёсцы, дастаўляючы ёй толькі рэлігійную літаратуру, атручваючы нацыянальную сьвядомасьць рэлігійным дурманам.

І на Беларусі колёністыя хутка апынуліся пад уплывам клерыкалаў-ксяндзоў. Дзе толькі траплялісяя тут, у каталіцкіх парахвіях, больш-менш компактныя масы літоўскага насельніцтва, туды абавязкова прызначаліся ксяндзы, якія валадаюць літоўскай мовай. З тае прычыны, што колёністыя тут адчувалі сябе як-бы адарванымі ад радзімы, першыя гады жылі зусім абасоблена, хаця вакольнае беларускае насельніцтва зусім не праяўляла да іх якіх-небудзь варожых адносінаў,—

ксяндзы вельмі хутка падпарадкавалі іх свайму ўплыву. Вось чаму клерыкалізм і цяпер яшчэ дае сябе моцна адчуваць сярод колёністых.

Сваіх школ колёністыя мець не маглі. У расійскія-ж школы дзяцей сваіх яны доўгі час не пасылалі. Прычынамі таму былі: а) адсутнасьць сродкаў на ўтрыманьне дзяцей у школах (кватэра, стол і г. д.), бо блізкіх школ амаль ня было, б) тыя-ж з колёністых, хто і меў сродкі, асьцярагаліся расійскай школы, як крыніцы русіфікацыі і праваслаўя. Дзеці заставаліся няпісьменнымі. Няпісьменнасьць сярод перасяленцаў была вялікая. Напрыклад, у Сафійску, у 1886 г., з 146 чалавек толькі двое было скончыўшых вясковую школу і восем — малапісьменных. Больш за 90% няпісьменных! Як бачым, культурны ўзровень колёністых ня быў вышэй, чым у вакольных беларусаў.

Ксяндзы-ж рабілі сваю справу. Яны дамагаліся аднаго толькі, каб літоўцы заставаліся „добрымі каталікамі". А для гэтага трэба было ведаць малітвы. І вось адзінай кнігай, якая была распаўсюджана сярод колёністых, зьяўляўся маліцьвенік. Бацьком рупіла, каб дзеці іх умелі чытаць гэтую кнігу. Па іх уласнай ініцыятыве арганізоўвалася навучаньне дзяцей. Дзеля гэтага зімою зацікаўленымі справаю навучаньня дзяцей бацькамі наймаўся „дарэктар" (больш пісьменная асоба з колёністых) і ўтваралася нешта накшталт школьнага навучаньня. Такія „школы" ставілі перад сабою задачу навучыць дзяцей чытаць маліцьвенік. На працягу аднае ці дзьвюх зім такая мэта лічылася дасягнутай і навучаньне спынялася. Пісьму тут рэдка вучылі, а толькі чытаньню, бо самі „дарэктары" слаба ведалі пісьмовыя мудраваньні. У якасьці падручніка ўжываўся лемантар і маліцьвенік на літоўскай мове. Зразумела, што такія школы не маглі даваць здавальняючыя вынікі і пасунуць уперад асьветную справу сярод колёністых. Такі выгляд гэтая справа мела да пачатку бягучага стагодзьдзя.

Рэволюцыя 1905 г. ажывіла культурнае жыцьце Літвы, а гэта, у сваю чаргу, адгукнулася і ў асяродзішчы колёній. Пасьля дазволу літоўскага друку пачалі выдавацца ў Літве газэты, часопісы і кнігі, розных напрамкаў і плыняў. Друкаваная літаратура дакатвалася і да літоўскіх колёній на Беларусі. Літаратура рэволюцыйнага зьместу сюды не пападала. У часе руска-японскае вайны жыхарства Сафійску, Малькаўкі і іншых вёсак выпісвалі з Вільні газэту „Vilniaus Žinios" („Віленскія Весткі") — першы друкаваны орган на літоўскай мове ў Расіі. У пэрыод рэакцыі (1908—1914 гг.) сюды прыходзілі часопісы і газэты, галоўным чынам клерыкальнага зьместу: „Šaltinis" („крыніца"), „Vienybe" („Адзінства"), „Aušra" („Зара"). Але, трэба заўважыць, што выпіска газэт не насіла масавага характару: у гэтых культурных пачынаньнях былі зацікаўлены толькі адзінкі.

З гэтага часу наглядаецца ўжо большая зацікаўленасьць з боку колёністых і асьветнаю справаю наогул, бо некаторыя магчымасьці для гэтага былі. Так, па ініцыятыве насельніцтва ў 1906 годзе ў колёніі Малькаўка была адчынена літоўская школа. Запрошаны з Літвы настаўнік аплачваўся сродкамі самаабкладаньня. Школа існавала каля двух год і дала даволі станоўчыя вынікі. З дзецьмі раньняга школьнага ўзросту навучаньне вялося на роднай мове, вучні старэйшых груп вывучалі і расійскую мову. У сьвяточныя дні школа праводзіла культурную работу і з дарослымі: гутаркі, чытаньне газэт. Паліцыя скоса на гэта паглядала, але да пары яна не перашкаджала ёй. Толькі ў 1907 г., калі царызм зноў адчуў пад нагамі цьвёрдую глебу, калі

загуляла ўваўсю рэакцыя, мясцовая ўлада безадкладна прапанавала зачыніць школу, а настаўніку выехаць. Вёска зноў засталася бяз школы.

К таму часу сетка расійскіх школ некалькі пашырылася, і некаторыя колёністыя пачынаюць ужо накіроўваць у школы сваіх дзяцей, але і гэтая зьява была далёка ня масаваю. Дзеці, як правіла, заставаліся без асьветы, і ў культурных адносінах літоўскія вёскі не стаялі вышэй за беларускія.

Гаспадарчыя сувязі і зносіны літоўцаў з суседнім беларускім і польскім насельніцтвам спрыялі працэсу асыміляцыі. Гэты працэс выразна адбіўся на звычаях і на мове. На жаль, пытаньне аб стопню асыміляцыі навукова яшчэ не дасьледвана. Але некаторыя вывады, на падставе нагляданьяў за жыцьцём колёністых, зрабіць можна. Вывады зводзяцца к наступнаму: 1) Большую ступень самабытнасьці (захоўваньне роднае мовы, нацыянальных звычаяў і павер'яў) ў сучасны момант мы назіраем сярод вясковага літоўскага насельніцтва, і асабліва там, дзе яно ня так раскідана між іншымі народнасьцямі і жыве компактнаю масаю. Там асыміляцыя яшчэ параўнальна нязначная, і ў хатнім абыходзе колёністымі ўжываецца выключна літоўская мова. Але ў размоўную літоўскую мову ўвайшло многа расійскіх і беларускіх слоў. У больш дарослых і старых людзей мова значна чысьцей, чым у моладзі, дыялект якой мае значную прымешку барбарызмаў. Слоўнік літоўскіх слоў у колёніях прыкметна зьмяншаецца. У цяперашнім дыялекце колёній ужываецца ня менш 10—15% беларуска-расійскіх слоў, хаця і цяпер яшчэ сустракаюцца жанчыны, якія гавораць толькі па-літоўску. Старыя, вывезеныя з Літвы, народныя літоўскія песьні забываюцца і паступова выцясьняюцца песьнямі беларускімі і расійскімі. Усё часьцей і часьцей моладзь ладзіць гульні і забавы на іншых мовах. 2) Мацней адчуваюцца вынікі асыміляцыі там, дзе літоўцы раскіданы паасобнымі дварамі між беларусаў і палякаў (напр. хутары у Віцебскай і Полацкай акругах). Там ужо сустракаюцца двары, якія ў хатнім абыходзе часьцей ужываюць беларускую, ці беларусізаваную польскую мову. 3) На выцясьненьне літоўскае мовы і нацыянальных звычаяў робяць уплывы і шлюбы літоўцаў з беларусамі і палякамі. Такія сваяцкія сувязі служаць фактарам да пранікненьня ў літоўскія масы беларусізацыі і робяць даволі актыўны ўплыў на працэс асыміляцыі. 4) Яшчэ мацней працэс асыміляцыі захапіў літоўскае насельніцтва ў гарадох.

Усё гэта пацьвярджаецца і данымі дэмографічнага перапісу 1926 году. Перапіс нам падае лічбы аб ступені захаванасьці літоўскае мовы. Ніжэйпаданая табліца паказвае, якая колькасьць з агульнай лічбы літоўскай народнасьці лічыць сваёю размоўнаю моваю — літоўскую, і якая колькасьць насельніцтва ўжывае ў якасьці размоўнае мовы іншыя мовы (беларускую, расійскую і іншыя)[1]). (Гл. наст. стар.).

З гэтай табліцы відаць, што каля 64% літоўскай народнасьці ў БССР сваёю размоўнаю моваю лічыць—літоўскую, 8%—беларускую, 20%—расійскую і 8%—іншыя мовы (часьцей за ўсё польскую). У горадзе і на вёсцы малюнак ужываньня мовы, а дзеля гэтага і ступень асыміляцыі, не аднолькавыя. У той час, як у гарадох толькі 29% літоўцаў ужывае сваю родную мову, а рэшта насельніцтва гаворыць на

---

1) „Всесоюзная перепись населения 1926 года“ т. X. Бел. Сов. Соц. Республика. Издание Ц. С. У. Союза С. С. Р. М. 1928 г.

| Народнасьць | Усё насельніцтва | | | Колькасьць асоб з роднаю мовай | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Мужчыны | | | | | Жанчыны | | | | |
| | М. | Ж. | Абодвых станаў | Сваёй народнасьці | Не сваёй народнасьці: Белар. | Расійск. | Інш. | Родная мова не паказана | Сваёй народнасьці | Не сваёй народнасьці: Белар. | Расійск. | Інш. | Родная мова не паказана |
| Літоўцы . . . | 3503 | 3361 | 6864 | 2201 | 302 | 754 | 244 | 2 | 2155 | 259 | 637 | 307 | 3 |
| У гарадзкіх паселішчах . | 1085 | 1033 | 2118 | 326 | 47 | 569 | 143 | — | 306 | 41 | 484 | 200 | 2 |
| У сельскіх паселішчах . | 2418 | 2328 | 4746 | 1875 | 255 | 185 | 101 | 2 | 1849 | 218 | 153 | 107 | 1 |

іншых мовах, у вясковых паселішчах 80% жыхарства карыстаецца літоўскаю моваю, і толькі 20% іншымі мовамі. Вышэй мы зазначалі тыя прычыны, якія ўплываюць на моцны процэс асыміляцыі сярод гарадзкой часткі літоўцаў і на параўнальную ўстойнасьць супроць асыміляцыі з боку вясковага насельніцтва. Такі, у агульных рысах, ступень асыміляцыі наглядаецца ў выніку больш як 40 год існаваньня літоўскіх колёній, пазбаўленых школы, кнігі і літаратуры на роднай мове. Адсутнасьць культурна-асьветных установаў не магла не адбіцца адмоўна на ўзроўні сельска-гаспадарчае культуры і дабрабыце насельніцтва, аб чым гаварылася ў папярэднім разьдзеле.

У 1915 годзе, у колёніі Сафійск, куды панаехала шмат уцякачоў ад вайны з Літвы, бежанскімі організацыямі рабіліся захады, каб адчыніць тут школы. Школа адчынілася. Яе маглі наведваць і дзеці колёністых. Праіснаваўшы некалькі месяцаў, яна зноў была ліквідавана, бо мясцовая ўлада чамусьці з няпрыемнасьцю цярпела яе існаваньне. Толькі праз год, дзякуючы вялікім стараньням насельніцтва (не абышлося без адпаведнага „гасьцінца“ для мясцовага начальства), тут адчынілася земская школа, але навучаньне вялося выключна на расійскай мове. То быў толькі адзіны выпадак адчыненьня школы ў літоўскай вёсцы да рэволюцыі.

Культурная справа сярод літоўскіх мас належным чынам пачала ажыўляцца толькі ў пасьлякастрычнікаўскі пэрыод. Кастрычнікаўская рэволюцыя скінула з плеч літоўскага селяніна ня толькі ярмо банкаўскіх даўгоў і панскага прыгнечаньня, якія выціскалі яго апошнія сілы, але зрабіла яго роўным ува ўсіх адносінах з усімі грамадзянамі і дала магчымасьць разьвіваць культуру на сваёй роднай мове. Але належным чынам культурная праца ў літколёніях разгарнулася толькі з 1926 году. З гэтага яшчэ ня трэба рабіць вывад, што ў першыя гады пасьля рэволюцыі культурныя патрэбы колёністых зусім ігнараваліся. Наадварот. З боку савецкае ўлады была зьвернута на гэта самая пільная ўвага. У большых літоўскіх вёсках паадчыняліся школы, чаго не даваў царызм. Выкладаньне ў школах вялося на расійскай, а затым на беларускай мовах, бо настаўнікаў-літоўцаў ня было. Але ў хатнім абыходзе дзецьмі ўжывалася выключна родная мова, і навучаньне на чужой, незразумелай для дзяцей, мове не магло, з пункту гледжаньня пэдагогікі, быць нормальным. Школы пачалі змагацца з няпісьменнасьцю і адста-

ласьцю насельніцтва. З боку паасобных колёній прымаліся захады аб засн.ваньні нацыянальных школ. Колёнія Сафійск, напрыклад, у 1919 г. прабавала зьвязацца з Наркамнац'ам у Маскве па пытаньню адчыненьня такой школы. Аднак, захады посьпеху ня мелі. Колёністыя, такім чынам, некаторы час, па об'ектыўных умовах (адсутнасьць настаўнікаў, якія ведалі-б літоўскую мову, і падручнікаў) былі пазбаўлены магчымасьці скарыстаць свае правы, якія яны мелі, як група нацыянальная. Такая акалічнасьць у некаторай меры адбілася на замкнутасьці колёністых. Сярод вясковага насельніцтва наглядалася значная палітычная адсталасьць, неразуменьне існасьці рэволюцыйных падзей і грамадзянскай вайны. Працаўнікі мясцовых савецкіх устаноў і організацый, не ўладаўшыя літоўскаю моваю, часта не маглі сваячасова і чула падыйсьці да здавальненьня патрэб літоўскага сялянства, уразумець асаблівасьці яго інтарэсаў, наблізіць яго да савецкае грамадзкасьці, уцягнуць яго ў агульнае гаспадарчае будаўніцтва на пачатках, высунутых рэволюцыяй. Усё гэта пакідала спрыяючую глебу для працы ксяндзоўклерыкалаў, для іх шкоднай агітацыі супроць рэволюцыі, супроць усялякае клясавае барацьбы на вёсцы. І як вынік такой агітацыі, якая была на руку літоўскаму кулацтву, — назіраліся пэўны час варожыя адносіны часткі вяскоўцаў да новага дзяржаўнага ладу, недаверлівыя погляды на ўсю тую навізну, якую гэты лад уводзіў. У паасобных колёніях, у часе грамадзянскай вайны, насіліся думкі аб тым, каб пакінуць усё і выяжджаць у Літву [1]).

На такі, ня зусім нормальны стан рэчаў, у 1926 годзе з боку партыйных організацый і ўрадавых устаноў БССР была зьвернута самая сур'ёзная ўвага. Па лініі ЦК партыі і Наркамасьветы было праведзена спэцыяльнае вывучэньне культурнага і політычнага становішча літоўскіх колёній. Насельніцтва ўсюды выказвала жаданьне навучаць сваіх дзяцей на роднай мове.

Хутка прайшоў процэс організацыйнага афармленьня працы. Пры ЦК партыі стварылася Літбюро, а для кіраўніцтва культурна-асьветнаю справаю ў літколёніях быў вызначаны пры Наркамасьвеце асобны інспэктар літоўскае культуры.

Самаю неадкладнаю справаю было адчыненьне нацыянальных школ, а там, дзе школы існавалі, — укомплектаваньне іх настаўнікамі літоўцамі. Падбіраліся настаўнікі, адчыняліся школы.

Першыя дзьве нацыянальныя літоўскія школы былі адчынены ў 1925-26 навуч. годзе ў вёсках Рукшыніцы і Усомлі Полацкае акругі. У наступным годзе адчынена і ўкомплектавана настаўнікамі - літоўцамі яшчэ 6 школ: у Крупскім р.—2, Расьнянскім—1, Дубровенскім—1, Ліёзнянскім—1 і Лупалаўскім—1. Праз год адчыніліся дзьве новыя школы ў Віцебской акрузе. У 1928-29 навуч. годзе працавала ўжо 11 аднакомплектавых літоўскіх школ і 1 сталы лікпункт.

З боку ксяндзоў назіраліся спробы нагаварваць насельніцтва супроць пасылкі дзяцей у школы, каб дзеці не зрабіліся „бязбожнікамі-піонэрамі“. Але ксяндзоўская агітацыя ня мела посьпеху. Літоўскае сялянства добра зразумела карысьць асьветы і ахвотна пасылае дзяцей у свае школы, якія карыстаюцца аўторытэтам. У 1927-28 навуч. годзе школы наведвала звыш 350 вучняў. Гэтая невялічкая лічба сьведчыць аб тым, што да 70% дзяцей літоўцаў атрымліваюць пачатковую

[1]) Паасобныя адзінкі моладзі ў 1918-19 г. г. выехалі ў Літву і там засталіся.

асьвету. Якія вялікія дасягненьні праз такі кароткі тэрмін у параўнаньні з тым, што колёністыя мелі пры царызме!

Палітыка-асьветная праца разгорнута і сярод дарослых, асабліва сярод моладзі, якая да гэтага часу была надзвычайна адсталаю. У гэтым напрамку працуюць хаты-чытальні (в Малькаўка) і амаль што ў кожнай вёсцы з'організаваны чырвоныя куткі, якіх налічваецца па БССР—19. Тут ёсьць невялічкія бібліотэкі, выпісваюцца і чытаюцца газэты і кнігі, ставяцца спэктаклі, праводзяцца даклады і гутаркі. Пры школах і чырвоных кутках працуюць розныя гурткі.

Для ўзьняцьця палітыка-асьветнай справы практыкуюцца летнія камандыроўкі ў колёніі студэнтаў літсэктару Комунівэрсытэту Зах. Нац. у Маскве.

Дзякуючы ўсім такім мерапрыемствам культурна-асьветнага хахарактару, палітычная сьвядомасьць літоўскага сялянства ўзрастае. Моладзь паступова ўцягваецца ў комсамольскія організацыі, у школах расьце піонэрскі рух. Па ўзьняцьцю палітычнай асьветы вялікую карысьць прыносяць партыйныя школы-перасоўкі, якія побач з комсамольцамі ахапляюць і беспартыйную моладзь.

Вельмі важнаю задачаю ў сучасны момат зьяўляецца падрыхтоўка настаўнікаў і палітыка-асьветных працаўнікоў, якія ведалі-б літоўскую мову. Справа ў тым, што кожны год адчыняюцца новыя школы, а настаўнікаў не хапае. З восені 1928 г. пры Менскім Белпэдтэхнікуме ўтворана літсэкцыя, якая покуль што складаецца толькі з трох студэнтаў. (Большы набор быў немагчымы за адсутнасьцю падрыхтаванай літоўскае моладзі). Наркамасьветы ўжо прыняў проект аб адчыненьні сельска-гаспадарчай школы для літоўскай моладзі.

Як бачым, шмат працы зроблена ў напрамку ліквідацыі культурнай і палітычнай адсталасьці сярод літоўцаў на Беларусі. Але вялікія задачы стаяць яшчэ наперадзе. Сярод вясковага насельніцтва назіраецца высокі процант няпісьменных. Вось што паказаў дэмографічны перапіс 1926 г.

| Літоўцаў | М. | Ж. | У тым ліку і на мове сваёй народнасьці | | %% пісьменных |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | м. | ж. | |
| Пісьменных у гарадох | 908 | 719 | 287 | 200 | 76,5% |
| „ у вёсках | 1432 | 1116 | 616 | 579 | 53,7% |

Такім чынам, у гарадох налічвалася 23,5%, а па вёсках—46,3% няпісьменнага насельніцтва.

Вялікаю перашкодаю для належнага разгортваньня культурна-асьветнае справы сярод літоўцаў была адсутнасьць школьных падручнікаў і патрэбнай літаратуры на літоўскай мове. Некаторыя падручнікі выпісваліся з Літвы і Амэрыкі. Аднак, замежная літаратура па свайму зьместу зусім не прыстасавана ні да запатрабаваньняў савецкай школы, ні да інтарэсаў нашай грамадзкасьці. Неабходна было выдавецкую справу наладзіць у СССР. Гэта і робіцца. Так, „Гиз“ у Маскве выдаў

некалькі кніжак. У апошні час і Белдзяржвыдавецтва распачало справу друкаваньня літоўскай літаратуры. Ужо выдана некалькі кніжак[1]).

Вялікую ролю ў разгортваньні культурнага будаўніцтва і грамадзкай працы адыграла і адыгрывае літоўская газэта „Raudonasis Artojas“ („Чырвоны Араты“), якая выдаецца ў Менску. Газэта пачала выходзіць з 1 мая 1927 году, спачатку яна выходзіла адзін раз у два тыдні, а ў бягучым годзе стала ўжо тыднёваю газэтаю. Газэта зьяўляецца адзіным друкаваным органам на літоўскай мове на ўвесь СССР. У параўнаўча кароткі тэрмін газэта здолела пранікнуць у самыя глухія літоўскія вёскі, завербавала немалую колькасьць чытачоў, сконцэнтравала вакол сябе культурныя сілы, організавала на мясцох селькораўскія гурткі. Газэта даволі падрабязна высьвятляе жыцьцё паасобных колёній літоўцаў у СССР., падае весткі аб становішчы працоўных у Літве і іншых краінах.

Да масавае работы сярод колёністых, якая іх політычна выхоўвае і стымулюе іх грамадзкую ініцыятыву, належаць раённыя і сельсавецкія конфэрэнцыі, якія часта склікаюцца. У іх прымаюць удзел прадстаўнікі мясцовае ўлады і ад Літбюро пры ЦК КПБ.

У студзені 1928 г. у Менску быў скліканы і адбыўся 1-ы Ўсебеларускі зьезд сялян-літоўцаў. Амаль што кожная вёска мела магчымасьць прыслаць свайго дэлегата. Зьезд зрабіў агляд і ацэнку праведзенай сярод літоўскага сялянства працы і намеціў шляхі і пэрспэктывы далейшай працы. Зьмест пратаколаў паказвае, што зьезд здавальняюча выканаў свае задачы. Выяўленая з боку дэлегатаў актыўнасьць сьведчыць аб тым, што, у выніку тае працы, якая праводзіцца па нацлініі, літоўскае сялянства політычна ўзрасло і паступова ўцягваецца ў гаспадарчае будаўніцтва краіны.

Політасьветная і культурная праца разгортваецца і па гарадох. Гарадзкая частка літоўцаў, як падкрэсьлівалася вышэй, у значнай ступені асыміліравалася; яна складае ў пераважнай большасьці рабочых розных майстэрняў, дробных рамесьнікаў і некаторы процант служачых. Частка гараджан-політэмігранты.

У Менску і Віцебску заснаваны літоўскія клюбы, дзе і концэнтруецца праца па культурным абслугоўваньні гараджан. Больш дзейным зьяўляецца менскі клюб (літсэкцыя пры клюбе Карла Маркса).

Нацыянальных школ у гарадох няма, і дзеці літоўцаў навучаюцца ў агульных школах.

Менская радыо-станцыя часамі практыкуе перадачу радыо-газэты на літоўскай мове.

---

У заключэньне застаецца сказаць, што гэты нарыс далёка ня вычэрпвае закранутых у ім пытаньняў. Намі прыведзены самыя сьцісьлыя і, нават, павярхоўныя даныя аб жыцьці літоўцаў беларускай вёскі і гораду ў мэтах азнаямленьня савецкае грамадзкасьці з становішчам гэтай народнасьці, з тэй аграмаднай працай, якая праводзіцца ў яе шэрагах, і зроблены некаторыя вывады.

Нацменшасьці БССР усё больш і больш уцягваюцца ў рэчышча савецкага социялістычнага будаўніцтва, і адным з атрадаў працоўных у гэтым будаўніцтве зьяўляецца літоўская народнасьць.

---

[1]) Выдадзены ў Менску на літоўскай мове наступныя кнігі: 1) Матулайціса Пахаджэньне рэлігіі, 2) Зборнік рэволюцыйных песьняў, 3) Пратаколы 1-га зьезду сялян-літоўцаў.

Віт. Вольскі.

# Беларускія элемэнты ў бытавой абраднасьці літоўскіх татар.

Шматвяковае супольнае жыцьцё і цесныя культурныя ўзаемаадносіны з вакольным беларускім насельніцтвам не прамінулі ў значнай ступені адбіцца ня толькі на вуснай і пісьмовай славеснасьці літоўскіх татар, але і на іх быце. Асабліва яскрава адбіваецца беларускі ўплыў на знадворнай абраднасьці татар, зьвязанай з рэлігійным рытуалам і з афармленьнем такіх важных у асабістым жыцьці чалавека здарэньняў, як хрэсьбіны, вясельле, хаўтуры і г. д. Найбольш яскравы, багаты этнографічнымі элемэнтамі і характэрны ў гэтых адносінах абрады, зьвязаныя з вясельлем. Некаторыя з іх амаль што цалкам запазычаны татарамі ў сваіх суседзяў-беларусаў, некаторыя-ж прадстаўляюць сабой арыгінальнае злучэньне элемэнтаў беларускай народнай абраднасьці з элемэнтамі мусульманскага рэлігійнага рытуалу і часткаю старадаўнымі татарскімі звычаямі, якія яшчэ захаваліся па сягонешні дзень.

Разгледзім спачатку вясельле, найбольш багатае сваёй этнографічнай колёрытнасьцю.

Вясельлю [1]) папярэджвае звычайна „зговар", альбо „заручыны". Яны адбываюцца наступным чынам: у хаце бацькоў нявесты зьбіраюцца жаніх са сваімі бацькамі і некалькі найбольш блізкіх родных і суседзяў. Пасьля гутаркі на пабочныя тэмы, якія саправаджаюцца выпіўкай і закускай, паміж абодвымі бакамі заключаецца ўмова і вызначаецца тэрмін для вясельля (звычайна праз 3 тыдні, альбо праз месяц). Пасьля гэтага нявеста дае жаніху падарунак шаўковую хустку), а ён дарыць ёй грошы (у старыя часы 5—10 руб). Калі на працягу вызначанага да вясельля тэрміну які-небудзь захоча разыйсьціся, дык зварочвае падарунак (хустку, ці грошы) праз пасланца. Пасьля гэтага ўмова лічыцца парушанай, і шлюб ужо адбыцца ня можа.

Падрыхтоўка да вясельля пачыналася ў старыя часы за тыдзень. На двары ў бацькоў нявесты рабілася кухня. Прыгатаўляўся ў вялікай колькасьці так званы „літоўскі мёд" (гарэлку пачалі піць гадоў 40 таму назад). Кожны з гасьцей прыносіў у залежнасьці ад сваёй заможнасьці: хто па „чверці" мяса, хто па вядру яек і іншых продуктаў. У багатых гаспадароў смажылі на двары быка. У дні вясельля ніхто з суседзяў-гасьцей дома абедаў не варыў: усе хатнія продукты прыносіліся ў „колектыўную" кухню да бацькоў нявесты.

Напярэдадні шлюбу на двары хаты бацькоў нявесты зьбіраюцца бабы і месяць цеста для „караваю" (пірог з разінкамі). Пры гэтым тут-жа на двары грае музыка, часта яўрэйская, звычайна ў складзе скрыпкі, флейты, барабана, клярнэта і цымбал. Музыка наймаецца на ўвесь час вясельля, на некалькі дзён. Бабы месяць цеста і сьпяваюць спэцыяльна да гэтага дапасаваныя песьні [2]), накшталт:

Ой, рысю, мой рысю,
Ды налей вады ў місю.
Будзем ручкі мыці
Ды на вішаньку ліці.

Караваю, мой раю,
Я для цебе граю
Скрыпкамі да дудкамі
Да з маладымі малодкамі

[1]) Усё, што датычыцца да вясельля і прыведзена ніжэй, запісана мною ўлетку 1927 г. сярод татарскага насельніцтва капыльскага раёну б. Слуцкай акругі.

[2]) Усе вясельныя песьні запісаны ў м. Капылі са слоў Хадыджы Ждановіч, 80 год і Бэкіра Мухі, 70 год.

На другі дзень нявеста разам з „дружкамі“ (шаферкамі) зьбіраецца ў хаце якога-небудзь з крэўных альбо суседзяў. Брат нявесты абводзіць яе тры разы вакол стала. Потым ён садзіць яе на „пасад“, г. зн. на дзяжу, пакрытую падушкай, і пачынае расплятаць ёй касу і расчосваць валасы грэбянём. Нявеста плача, а падругі яе сьпяваюць адпаведныя песьні, напрыклад:

I.

Там на гары, гары
Цэркаўка стаяла
Там дзяўчына шлюб шлюбавала
І шлюба пытала:
Шлюбе мой верны, скажы мне праўду,
Ці шлюб шлюбаваці
Ці горы капаці.
Горы капаючы — сяду сапачыну,
А з нелюбым жыўшы — навекі загіну.
Горы капаючы — вадзіцы нап'юся
А з нелюбым жыўшы — навекі ўтаплюся.

II.

Дый ляцелі гусынькі цераз сад
Клікалі Аміню (імя) на пасад.
А штож вам гусынькі да таго
Ёсьць у мяне брацейка для таго.
Ён мяне да шлюбу павядзе.
За правую ручку вядзе,
Сільна плача, места прача,
Тут мая сястра сядзе.

III.

Хадзіла Амінька па двóру
Сеяла вінаград з прыпóлу.
Ня успела варóцейка зачыніць,
Наехал Хасéнька (імя) са сватамі,
Патаптаў вінаград нагамі.
Ня шкадуй, Амінька, жоўтых цьвет,
А пашкудуй, Амінька, маладых лет,
Жоўтыя цьвяточкі зрастуцца,
Ўсе твае раскошы мінуцца

IV.

Да цераз мой двор, да цераз мой двор
Цяцера ляцела
Да не даў мне бог, ня судзіў мне бог
За каго хацела,
З кім стаяла, размаўляла,
Падаруначкі брала.
З каго кпіла, да сьмяялася
Таму сама дасталася.

V.

Пыталася Амінька, ці ўжо сьвет,
Чаму майго Хасéнькі да тут нет.
Пісала-б лісточкі — ня ўмею
Пасылала-б пасла́нца — ня сьмею.
Пашла-б сама, да баюся
Вялікая дарожанька – ўтамлюся,
А на той дарозе — старожа,
Той мяне старожа паймае,
Па русай кóсынцы пазнае.

VI.

Сіня мора калывалася,
Яснае сонца там купалася.
Амінька ваду брала,
Ваду бяручы сама упала.
Ратуй, ратуй, рóдная мама.
Як я буду ратаваць на мору,
Схадзіліся вецер і хвіля
Ўсі чаўночкі пабілі.
Ні чаўночка, ні вясла
Так цябе долюшка ўнясла.

VII.

Там між гор да камóранка,
Там сьвяціла ясна зоранка,
Там Амінька да ваду брала.
Ваду бяручы да ўтанула,
Да тры разы гукнула:
Ратуйце, матуля, да мяне з мора,
Да з вялікага гора.

VIII.

Раскінь, божа, братняе жыта па полю па каласочку,
Як ён раскідаў маю косыньку па плячох па валасочку.

У той час, як нявеста сядзіць на дзяжы, а шаферкі сьпяваюць вышэйпаказаныя песьні, жаніх таксама сядзіць у сваёй хаце разам са сваімі роднымі і прыяцелямі (абавязкова мужчыны) і чакае прыходу муллы. Мулла прыходзіць і садзіць жаніха за стол, падлажыўшы пад яго падушку. Усе пачынаюць піць і закусваць, але жаніху ня можна нават і дакрануцца да чаркі з гарэлкай. Мулла таксама ня п'е. Пасьля

закускі мулла ўстае і, чытаючы малітву, бярэ жаніха за руку, Усе госьці таксама бяруцца за рукі і агульным карагодам абходзяць тры разы вакол стала. Пасьля гэтага з музыкай і скокамі вядуць жаніха ў хату бацькоў нявесты (скокі захавалі ўсходні характар і трохі напамінаюць яўрэйскія вясельныя скокі). Пры гэтым часта пяюць:

1.

А, ты Кубанька (імя), гус барада
Чаму ня жаніўся за маладá.
Мяне панны ня любілі,
Да барады дзяркач прычапілі.
Адна Амінька палюбіла,
Ад барады дзяркач адчапіла.

2.

Ідзі, Хасéнька (імя) ды ня ўбаўляйся,
Бо тваю Аміньку абселі дружкі.
Няхай абсядаюць, а я аб тым ня дбаю
Я сваю Аміньку паміж ўсіх пазнаю.
У маёй Аміньгкі на плячох коскі,
А пад вачыма слёзкі.

Па дарозе жаніха сустракаюць з поўнымі вёдрамі і за гэта ён павінен кінуць у вядро дробныя грошы. Калі падыходзяць да хаты, шаферы ня пускаюць яго на двор і патрабуюць на пачастунак. Жаніх таксама павінен даць што-небудзь. На дварэ яго сустракаюць крэўныя нявесты. Свацьця з вывернутым шэрсьцю ўверх кажухом на плячох выносіць жаніху хлеб-соль, скача перад ім і падводзіць да стала, на якім стаяць на абрусе тры шклянкі з вадой і міска з ячменем. Жаніх бярэ ячмень і кідае ў натоўп гасьцей, а ваду вылівае з усіх шклянак па чарзе цераз плячо. У той час нявеста ўсё яшчэ сядзіць на дзяжы, а шаферкі сьпяваюць і заплятаюць ёй косы. Шаферы жаніха ідуць у хату па нявесту. Шаферкі нявесты патрабуюць ад іх „выкупу“. Шаферы даюць ім што-небудзь (звычайна цукеркі), пасьля чаго вядуць нявесту ў хату яе бацькоў. Там яе чакае ўжо жаніх. Нявесту ставяць побач з жаніхом. Абодвы стаяць на кажусе, які пасьцелены на падлозе шэрсьцю ўверх. Шлюб робіцца муллой па звычайнаму мусульманскаму рытуалу. Зараз-жа пасьля сканчэньня абраду, дзяўчаты стараюцца як мага хутчэй ухапіцца за кажух, выцягнуць яго з-пад ног маладых і выкінуць на двор. Хлапцы перашкаджаюць ім у гэтым і цягнуць кажух назад у хату. Старыя кажуць, што тая дзяўчына, якая хутчэй за ўсіх выкіне кажух за дзьверы, выйдзе хутчэй за ўсіх замуж. Маладыя цалуюцца з муллой (руку яму падаюць праз хустку), з сваякамі і гасьцямі. Пасьля гэтага пачынаецца сьваткаваньне, якое ў старыя часы ў залежнасьці ад матар'яльнага стану гаспадароў цягнулася ад трох да пяці дзён (цяпер-жа звычайна абмяжоўваюцца адным толькі вечарам і закускай на другі дзень). Спачатку садзяцца за стол толькі старыя і паджылыя госьці. Мужчыны садзяцца за адзін стол, а жанчыны за другі. Моладзь у гэты час пачынае скокі ў якім-небудзь іншым памяшканьні. За сталом жанчыны сьпяваюць жартаўлівыя прыпеўкі, напрыклад:

Выпіла, пахіліла
Сама сабе пахваліла.
А я добрага рóду,
П'ю гарэлку, як вòду.
А я ўпілася не за вашае,
Мая курачка зьняслася,
За яечка я ўпілàся.
Я п'ю, бо хачу
І шкляночку пакачу.
А я добры звычай маю,
Што па поўнай выпіваю.

Калі старыя скончылі частавацца, ім на зьмену ідзе моладзь у тым-жа парадку: хлапцы за адным сталом, дзяўчаты за другім. А падпіўшыя ўжо старыя ў сваю чаргу ідуць скакаць. Скачуць толькі старадаўныя танцы: так званы „парабэчак“ (краковяк), полонэз, мазурку, полькі, англэз, кадрыль, вальсы. Лявоніху і іншыя народныя, як кажуць

„простыя“, скокі ніколі не танцуюць, аддаючы перавагу „шляхотным“ танцам.

Моладзь частуецца разам з „маладымі“, прычым „маладыя“ павінны есьці з аднэй талеркі і аднэй лыжкай. Раздаюцца крыкі „горка“. „Маладых“ прымушаюць цалавацца. Потым моладзь ідзе ізноў танцаваць у які-небудзь загадзя прырыхтаваны дом. Моладзь танцуе звычайна полькі, венгерку, ту-стэп і розныя гарадзкія танцы, якія прасачыліся з гораду ў вёску. Танцуюць з вялікім захапленьнем (сярод вакольнага насельніцтва татары наогул вядомы, як добрыя і здольныя танцоры). „Маладыя“ застаюцца на ноч у хаце бацькоў нявесты. Госьці здалёку кладуцца спаць дзе прыдзецца: на дварэ, на падлозе, у сенцах, па суседніх хатах і г. д. Зранку ізноў зьбіраюцца госьці. Закусваюць і п'юць. На апошні дзень вясельля выпраўляюць нявесту, цяпер ужо „маладуху“ ў дом жаніха, цяпер ужо мужа. Перад адпраўкай у дом маладога, маладую садзяць за стол на падушку і завязваюць вочы хусткай. Перад ёю ставяць пірог (каравай). Потым малады бярэ яе за рукі, абводзіць тры разы вакол стала і ставіць перад пірагом. Яна бярэ пірог разам з абрусом. Дзяўчаты стараюцца выхапіць з яе рук абрус. Пасьля гэтага маладую выводзяць з завязанымі вачыма на двор. Пры гэтым сьпяваюць часта наступную старадаўнюю песьню, запазычаную, як відаць па зьместу і характару мовы, ў полёнізаванай каталіцкай шляхты:

Сёндай, сёндай, каханьне маё
Ніц не паможа плаканьне тваё.
А каханьне не паможэ,
Стаяць коні, стаяць вóзы пазакладаны на двожэ.
Я ня бенда з табой сяндала
Яшчэ ойцу не дзенькавала.
А дзенкуе, мілы ойчэ,
Цо хадзіла ў цебе ў злоце.
А тэраз ня бендам.
Сёндай, сёндай і г. д.
Я ня бенда з тóбой сяндала,
Яшчэ сваёй матцы не дзенькавала.
Ой дзенькуе, міла матка,
Цо чэсала глова гладка.
А тэраз ня бендзе.
Сёндай, сёндай і г. д.
Я ня бенда з тобой сяндала,
Яшчэ свайму брату не дзенкавала
Ой, дзенкуе, мілы браце,
Цо сядзелі ў еднэй хаце.
А тэраз ня бендзем.
Сёндай, сёндай і г. д.
Я ня бенда з тóбой сяндала
Яшчэ сваёй сёстры не дзенькавала.
Ой, дзенькуе, міла сёстра,
Цо мы жылі з тóбой остра.
А тэраз ня бендзем.
Сёндай, сёндай і г. д.
Я ня бенда з тáбой сяндала
Яшчэ свайму столу не дзенкавала
Ой, дзенькуе тобе, столе,
Цо лежалі мòе стрóе.
А тэраз ня бендам.
Сёндай, сёндай і г. д.
Я ня бенда з тобой сяндала
Яшчэ свайму прòгу не дзенькавала
Ой, дзенькуе, мілы прóге,
Цо хадзілі мóе нóгі
А тэраз ня бендам.

За маладой ідуць яе бацькі і сваякі. Калі выходзяць са двара або выяжджаюць на вазе, сьпяваюць наступная песьня;

Едзьце, сваткі, да дóму, да дóму.
Да паелі коні салому
Аржаную мякіну, мякіну,
Па-заплоцьцю крапіву.
Упала шапка са стоўпу далой
Едзьце, сваткі, к чорту дамоў.
Вы нам вельмі дадзелі,
Ўсе ў нас друзгі паелі[1]).

Сустрэчныя па дарозе хлопчыкі і дзяўчынкі, бачачы вясельную процэсію, крычаць:

Маладà, як сучка рудà,
Малады, як сабака руды.

---

[1]) Іншы раз, калі ўсе моцна п'яны, дадаецца яшчэ адна страфа з нецэнзурным выразам.

Калі вясельная працэсія падыходзіць або пад'яжджае да хаты маладога звычайна сьпяваюць:

Прыданае на двор едуць, едуць
Куры, куры пад печ лезуць, лезуць.
Ой ня бойцеся, куры, бо нямнога вас тут трэба:
Сем, сем на вячэру, а восьмую на пячэньню,
Дзевятую да ў ўюшачку,
А пер'ячка ў падушачку.

Калі маладая была да шлюбу дзеўкаю, яе вядуць у дом маладога праз дзьверы. Калі-ж яна была да шлюбу ўдавою, або разводкай, дык павінна лезьці ў хату праз вакно. У хаце маладога яе садзяць за стол. Брат маладога скідае палачкай хустку з яе вачэй. П'юць і ядуць салодкія рэчы. Пры гэтым сьпяваецца:

У нашага свата
Новая хата.
Печ яго пабеляна,
Чэсьць яго да кахана.
Ў нашага гаспадара
Кудравая галава.
Ён кудрамі патрасе
І нам мёду прынясе.

Пры разьвітаньні маладой з бацькамі і сваякамі пяюць наступнае:

З павагу, свацейка, з павагу,
Каб ня было майму дзіцяці зьнявагі
Каб не стаяла цёмныя ночкі пад вакном,
Каб не ўцірала дробныя слёзкі рукавом.
Каб ня была паветачка за хатку,
Каб ня была суседачка за матку.

Бацькі і сваякі ад'яжджаюць. Маладая застаецца назаўсёды ў хаце свайго мужа.

Як бачым з вышэйпададзенага, вясельныя звычаі і абрады амаль што цалкам запазычаны літоўскімі татарамі ў беларусаў. Паасобныя элемэнты татарскіх звычаяў захаваліся толькі ў невялічкай частцы, галоўным чынам, у абрадах, зьвязаных з рэлігійным рытуалам. У хрэсьбінах беларускіх этнографічных элемэнтаў значна мэнш. Тут пераважаюць чыста мусульманскія звычаі. Але ўсё-ж такі адчуваюцца і беларускія ўплывы.

Пасьля нараджэньня дзіцяці, бацькі яго запрашаюць сваякоў і знаёмых на „азан", ці „радзіны" [1]). Тыя прыходзяць у вызначаны дзень і прыносяць з сабой пачастункі, так званыя „прыносы": тварожны сыр з мёдам, каўдуны, „бэлюш" (пірог), „гальма" (салодкае), „джюйма" (блінчыкі, смажаныя ў масьле) і іншыя стравы. Усё гэта перадаецца гаспадаром, якія павінны толькі натапіць добра печ, каб усе гэтыя „прыносы" падаграваць.

На стол, пакрыты абрусам, кладуць кажух, шэрсьцю ўверх. На гэты кажух кладуць дзіцё. Перад гэтым, у прысутнасьці гасьцей, дзіцё мыюць. Потым падыходзіць да дзіцяці мулла, бярэ яго за правае вуха вялікім і паказальным пальцамі і чытае нараспеў („пяе") азан на арабскай мове. Сярод малітвы ён пытаецца ў бацькоў: „як хачаце зваць дзіцё?" Маці называе імя. Мулла бярэ дзіцё за паказальны палец правай рукі і, калі, напрыклад, даюць дзіцяці імя „Айша", тры разы гавора на беларускай мове:

Айша, Айша,
Чуй сваё імя
Да суднага дня.

Пасьля гэтага ён зноў бярэ дзіцё за левае вуха і пяе малітву (на арабскай мове). Потым зноў гаворыць да дзіцяці: „чуй сваё імя да суднага дня". Па сканчэньні рытуалу бацькі даюць мулле хустку, у якой ляжыць падарунак для яго (грошы, продукты, якая-небудзь рэч і г. д.), з тым, каб ён абавязкова ня ведаў, што там ляжыць. Бяз ху-

[1]) Ніжэйпаданае адносна „азану" запісана ўвясну 1928 г. ў м. Койданаве, Менск. акругі са слоў гр. Шабана Смольскага і яго жонкі, дачкі Малны з м. Сьмілавічы.

сткі ён ня можа прыняць падарунку. Госьці садзяцца за стол. П'юць звычайна „сіта“ (татарскі мёд), хмельны напітак з пчалінага мёду і цукру і закусваюць „прыносамі“.

Па вопратцы, характару хатняга ўжытку, спосабу жыцьця і знадворнаму быту літоўскія татары амаль што нічым не адрозьніваюцца ад беларусаў. У хатнім быце літ. татар пануе выключна монагамія. Узаемаадносіны паміж мужчынамі і жанчынамі зусім вольныя і нормальныя. Характэрна таксама тое, што ў мектэбе (пачатковая школа пры мячэці, накшталт яўрэйскага хэйдэру) вучыліся разам і хлопчыкі і дзяўчынкі. Арабскія тэксты мусульманскіх малітваў чытаюцца з моцным беларускім акцэнтам, паводле фонэтычных законаў беларускага вымаўленьня.

Калі староньні чалавек заходзіць у хату, лічыцца адзнакаю „шляхотного“ выхаваньня (нават у сялян) пацалаваць у гаспадыні руку. Гэта напэўна ўплыў з боку дробнай шляхты. Але затое, калі гаспадар п'е гарбату, альбо есьць з госьцем мужчынскага роду, хатнія жанчыны не садзяцца за стол. У гасьцёх мужчыны і жанчыны трымаюцца пасобку і сядзяць за рознымі сталамі.

Лепшай пацехай для моладзі зьяўляюцца вечарынкі з танцамі. Танцуюць выключна эўропейскія танцы. Старыя таксама любяць наведваць вечарынкі, бо слухаюць там розныя навіны. Паджылыя людзі любяць гуляць у карты.

Гэтыя асаблівасьці быту, на першы погляд можа і нязначныя, у цэлым паклалі на літ. татарына свой асаблівы, можна нават казаць — нязгладжальны адбітак. Гэтыя асаблівасьці, запазычаныя імі ў сваіх заходніх сусядзяў, перашкаджаюць літоўскім татарам больш цесна зблізіцца з адзінавернымі народамі ўсходу. Яны прымушаюць літ. татар нават у мусульманскіх краінах трымацца адасоблена сваімі цесна замкнутымі групамі і ня злучацца з вакольным мусульманскім насельніцтвам. Аб гэтым могуць сьведчыць факты з імпэрыялістычнай вайны 1914—18 г. У часе гэтай вайны шмат літоўскіх татар выехала ў пэрыод нямецкай окупацыі ў якасьці бежанцаў у цэнтральныя і ўсходнія губэрні Расіі. Шмат з іх апынуліся на тэрыторыі сучасных Башкірыі і Татарстану. Мясцовае мусульманскае насельніцтва сустрэла іх спачатку вельмі ветліва, як бежанцаў — адзінаверцаў. Але іх эўропейскія паводзіны, іх звычаі, вынесеныя з Беларусі і зусім незразумелыя для тамтэйшага мусульманіна, выклікалі адразу зьдзіўленьне, а пасьля нават і варожасьць. За імі ўстанавілася мянюшка „гяуры“, г. е. „нявeрныя“. Ніхто з бежанцаў ня ўжыўся ва ўсходніх губэрнях і ўсе пасьля сканчэньня вайны зьвярнуліся зноў на сваю заходнюю бацькаўшчыну.

Цікавым прыкладам гэткай прыхільнасьці да сваіх заходніх пaселішч могуць служыць тыя літ. таатары, якія ў значнай колькасьці перасяліліся за апошняе 30-цігодзьдзе ў Азэрбайджан і Крым. Яны і цяпер там жывуць сваім уласным, замкнутым колам, адрозьнена ад мясцовага мусульманскага насельніцтва. Ужываючы дома расійскую, часткова (сярод старых) беларускую мову, яны амаль што цалкам захавалі ў сваім быце звычаі і погляды, вынесеныя імі з Беларусі. Характэрны таксама імкненьні старых вярнуцца пад канец жыцьця на бацькаўшчыну, каб там памерці і быць пахаванымі ў роднай зямлі.

Паводле вестак, якія прыводзіць Дж. Александровіч [1]), агульная колькасьць літ. татар, не парваўшых сталай сувязі са сваімі роднымі

[1]) „Известия об-ва обследования и изучения Азербайджана“ № 2, Баку, 1926 г., стр. 78.

паселішчамі ў Беларусі дасягала да пачатку бягучага стагодзьдзя 8.000 чал. Усяго-ж, паводле зьвестак таго-ж аўтара, агульная кольказьць асоб цюрка-татарскага паходжаньня, якія называюць сябе літоўскімі татарамі 11.000 муж. і жанчын.

Добра вядомыя пад асобнай назвай у Азэрбайджане, Крыме і нават Турэччыне, яны заўсёды памятуюць сваё „заходняе" паходжаньне, ганарацца ім і маюць нахіл працівастаўляць сябе іншым этнічным групам цюрка-татарскага племені. Дзе-б ні знаходзіліся літ. татары (нават у Амэрыцы), яны вельмі цэняць сваю сувязь з бацькаўшчынай і з родным паселішчам. Са звычаямі і поглядамі, успрынятымі з дзяцінства, яны растаюцца вельмі неахвотна.

Імкненьні выдзяліць сябе з агульнай масы татар наглядаюцца ў літоўскіх татар з незапомных часоў. Гістарычным прыкладам гэтага зьявішча можа служыць ніжэй пададзеная вытрымка з літаратурнага твору аднаго вучонага літоўскага татарына. У сваёй гістарычнай працы „Рысалеі татары-лэ", напісанай ім у 1557-58 г. у Канстантынопалі для султана Сулеймана Эль-Кануні (1520—1566 г.) па даручэньні вялікага візіра Рустэм-пашы, аўтар апісвае гісторыю пасяленьня татар у Літве і іх тагочаснае становішча. Даўшы характарыстыку абставін іх жыцьця ў гэтай краіне, аўтар сьпяшыць запэўніць чытача, што ня гледзячы на тое, што „жыхары тых краін называюць нас наогул татарамі, большасьць з нас ня з тых грубых татар, што ва ўсе часы лічуцца брыдкімі".

Гэтая вытрымка сьведчыць аб тым, што моцныя і глыбокія заходнія, у прыватнасьці беларуска-польскія, уплывы даўно ўжо зьмянілі бытавы ўклад літоўскіх татар і давалі сябе адчуваць яшчэ ў пачатку XVI-ага стагодзьдзя.

---

# МАТАР‘ЯЛЫ З МЕСЦ.

І. Крыцкі.

## Будаўніцтва сельскае гаспадаркі Случчыны.

Буржуазнае грамадзтва высмактвае ў селяніна кроў з яго сэрца і мазгі з яго галавы і кідае ўсё гэта ў кацёл капіталізму, гэтага новага алхіміка.

*К. Маркс.*

Гэтаю невялікаю вытрымкаю К. Маркс дае ацэнку таго шляху, па якім накіроўваецца вёска і сялянства пры капіталістычнай сыстэме гаспадаркі, пры разьвіцьці капіталізму, які цалкам падпарадкуе сельскую гаспадарку капіталістычнаму гораду, капіталістычнай прамысловасьці і ставіць сялянства ў нявольніцкую залежнасьць ад усяе сыстэмы капіталу. У. І. Ленін ня раз падкрэсьліваў, што капіталізм паставіў вёску на шлях пролетарызацыі, дзе асноўная маса сялянства, ня маючы экономічнай магчымасьці існаваць, пролетарызуецца і прадае сваю рабочую сілу таму-ж капіталісту, а побач з гэтым вырастае нязначная кучка заможных і кулацкіх гаспадарак, якія перарастаюць часта ў абшарніцкія гаспадаркі. Адбываецца процэс „вымываньня серадняцкага сялянства“, які зварочвае яго ў становішча сельскай беднаты і ставіць у поўную залежнасьць ад памешчыка.

Усім вядома, як разьмяркоўваліся землі па соцыяльных групах вёскі да Кастрычнікавай рэволюцыі. На жаль, па Случчыне мы ня маем поўных лічбаў па гэтыму пытаньню, і прыходзіцца карыстацца перапісам 1915 г., дзе клясавая яскравасьць у пытаньні землякарыстаньня выражана недастаткова. Па гэтых матар‘ялах устаноўлена 6 груп землякарыстальнікаў: гарадзкія гаспадаркі, местачковыя, дробныя, сярэднія і буйныя прыватна-ўласьніцкія і сялянскія надзельныя.

Конкрэтна па гэтых матар‘ялах мы маем наступнае:

Разьмеркаваньне зямель і жывёлы па соцыяльных групах б. Слуцкага павету ў межах 1914 году (у дзесяцінах і штуках галоў).

| Катэгорыі гаспадарак. | Землеўладаньне. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік гаспадарак | У іх пахаці | Сенажаці | Разам. |
| Гарадзкія гасп. . . . . . | 495 | 1042 | 225 | 1267 |
| Местачковыя . . . . . . | 1084 | 1056 | 282 | 1338 |
| Дробныя прыватна-ўласьніцкія | 3149 | 24012 | 10426 | 34438 |

| Катэгорыі гаспадарак. | Землятуладаньне. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік гаспадарак. | У іх пахаці. | Сенажаці. | Разам. |
| Сярэднія прыватна-ўласьніцкія. | 234 | 20030 | 8434 | 28464 |
| Буйныя прыватна-ўласьніцкія. | 81 | 26851 | 18551 | 45402 |
| Сялянскія надзельныя гаспадар. | 36511 | 169748 | 65296 | 235044 |
| Разам . . . | 41554 | 242739 | 103214 | 345953 |

| Катэгорыі гаспадарак. | Жывёлагадоўля. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. коняй. | Жарабят. | Кароў. | Цялят. | Авец. | Сьвіней. |
| Гарадзкія гасп. . . . . . | 371 | 69 | 590 | 149 | 108 | 442 |
| Местачковыя . . . . . . | 612 | 38 | 1404 | 123 | 20 | 392 |
| Дробныя прыватна-ўласьніцкія. | 5071 | 1874 | 10531 | 6810 | 10722 | 6814 |
| Сярэднія прыватна-ўласьніцкія. | 2089 | 854 | 5109 | 2361 | 1400 | 1683 |
| Буйныя прыватна-ўласьніцкія. | 2705 | 626 | 5068 | 2318 | 3404 | 1005 |
| Сялянскія надзельныя . . . | 42982 | 14964 | 79272 | 41846 | 93068 | 58688 |
| Разам. . . . | 53830 | 19425 | 101973 | 58707 | 108722 | 69024 |

З гэтае табліцы мы бачым, што з усяго ліку гаспадарак па б. Слуцкім павеце 41554 сялянскія надзельныя складалі 87,8%, гарадзкія—1,2%, местачковыя—2,6%, хаця і гэткае соцыяльнае разьмеркаваньне ня будзе дакладным, бо сярод сялянскіх надзельных так сама была некаторая частка гаспадарак многазямельных з ужываньнем наёмнай рабочай сілы. Але-ж і з гэтых лічбаў мы бачым, што прыватна-ўласьніцкія гаспадаркі, якія складалі 8,3%, мелі ў сваім карыстаньні 31,3% усіх зямель у той час, калі абсолютная большасьць сялянскіх надзельных мелі — 67,6% зямель, а гарадзкія і местачковыя разам— 1,1%. Цікавым будзе і яшчэ адно зьявішча, што прыватна-ўласьніцкія гаспадаркі складалі—9,4% у адносінах да сялянскіх надзельных, а сенапашні ў іх карыстаньні было 46% у адносінах да таго, што мелі ў сваім карыстаньні сялянскія гаспадаркі.—З вышэйпрыведзеных лічбаў, калі ўзяць сярэдні надзел на 1 гаспадарку сенапашні і жывёлы, то будзем мець наступнае:

**Сярэдні надзел на 1 гаспадарку сенапашні і жывёлы па ўсіх тыпах гаспадарак (у дзесяцінах і штуках).**

| Катэгорыі гаспадарак. | Прыходзіцца на 1 гаспадар. | | | | | | На 100 дзес. пашні | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пахаці. | Сенажаці. | Разам. | Раб. кон. | Кароў. | Сьвіней. | Сена пашні. | Раб. кон. | Кароў. |
| Гарадзкія | 2,1 | 0,5 | 2,6 | 0,7 | 1,2 | 0,9 | 21,6 | 35,7 | 56,7 |
| Местачковыя | 1,0 | 0,3 | 1,3 | 0,6 | 1,3 | 0,4 | 26,9 | 58,4 | 133,7 |
| Дробныя прыватна-ўласьніцкія | 7,6 | 3,3 | 10,9 | 1,6 | 3,3 | 2,2 | 43,4 | 21,5 | 43,9 |
| Сярэднія прыватна-ўласьніцкія | 85,6 | 36,0 | 121,6 | 9,2 | 21,8 | 7,2 | 42,1 | 10,8 | 25,5 |
| Буйныя прыв.-уласьніцкія | 331,5 | 229,0 | 560,5 | 34,9 | 62,6 | 12,4 | 69,1 | 10,5 | 18,9 |
| Сялянскія надзельныя | 4,6 | 1,8 | 6,4 | 1,1 | 1,2 | 1,6 | 38,5 | 25,5 | 45,7 |

Такім чынам прыведзеныя лічбы сярэдняга надзелу на адну гаспадарку сьведчаць аб тым, што сялянскія надзелы былі надзвычайна малыя і што факт пролетарызацыі асноўнае масы сялянства ў наяўнасьці. Яшчэ ў горшым становішчы, па вельмі малой забясьпечанасьці зямлёю, стаяць местачковыя гаспадаркі, якія прымушаны былі шукаць сабе іншых крыніц існаваньня. Надзвычайна характэрным будзе і тое, што на 100 дзесяцін пахаці прыходзілася сенажаці больш усяго па прыватна-ўласьніцкіх гаспадарках, дзе яны складалі 69,1 дзесяціны на кожныя 100 дз. пахаці ў той час, калі па сялянскіх надзельных прыходзілася толькі 38,5 дзес. Гэта зьяўляецца паказальнікам таго, наколькі сьціснута было сялянства ў разьвіцьці жывёлагадоўлі.

Па валасьцёх, якія ўвайшлі цяпер у склад Слуцкага раёну: Цараўскай, Ленінскай—(б. Раманаўскай) і Слуцкай у сярэднім на 1 гаспадарку прыходзілася 6,9 дзес. сенапашні па сялянскіх надзельных і 21,7 дзес. сенапашні па прыватна-ўласьніцкіх. У агульных лічбах па гэтых валасьцёх было 89,0% сялянскіх гаспадарак, якія мелі ў сваім карыстаньні 76,6% усіх зямель, а прыватна-ўласьніцкія гаспадаркі, якія складалі 11,0% усяго ліку гаспадарак, мелі ў сваім карыстаньні 23,4% зямель. Найбольшы процант зямель у руках абшарнікаў і кулацтва было па б. Раманаўскай воласьці, дзе гэтых гаспадарак налічвалася 8,8%, а ў іх руках сенапашні 27,9%; па Цараўскай воласьці прыватна-ўласьніцкія гаспадаркі складалі 18,3%, а ў іх зямель налічвалася 27,9%, што так сама зьяўляецца досыць значным.

У галіне жывёлагадоўлі з прыведзеных дзьвюх табліц відаць, што калі на 1 сялянскую гаспадарку прыходзіцца 1,1 шт. рабочых коняй, 2,2 шт. кароў і 1,6 шт. сьвіней, то па абшарніцкіх прыходзілася на кожную 34,9 штук рабочых коняй, 62,6 шт. кароў, а гаспадаркі местачковыя мелі яшчэ горшае становішча, там надзел на 1 гаспадарку сенапашні прыходзілася 1,3 дзес., рабочых коняй 0,6 штукі і кароў 1,2 штукі.

Па трох валасьцёх цяперашняга Слуцкага раёну разьмеркаваньне жывёлагадоўлі па социяльных групах, паводле няпоўных вестак з перапісу 1915 г. адбывалася наступным парадкам:

| Воласьці цяперашняга раёну | Сялянскія надзельныя гаспадаркі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. коняй | Жарабят | Кароў дойных | Цялят | Сьвіней | Авец |
| Раманаўская . . . . . . | 2053 | 1043 | 3615 | 1710 | 1319 | 2943 |
| Слуцкая . . . . . . . . | 2439 | 783 | 3648 | 1819 | 4256 | 3301 |
| Цараўская . . . . . . . | 2380 | 1028 | 3897 | 2734 | 3321 | 2620 |
| Разам . . . | 6872 | 2854 | 11160 | 6263 | 9896 | 9864 |
| | А ў процантах: | | | | | |
| Раманаўская вол. . . . . . | 1,3 | 0,6 | 2,3 | 1,0 | 1,4 | 1,8 |
| Слуцкая вол. . . . . . . | 1,3 | 0,4 | 2,0 | 0,9 | 2,3 | 1,8 |
| Цараўская вол. . . . . . | 1,3 | 0,5 | 2,1 | 1,5 | 1,8 | 2,0 |
| У сярэднім па трох валасьцёх . . . . . | 1,3 | 0,5 | 2,1 | 1,1 | 1,8 | 1,9 |

| Воласьці цяперашняга раёну | Прыватна-ўласьніцкія гаспадаркі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. коняй | Жарабят | Кароў дойных | Цялят | Сьвіней | Авец |
| Раманаўская вол. . . . . . | 427 | 173 | 1059 | 464 | 408 | 397 |
| Слуцкая . . . . . . . . | 251 | 179 | 627 | 469 | 460 | 503 |
| Цараўская . . . . . . . | 975 | 474 | 1599 | 1142 | 1013 | 1660 |
| Разам . . . | 1658 | 826 | 3285 | 2075 | 1881 | 2660 |
| | А ў процантах: | | | | | |
| Раманаўская вол. . . . . . | 2,8 | 1,1 | 7,0 | 3,0 | 2,6 | 2,5 |
| Слуцкая вол. . . . . . . | 2,2 | 1,5 | 5,5 | 4.1 | 4,1 | 4,4 |
| Цараўская вол. . . . . . | 2,5 | 1,2 | 4,0 | 2,9 | 2,6 | 4,2 |
| У сярэднім па трох валасьцёх . . . . . | 2,5 | 1,3 | 5,5 | 3,3 | 3,1 | 3,7 |

Прыведзеныя табліцы, хаця яны далёка не адбіваюць поўнасьцю становішча справы ў сэнсе больш глыбокага клясавага падзелу гаспадарак, сьцьвярджаюцъ тое, што накапленьні, якія адбываліся ў сельскай гаспадарцы, згрупоўваліся ў руках нязначнай часткі гаспадарак; яны ў процантных адносінах па ўсіх валасьцёх складалі 11,0% і гэтыя гаспадаркі мелі ў сабе ўсё неабходнае да таго, каб экономічна падпарадкаваць сабе асноўную масу сялянства, трымаць яе ў сваёй залежнасьці і спускаць з кожным разам на ступень ніжэй, даводзячы працоўнае сялянства да крайняй беднасьці ці, наогул кажучы, паступова пролетарызуючы вёску.

Кастрычнікавая рэволюцыя, якая зьнішчыла асновы капіталізму ва ўсёй гаспадарцы краіны, рэзка зьмяніла социяльна-экономічныя суадносіны грамадзтва, яго паасобных социяльных груп.

„Дыктатура пролетарыяту ў СССР мяняе каранным чынам умовы, а значыцца і ход разьвіцьця сельскае гаспадаркі, ствараючы прынцыпова іншы тып разьвіцьця аграрных адносін, іншы тып клясавых груповак у вёсцы і іншы кірунак у разьвіцьці гаспадарчых форм" (з рэзолюцыі XV Партзьезду).

Кастрычнікавая рэволюцыя, якая разбурыла ўстоі капіталізму, палажыла аснову да організацыі ў вёсцы буйнога социялістычнага земляробства. На гэтай аснове адбываецца адбудаваньне сельскай гаспадаркі. Аднэй з асноўных прадпасылак аднаўленьня і разьвіцьця сельскай гаспадаркі зьяўляецца: „пад'ём вытворчых сіл вёскі і рост дабрабыту шырокіх сялянскіх мас. Социялістычны горад можа вясьці за сабою вёску толькі па гэтым шляху, усімі мерамі пры гэтым дапамагаючы паступоваму пераходу ад індывідуальнай уласьніцкай гаспадаркі, якая яшчэ значны час будзе базаю ўсяе сельскае гаспадаркі, да яе колектыўных форм" (З пастаноў XV зьезду ЎсеКП(б). У сучасны момант, на сучасным этапе разьвіцьця сельскай гаспадаркі асноўнейшаю задачай зьяўляецца пераход да колектыўных форм, паступовае ўрастаньне сельскай гаспадаркі ў агульны социялістычны сэктар усяе нашае гаспадаркі.

Практычна ў гэтым напрамку мы маем многа дасягненьняў за гады гаспадарчага будаўніцтва, ярка вырысаваліся тыя зрухі і клясавыя перагрупоўкі, аснова якіх заложана нашаю социяльнай рэволюцыяй.

Для прыкладу возьмем забесьпячэньне сялянскіх гаспадарак Случчыны рагатай жывёлай і забесьпячэньне паасобных социяльных груп.

Тут мы маем у параўнаньні з 1915 годам наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| У 1915 г. безкароўных гаспадарак было | 3,0% | (па Слуцкім пав.). |
| „ 1924 г. „ „ „ | 4,9% | (па Слуцкім р-не). |
| „ 1926 г. „ „ „ | 3,3% | „ |
| „ 1927 г. „ „ „ | 2,9% | „ |
| „ 1928 г. „ „ „ | 2,7% | „ |

**Забесьпячэньне па кароўнасьці паасобных социяльных груп вёскі:**

| ГАДЫ | Было гаспадарак | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | З 1 кар. | З 2 кар. | З 3 кар. | З 4 кар. | З 5 і больш |
| 1915 г. | 29,9% | 37,3% | 17,3% | 7,2% | 5,3% |
| 1924 г. | 46,1% | 37,2% | 8,8% | 2,2% | 3,3% |
| 1926 г. | 37,4% | 40,8% | 15,0% | 2,6% | 0,9% |
| 1927 г. | 35,5% | 42,7% | 15,8% | 2,5% | 0,6% |
| 1928 г. | 38,2% | 41,6% | 14,8% | 2,4% | 0,5% |

Такім чынам з прыведзеных лічбаў мы маем скарачэньне ліку безкароўных гаспадарак у параўнаньні з 1915 г., гэта значыць, што мы перарасьлі даваенны ўзровень, гэта паказвае эфэктнасьць мерапрыемстваў па падняцьці вытворчых сіл вёскі. Побач з гэтым ёсьць павялічэньне проценту двухкароўных гаспадарак параўнальна з 15 годам пры нязначным хістаньні трохкароўных. Гаспадаркі-ж 4-х і 5-цікароўныя зьменшыліся ў параўнаньні з 1915 г., што зьяўляецца нормальным, паколькі ў прыродзе нашай гаспадарчай дзейнасьці зьнішчана глеба для росту кулацтва. Большы лік аднакароўных гаспадарак у параўнаньні з даваенным часам тлумачыцца тым, што сюды ўвайшлі былыя безкароўныя гаспадаркі і гаспадаркі панскіх батракоў, якія сталі гаспадарамі, атрымаўшы зямельныя надзелы на панскіх землях, а такіх новых пасёлкаў, організаваных на панскіх землях, па раёне налічваецца 36. За кароткі час гэтыя гаспадаркі не змаглі падняцца да ўзроўню двухкароўных.

**Клясыфікацыя сялянскіх гаспадарак.**

Клясыфікацыя сялянскіх гаспадарак, паводле ўсіх соцыяльных азнак, да сучаснага моманту па Слуцкім раёне будзе наступная:

а) па зямлянадзяленьні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Без зямлі і да аднэй дзесяціны . . | 485 | гасп. ці | 4,4% |
| З надзелам ад 1 да 3 дзесяцін . . | 1407 | „ „ | 13,0% |
| „ „ 3 „ 8 „ . . | 8335 | „ „ | 77,0% |
| „ „ звыш 8 дзесяцін . . | 593 | „ „ | 5,5% |

б) Па рабочай жывёле:

| | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|
| Без рабочых коняй . . | 8,1% | 6,5% | 6,2% |
| З адным канём . . . | 71,1% | 68,6% | 66,5 |
| З 2-ма коньмі . . . | 20,2% | 24,3% | 26,4% |
| З трыма коньмі . . . | 0,6% | 0,6% | 0,9% |

в) Па рагатай жывёле:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Безкароўных гаспадарак. . | 3,3% | 2,9% | 2,7% |
| Аднакароўных гаспадарак . | 37,4% | 35,5% | 38,2% |
| Двухкароўных гаспадарак . | 40,8% | 42,7% | 41,6% |
| Трохкароўных гаспадарак . | 15,0% | 15,8% | 14,8% |
| Чатырох і больш кароўных гаспадарак . . . | 3,5% | 3,1% | 2,9% |

Паводле матар'ялаў клясыфікацыі сялянскіх гаспадарак за тры апошнія гады яскрава відаць зьмяншэньне бязконных і безкароўных гаспадарак.

Па коннасьці ёсьць скарачэньне аднаконных і за кошт гэтага павялічэньне двухконных гаспадарак. Калі паставіць пытаньне, якія-ж з гаспадарак будуць мець пераважнасьць, то атрымліваецца, што па кароўнасьці пераважнасьць будзе за двухкароўнымі—41,3%, другое месца — аднакароўныя 38,2% і трэцяе — трохкароўныя 14,8%. Па коннасьці пераважнасьць будзе за аднаконнымі гаспадаркамі, якіх налічваецца 66,2% і наступныя двухконныя, якіх ёсьць 26,4%.

Паводле табліцы зямлякарыстаньня ўсё-ж яшчэ маецца 4,4% гаспадарак з надзвычайна нізкімі зямельнымі надзеламі і беззямельных. У далейшай працы па зямлябудаўніцтву, заканчваючы абрэзку кулац-

кіх гаспадарак, разьмяркоўваючы запасныя зямельныя фонды, праводзячы ўнутрысяленнае зямляўпарадкаваньне і колектывізацыю, гэты лік гаспадарак будзе і надалей рэзка скарачацца. Разглядаючы дынаміку росту сельскай гаспадаркі паводле прыведзеных лічбаў, мы пераконваемся, што ўся сыстэма мерапрыемстваў, накіраваных на падняцьце сельскай гаспадаркі, падымае самыя нізы вёскі, якія раней знаходзіліся ў заняпадзе.

### Сучасны стан сельскай гаспадаркі і дынаміка яе росту.

Рост пасяўной плошчы за апошнія гады праходзіў наступным парадкам:

| Гады | Пасяўная плошча | Процант павялічэньня |
|---|---|---|
| 1924-25 г. | 39253 дзес. | 100% |
| 1925-26 г. | 46886 дзес. | 119% |
| 1926-27 г. | 47813 дзес. | 121% |
| 1927-28 г. | 48291 дзес. | 123% |

Рост плошчы пасеву прайходзіў, з прычыны распрацоўкі няўдобных зямель і тых плошчаў, якія не засяваліся ў гады гаспадарчай разрухі. Увесь зямельны фонд, які ёсьць у раёне па ўсіх угодзьдзях, разам складае 112192 дзес. Гэтая плошча па асобных угодзьдзях разьмяркоўваецца наступным парадкам (паводле матар'ялаў РВК):

| УГОДЗЬДЗІ | 1925-26 г. | | 1926-27 г. | | 1927-28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Дзесяц. | % % | Дзесяц. | % % | Дзесяц. | % % |
| Сядзібы . . . . . . . | 5,278 | 4,7 | 5,403 | 4,8 | 5,404 | 4,8 |
| Пахаці . . . . . . . . | 48,815 | 43,5 | 49,749 | 44,3 | 50,416 | 44,8 |
| Сенажаці . . . . . . . | 25,060 | 22,3 | 24,996 | 22,2 | 24,969 | 22,1 |
| Лесу . . . . . . . . . | 12,356 | 11,0 | 12,456 | 11,1 | 12,556 | 11,1 |
| Выгану . . . . . . . . | 10,205 | 9,1 | 10,025 | 8,9 | 9,529 | 8,5 |
| Няўжыткоўнай . . . . . | 10,478 | 9,3 | 9,562 | 8,5 | 9,322 | 8,3 |

Мы маем скарачэньне плошчы выгану і няўжыткоўных зямель, якія паступова распрацоўваюцца пад пахату, пераводзяцца ў такое ўгодзьдзе, якое зьяўляецца экономічна найбольш выгадным для сялянства. Побач з гэтымі лічбамі назіраецца некаторае павялічэньне плошчы пад сядзібамі, што зьяўляецца вынікам павялічэньня саміх гаспадарак. Між іншым тэмп росту сялянскіх гаспадарак быў надзвычайна вялікі, так напрыклад: у 1924 г. было 10049 гаспадарак, у 1926 г.—10556 гасп. і ў 1928 г.—іх налічвалася 10820. За чатыры гады агульны лік гаспадарак павялічыўся на 771. З 1926 году да гэтага часу ўтварылася самавольным парадкам 162 новых гаспадарак, што складае 21% у адносінах да ўсяго ліку новых гаспадарак. За 1928 год самавольных падзелаў адбылося толькі 24, што сьведчыць аб спыненьні беспарадачнага драбленьня двароў, які можа прывясьці да экономічнага заняпаду. Вельмі важным будзе і тое, што, ня гледзячы на такі шпаркі тэмп росту гаспадарак, усё-ж удалося хоць

і ня так значна, павысіць сярэдні надзел сенапашні на 1 гаспадарку ў параўнаньні з 1915 г., так, напрыклад, калі ў 1915 г. сярэдні надзел на 1 сялянскі двор раўняўся 6,4 дзес. па Слуцкім павеце, то цяпер мы маем сярэдні надзел 7,4 дзес. па гаспадарках раёну. Калі-б поруч з гэтым паставіць пытаньне, як бы разьвівалася наша вёска за апошнія 10—15 гадоў пры ўмовах капіталістычнай сыстэмы, то, зразумелая рэч, што мы мелі-б надзвычайна павялічаны тэмп пролетарызацыі вёскі, яшчэ большае скарачэньне сярэдняга надзелу сенапашні на 1 гаспадарку, бо досыць частыя факты падзелу сялянскіх шнуроў павялічывалі-б шпаркі тэмп вымываньня серадняка, і вёска апынулася-б у надзвычайнай зямельнай цеснаце. Купля і продаж зямлі, якая пазбаўляла магчымасьці беднату пашыраць свой шнурок, прымусіла-б яе пакідаць земляробства і прадаваць сваю рабочую сілу абшарніку ці кулаку. Такі закон капіталізму.

Не малаважным пытаньнем у сельскай гаспадарцы зьяўляецца рост паасобных культур і ўдзельная вага іх. Па Случчыне паасобныя культуры ў сельскай гаспадарцы характарызуюцца наступнымі лічбамі:

(У процантах да ўсяе плошчы)

| ГАДЫ | У процантах да ўсяе плошчы | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Азімае жыта | Пшаніца | Яравыя | Кораняплоды | Бульба | Травы | Лён і каноплі |
| 1924-25 г. . . . | 33,5 | 6,8 | 37,7 | 0,11 | 12,6 | 7,2 | 3,2 |
| 1925-26 г. . . . | 30,7 | 6,5 | 38,3 | 0,54 | 13,0 | 7,5 | 3,0 |
| 1926-27 г. . . . | 29,8 | 6,6 | 34,2 | 0,64 | 14,6 | 9,5 | 3,7 |
| 1927-28 г. . . . | 28,1 | 4,9 | 35,3 | 0,81 | 14,2 | 9,6 | 4,9 |

Адгэтуль відаць, што назіраецца скарачэньне плошчы пасеву пад зернавымі культурамі і поруч з гэтым павялічваецца пасяўны клін пад бульбаю, травамі, кораняплодамі і тэхнічнымі культурамі. Пры правядзеньні падліку валавой продукцыі сельскай гаспадаркі раёну за 1926-27 год мы мелі павялічэньне валавой продукцыі бульбы ў 1927 г. на 27% у параўнаньні з 1926 г., а таксама і надзвычайна вялікае павялічэньне травы і кораняплодаў. Вывучаючы такое становішча, неабходна зрабіць вывад, што скарачэньне плошчы пасеву зернавых культур і разам з гэтым павялічэньне плошчы пад кармавымі культурамі зьвязана з ростам жывёлагадоўлі ў раёне, аб чым будуць лічбы ніжэй, што тэмп росту жывёлагадоўлі ў раёне значна большы, чым паляводзтва, і што ў пасевы ўкліняецца большая колькасьць культур, зьвязаных з жывёлагадоўляй.

Трэба зазначыць, што раён з вялікаю аграрнаю перанаселенасьцю. Паводе матар'ялаў статыстычнага даведніка за 1928 г. відаць што на 1 кв. кіл. прыходзіцца 59,9 чал. насельніцтва ў той час, калі па БССР на 1 кв. кілём. прыходзіцца 45,3 чал., а па Бабруйшчыне 35,6 чал. Шчыльнасьць насельніцтва па Слуцкім раёне адна з найбольшых; раён займае па шчыльнасьці насельніцтва трэцяе месца па ўсей БССР. Пры сярэднім надзеле на 1 гаспадарку—7,4 дзес. сенапашні, ва ўмовах дробнае індывідуальнай гаспадаркі, пры наяўнасьці павялічэньня запатрабаваньняў з боку сялянства, высоўваецца прак-

тычная задача павялічэньня прыбытковасьці гаспадаркі. Прыбытковасьць падняць за кошт зернавых культур, пры ўмовах малазямельля, не магчыма, а дзеля гэтага селянін стараецца павялічыць яе за кошт жывёлагадоўлі і ў прыватнасьці за кошт гадоўлі сьвіней. Гэтым і тлумачыцца значны рост тых культур, якія спрыяюць разьвіцьцю жывёлагадоўлі. З лічбаў аб жывёлагадоўлі можна будзе ўгледзець, што інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі раёну ідзе за кошт жывёлагадоўлі і асабліва за кошт гадоўлі сьвіней.

## Жывёлагадоўля.

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі па Слуцкім раёне за чатыры апошнія гады праходзіла наступным парадкам:

| ГАДЫ | Коняй | | Кароў | | Сьвіней | Авец | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Рабоч. | Усяго | Дойных | | | |
| 1925 г. . . . | 18318 | 12025 | Няма вестак. | | | | |
| 1926 г. . . . | 17912 | 11942 | 29498 | 18938 | 37414 | 46509 | |
| 1927 г. . . . | 18602 | 12473 | 29116 | 19259 | 44897 | 54115 | |
| 1928 г. . . . | 18732 | 12516 | 28594 | 18816 | 44961 | 65503 | |

За тры апошнія гады адбыўся рост коняй, як агульнага ліку, гэтак і рабочых, што зьвязана з неабходнасьцю павялічэньня цягавае рабочае сілы ў сельскай гаспадарцы пры яе сучасным стане. Адносна кароўнасьці ёсьць некаторае зьмяншэньне стада, што тлумачыцца нявыгаднасьцю селяніну трымаць лішнюю карову дзеля ўтварэньня большай таварнасьці малочных продуктаў. Разглядаючы гэтае пытаньне больш падрабязна, мы знойдзем, што віды малочнай коопэрацыі ў нашых умовах разьвіты недастаткова, збыт малочных продуктаў больш-менш забясьпечаны ў прыгарадных вёсках, рэалізуючы яго на мясцовым рынку; вёскі, якія знаходзяцца далей ад гораду, збыту ня маюць, а ўтрыманьне каровы абходзіцца досыць дорага, не гаворачы ўжо аб тым, якую прыбытковасьць яна дае гаспадарцы. Наогул кажучы, у сучасны момант няма стымулюючых момантаў у разьвіцьці рагатай жывёлы—і сялянства трымае іх такую колькасьць, якая неабходна для сябе. За апошнія гады зьмяншэньне рагатай жывёлы зьвязана з недародам кармоў і з курсам, узятым сялянствам на добраякасную карову. Па гадоўлі сьвіней мы назіраем надзвычайна буйны рост, які ў некалькі разоў перавышае ўзровень 1915 году. Утрыманьне гэтай жывёлы не патрабуе значных выдаткаў, і продукцыя гадоўлі сьвіней дае значна большую прыбытковасьць гаспадарцы, чым карова. Поруч з гадоўляй сьвіней ёсьць такі-ж самы шпаркі тэмп гадоўлі авец, што спрые палепшаньню харчаваньня самога сялянства, палепшаньню яго добрабыту.

Наступная табліца дае нам параўнальныя матар'ялы паляводзтва і жывёлагадоўлі па Случчыне 1915 г. і апошніх гадоў нашага гаспадарчага будаўніцтва (у дзесяцінах і штуках жывёлы):

| ГАДЫ | ВОЛАСЬЦІ | Прыходзіцца на адзін двор | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пахаці | Сенаж. | Разам. | Рабоч. коняй | Усяго коняй | Кароў | Авец | Сьвіней |
| 1915 г. | Слуцкі павет. . . | 4,6 | 1,8 | 6,4 | 1,1 | 1,5 | 2,2 | 2,5 | 1,6 |
| „ | Слуцкая вол. . . | 5,5 | 1,4 | 6,9 | 1,3 | 1,7 | 2,0 | 1,7 | 2,3 |
| „ | Раманаўская в. . . | | | | 1,3 | 1,9 | 2,3 | 1,3 | 1,4 |
| „ | Цараўская вол. . . | | | | 1,3 | 1,8 | 2,1 | 2,0 | 2,8 |
| 1926 г. | Слуцкі раён . . . | 4,8 | 2,7 | 7,5 | 1,1 | 1,6 | 2,7 | 4,4 | 3,5 |
| 1927 г. | „ „ . . . | 4,7 | 2,8 | 7,5 | 1,2 | 1,6 | 2,7 | 5,1 | 4,1 |
| 1928 г. | „ „ . . . | 4,7 | 2,7 | 7,4 | 1,2 | 1,7 | 2,7 | 5,8 | 4,2 |

У параўнаньні з 1915 годам мы маем вялікія зьмены ў жывёлагадоўлі, як аб гэтым сьведчаць прыведзеныя лічбы. Па-першае, дагналі і перагналі ўзровень 1915 году па коннасьці і кароўнасьці, а што датычыцца гадоўлі сьвіней і авец, дык тут перагналі ў некалькі разоў, як аб гэтым гаварылася раней. Пэрспэктывы для разьвіцьця гадоўлі сьвіней ёсьць значныя тым болей, што па лініі сельска-гаспадарчай коопэрацыі добра наладжаны збыт гэтай продукцыі. Склад буйное жывёлы, асабліва кароў, амаль што стабілізаваўся.

## Забесьпячэньне вёскі інвэнтаром.

Сялянскія гаспадаркі раёну забясьпечаны галоўным чынам больш дробнымі машынамі і толькі за апошнія гады сталі пранікаць буйнейшыя машыны ў колектыўныя і савецкія гаспадаркі. З складаных машын ёсьць некаторыя і ў індывідуальных кулацкіх гаспадарках, а што датычыцца бядняцкіх і серадняцкіх, то яны сталі набываць іх праз організацыі камітэтаў узаемадапамогі, машынныя таварыствы і інш.

Конкрэтна забесьпячэньне сельска-гаспадарчымі машынамі вёскі, паводле матар'ялаў РВК і раённай статыстыкі, да сучаснага моманту выражаецца ў наступных лічбах [1]):

| НАЗВА МАШЫН | 1926-27 г. | 1927-28 г. | На колькі гаспадар. прыходзіцца 1 маш. |
|---|---|---|---|
| Трактараў . . . . | 3 | 3 | 3.606 |
| Жнеяк . . . . . | 26 | 32 | 338 |
| Касілак. . . . . | 14 | 14 | 773 |
| Конных малатарань . . . | 461 | 554 | 19 |
| Веялак . . . . . | 762 | 940 | 12 |
| Сартыровак . . . . | 31 | 46 | 234 |
| Сячкарань . . . . | 2.237 | 3.586 | 4 |
| 1-лямешных плугоў . . . | 9.404 | 10.276 | 1,05 |
| 2-хлямешных „ . . . | 34 | 38 | 285 |
| Спружыновак. . . . | 506 | 632 | 17 |
| Вазоў на жалезным хаду . . | 4.986 | 8.160 | 1,3 |
| Вазоў на дрыўляным хаду . . | 5.285 | 4.319 | 25 |

[1]) Адсутнічаюць лічбы за ранейшыя гады. Рэдакцыя.

Забесьпячэньне сельска-гаспадарчым інвэнтаром і асабліва неабходным у сялянскай гаспадарцы ёсьць досыць значнае. На 4-5 гаспадарак ёсьць 1 сячкарня, на 17 гаспадарак—адна спрунжыноўка, на 19-20 гаспадарак—1 малатарня і г. д. Побач з гэтым яшчэ ёсьць безінвэнтарныя гаспадаркі, хаця колькасьць іх з кожным годам зьмяншаецца, напрыклад:

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|
| Безінвэнтарных. . . . | 9,4% | 8,2% | 4,2% | 3,6% |
| Бясплуговых гасп. . . . | 13,1% | 11,8% | 6,0% | 5,5% |
| Бескалёсных гасп. . . . | 12,0% | 11,1% | 5,4% | 5,0% |

Прыведзеныя лічбы яскрава сьведчаць аб тым, што група безінвэнтарных гаспадарак зьмяншаецца.

Вёска набывала машыны наступным парадкам:

| | Прададзена за гатовыя грошы. | Адпушчана ў крэдыт. |
|---|---|---|
| 1927 г. | на 38.562 р. | 8.156 р. |
| 1928 г. | „ 89.959 р. | 30.762 р. |

Набываньне машын значна ўзрасло як за гатоўку, так і ў парадку крэдытаваньня. Асабліва павялічыўся крэдыт, што дае магчымасьць лягчэй набыць машыну бедняку.

## Мерапрыемствы па падняцьці сельскай гаспадаркі.

Асноўнымі мерапрыемствамі, пры дапамозе якіх вялася праца па падняцьці сельскай гаспадаркі, зьяўляюцца:

а) Правядзеньне зямляўпарадкаваньня: падвядзеньне базы для колектывізацыі.

б) Агрыкультурныя мерапрыемствы, падняцьце ўраджайнасьці, пашырэньне пасяўнога кліну і пашырэньне культурных навыкаў вядзеньня сельскай гаспадаркі.

в) Мэліорацыя.

г) Правільнасьць правядзеньня падатковай політыкі, поўнае захаваньне клясавасьці ў яе ажыцьцяўленьні.

д) Разьмеркаваньне ў вёсцы розных доўгатэрміновых і каротка-тэрміновых крэдытаў па розных відах крэдытаваньня.

е) Агульны культурны ўздым вёскі, што непадзельна зьвязана з экономічным уздымам і зьяўляецца аднэй з прадпасылак пасьпешнасьці правядзеньня колектывізацыі.

Практычна па ўсіх гэтых пытаньнях па Случчыне праведзена наступная праца:

## Зямлябудаўніцтва.

Правядзеньнем працы па зямлябудаўніцтве галоўнаю мэтаю ставіцца ўпарадкаваньне зямель, зьнішчэньне раскіданасьці, данадзяленьне безьзямельных і малазямельных гаспадарак, наогул кажучы, правядзеньне неабходнай падрыхтоўчай працы па колектывізацыі і соцыялістычнай перабудовы вёскі. Па Слуцкім раёне досыць значны сьлед пакінула дарэволюцыйная сталыпінская сыстэма зямлябудаўніцтва, якою ахоплена па раёне 12 насельніцкіх пунктаў на плошчы 10594 дзес., дзе організавана 1493 хутары. Правядзеньне зямлябудаўніцтва ў пасьлярэволюцыйныя часы сустракала некаторую цяжкасьць, выходзячы з уплыву сталыпінскай сыстэмы, якою захапляюцца кулацка-заможніцкія слаі вёскі.

Разьвязваньне зямельнага пытаньня пасьля 1917 г. праходзіла па дзьвюх лініях: 1) надзяленьне і данадзяленьне зямлёю беззямельнага і малазямельнага сялянства, выкарыстоўваючы для гэтага абшарніцкія і кулацкія зямлі і 2) правядзеньне зямляўпарадкаваньня тых зямель, якія знаходзіліся ў карыстаньні сялянства. Зямлябудаўніцтва праведзена ў 12 вёсках на плошчы зямлі 14905,4 дзес. з агульным лікам 2049 гаспадарак, з якіх на пасёлкі вышла 1450 гаспадарак і на хутары—599 альбо 29,2%, што зьяўляецца надзвычайна вялікім процантам.

Уся плошча зямлі, упарадкаваная да рэволюцыі і пасьля складае 28.278 дзес. ці 27,8% усіх зямельных угодзьдзяў за выключэньнем лесу.

За гэтыя гады, дзе праводзілася зямляўпарадкаваньне, сялянства вельмі стала цікавіцца колектыўнымі формамі яе. Бядняцка-серадняцкія слаі вёскі, якім пасялковая сыстэма і тым болей хутарская не даюць экономічнага забясьпечаньня, асабліва актыўна абмяркоўваюць колектыўныя формы. У апошні час сярод сталыпінскіх хутароў пачынаецца бражэньне ў бок утварэньня колектываў. І, сапраўды, разглядзеўшы гэтую справу, мы бачым, што пры тым зямлябудаўніцтве, якім вельмі цікавілася кулацтва, бедната пастаўлена была ў надзвычайна цяжкія ўмовы, бо ёй прышлося выселіцца на горшыя землі і сесьці на галодны паёк. Самыя цэнтры і лепшыя ўгодзьдзі дасталіся тады кулацтву і заможнікам, якія фактычна і зьяўляліся актыўнымі праваднікамі сталыпінскае рэформы. Цяпер бядняцкія і серадняцкія часткі вёскі рашуча ставяць пытаньне і дабіваюцца сваіх правоў. У б. вёсцы Сьліва, якая пераведзена была на хутары, у сучасны момант ужо ўтварыўся адзін з бунейшых колгасаў, які пакуль што ахапіў 42 сям'і; яны падпісалі статут і пачалі ўносіць паі.

Наогул, для працоўнага сялянства досыць яскравым зьяўляецца неабходнасьць утварэньня новых працоўных адносін, ужываньне больш складаных працоўных форм у гаспадарчай дзейнасьці, якія павінны аблягчыць умовы працы чалавека і лепш яго экономічна забясьпечыць.

Бягучы год зьяўляецца пераломным у справе колектывізацыі, бо, так ці інакш, вёска загаварыла аб калгасах. Асабліва важным зьяўляецца тое, што колектывы пачынаюць утварацца на сялянскіх землях, дзе праводзіцца зямляўпарадкаваньне.

Вялікае месца ў працы зямляўпарадкаваньня займала справа надзяленьня зямлёю яўрэйскага насельніцтва. У аснове нацыянальнае політыкі нашай партыі і ўраду ляжыць вызваленьне раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй, поўнае забесьпячэньне ім магчымасьці экономічнага і культурнага разьвіцьця. Надзяленьне яўрэяў зямлёю як нацыі, якая ня мела права на карыстаньне зямлёю ў дарэволюцыйныя часы,

зьяўляецца надзвычайна важнаю справай. Конкрэтна ў гэтым напрамку па Слуцкім раёне праведзена наступная праца:

| Гады | Лік надзеленых сямей | Плошча ў дзесяцінах, перададзеная ім. |
|---|---|---|
| 1925-26 г. | 69 | 248,4 |
| 1926-27 г. | 3 | 21,1 |
| 1927-28 г. | 7 | 73,2 |
| Усяго | 79 | 342,7 дзес. |

Па лініі будаўніцтва яўрэйскіх колгасаў:

| Гады | Лік арганіз. галгасаў | На якой плошчы зямлі |
|---|---|---|
| 1925-26 г. | 5 | 386,3 дзес. |
| 1926-27 г. | 1 | 167,4 „ |
| 1927-28 г. | 3 | 120,7 „ |
| Усяго | 9 | 674,4 дзес. |

Па індывідуальнаму і колектыўнаму зямлянадзяленьню, за прыведзеныя тры апошнія гады, перададзена яўрэйскаму насельніцтву 1017,1 дзесяц.

## Агрыкультурныя мерапрыемствы.

У гэтым напрамку праводзілася праца па пераводу на шматпольны севазварот, зернаачышчэньні і пратручваньні насеньня, забесьпячэньні бядняцкіх гаспадарак насеньнем і наогул ужываньне культурных спосабаў вядзеньня гаспадаркі з тым, каб падняць яе прыбытковасьць.

Перавод на шматпольле праводзіўся наступным парадкам:

| ГАДЫ | Сялянскія гаспадаркі | | Калгасы | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік гаспадар. | На плошчы | Лік гаспадар. | На плошчы |
| 1927 г. | 224 | 1265,4 дзес. | — | — |
| 1928 г. | 110 | 592,9 дзес. | 3 | 137,3 дзес. |

Зьмяншэньне ліку пераведзеных гаспадарак на шматпольле тлумачыцца павялічэньнем якаснасьці гэтай працы і неабходнасьцю замацаваньня раней пераведзеных з тым, каб запраўды мець ад гэтага мерапрыемства належныя вынікі.

Значная ўвага зварочвалася на зернаачышчэньне і пратручваньне насеньня, як адно з сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці і на ўжываньне ў сельскую гаспадарку зялёнага і штучнага ўгнаеньня. Дзеля пашырэньня пасяўнога кліну неабходным зьяўляецца зябесьпячэньне насеньнем бядняцкага сялянства.

Па зернаачышчэньні ў 1927 г. працавала 18 машын, у 1928 г.— 42 машыны, а ў пачатку 1929 г. пры разгортваньні веснавое пасеўкампаніі—54 машыны. Ачышчана насеннага зярна ў 1927 г.—521 тона, а ў 1928 г.—894 тоны. Пратручана насеньня ў 1927 г.—121 тона,

а ў 1928 г. — 129 тон. Ужываньне штучнага ўгнаеньня за два гады праводзілася ў такім памеры:

| | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| За гатовыя грошы | 4331 п. | 20374 п. |
| У крэдыт . . . . | 488 п. | 2379 п. |

У справе ўжываньня штучнага ўгнаеньня назіраецца нябывала павялічаны попыт. У апошнюю пасеўную кампанію ня выкананы былі пляны па контрактацыі дзякуючы таму, што не хапіла штучнага ўгнаеньня, на якое з боку сялян контрактантаў быў вельмі вялікі попыт.

Забесьпячэньне насеньнем маламоцных гаспадарак:

| | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| За гатовыя грошы | 15433 п. | 20252 п. |
| У крэдыт . . . . | 10370 п. | 10553 п. |
| За два гады . | 25803 п. | 30805 п. |

## Мэліорацыя.

Мэліорацыя ў Случчыне займае значнае месца, паколькі ёсьць многа забалочных сенажацяў, якія ў некаторай частцы цяпер адносяцца да няўжыткоўных зямель. Ураджайнасьць лугоў надзвычайна нізкая, мэліорацыя і наогул культываваньне сенажацяў вымагаецца крайняю неабходнасьцю. Для практычнага правядзеньня мэліорацыйных работ, у раёне зорганізавана 8 мэліорацыйных таварystваў, з якіх да 1927 г. існавала 5 т-ваў, а ў 1927-28 г. організавана новых 3.

Мэліорацыйныя таварыствы, якія існавалі да 1927 г., праводзячы асушку балот, пракапалі канаў агульнаю працяжнасьцю 2,5 кілёмэтраў і поруч з гэтым на сродкі дзяржавы, за гэты-ж час пракапана канаў працяжнасьцю 10,5 кілёмэтраў. У сэзон 1927-28 г. мэліорацыйных работ на сродкі дзяржавы не рабілася, а існуючыя таварыствы пракапалі канаў агульнаю працяжнасью 11,0 кілёмэтраў. Закультывавана асушаных балот у 1926-27 г.—4,1 дзес., а ў 1927-28 г.—48,5 дзес.

Далейшая праца па мэліорацыі ўпіраецца ў неабходнасьць урэгуляваньня вадазборышч, ачыстцы некаторых рэчак у раёне, без чаго нельга праводзіць нормальную працу па асушцы балот.

## Падаткавая політыка.

Асноўныя прынцыпы падаткавай політыкі, якія праводзяцца ўрадам, усім вядомыя: перасоўваньне асноўнай цяжкасьці падатку на заможна-кулацкія слаі вёскі і адначасова поўнае вызваленьне ад дзяржаўных падаткаў беднаты і маламоцнага серадняцтва, усякім чынам дапамагаючы ім гаспадарча ўзмацніцца. Пры правядзеньні абкладаньня ў мінулы год мы мелі поўнасьцю вызваленых ад абкладаньняў 28% усіх сялянскіх двароў раёну. З усяго налічанага падатку па розных прычынах і льготах зьнята 72874 руб., што складае 26,3% агульнай сумы падатку. Уся гэтая сума разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| а) Вызвалена беднаты цалкам . . . | 2.980 гасп. на | 22.483 р. |
| б) Льготы сем'ям чырвонаарм. і інвалідам . | 419 „ „ | 7.326 р. |
| в) Перасяленцам і разсяленцам . . | 440 „ „ | 11.009 р. |
| г) З прычыны стыхійных зьявішч . . | 850 „ „ | 4.498 р. |
| д) Па перагляду пераабкл. гаспад. . . | 504 „ „ | 8.445 р. |
| е) Па няправільн. вучоту і наліч. . . | 726 „ „ | 3.882 р. |
| ж) Іншыя скідкі . . . . . . | 483 „ „ | 15.231 р. |
| Усяго . . | 6.402 гаспад. | 72.874 р. |

Такім чынам тыя ці іншыя льготы ў розных памерах мелі ў раёне 6.402 гаспадарак альбо 59,1% усяго ліку гаспадарак раёну. Калі прыняць пад увагу, што па раёне налічваецца 17,4% бядняцкіх гаспадарак і 77% серадняцкіх (хаця гэта пдалік будзе ня зусім дакладны), а цалкам вызвелена ад падатку 28%, то зусім зразумела, што падатковая палітыка пабудавана ў інтарэсах бядняцка-серадняцкага слою вёскі і што яна цалкам забясьечвае магчымасьць экономічнага ўздыму адсталых груп вёскі.

Самая кулацкая вяршынка вёскі абкладалася ў індывідуальным парадку, абложана 0,3% гаспадарак, прычым гэтая лічба значна меншая чым у сапраўднасьці ёсьць кулацкай праслойкі ў раёне і чым устаноўленая лічбаю ўрадавай дырэктывы.

У парадку правядзеньня аграномічнай пропаганды ўтвараліся спэцыяльныя курсы для сялян па паляводзтву і жывёлагадоўлі. У 1927 г. організаваны былі курсы на 127 чалавек, а 1928 г. на 155 чалавек. Уся культурная праца накіравана да агульнага ўздыму культурнасьці вёскі, зьнішчэньня няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, да пашырэньня палітычнай сьвядомасьці, усё гэта разам узятае зьяўляецца аднэю з асноў, спрыяючых экономічнаму ўздыму вёскі і яе соцыялістычнай перабудове.

## Арэнда зямлі.

Працоўная арэнда зямлі па Слуцкім раёне не займае значнага месца, як гэта назіраецца па іншых мясцовасьцях. Суб'арэнда таксама ня мае ўдзельнае вагі як у арэндных адносінах, так і тым болей у сельскай гаспадарцы раёну. Вывучаючы гаспадаркі, якія арандуюць зямлю, мы маем наступную характарыстыку:

Паводле соцыяльных адзнак гэтыя гаспадаркі падзяляюцца:

| Гады | Бядняцкія | | | Серадняцкія | | | Па ўсіх групах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік гасп. | У іх душ | Працаздольн. | Лік гасп. | У іх душ | Працаздольн. | Лік гасп. | У іх душ | Працаздольн. |
| 1926 г. . . . . . . . | 53 | 352 | 107 | 8 | 58 | 26 | 61 | 310 | 138 |
| 1927 г. . . . . . . . | 48 | 217 | 110 | 17 | 101 | 76 | 65 | 318 | 182 |
| 1928 г. . . . . . . . | 62 | 292 | 167 | 16 | 108 | 50 | 78 | 400 | 217 |

Тут мы бачым, што за тры гады агульны лік гаспадарак, якія арандуюць зямлю, павялічыўся на 28%, прычым павялічэньне ішло за лік бядняцкіх гаспадарак у пераважнасьці: на 17% за лік бедняцкіх і на 11% за лік серадняцкіх. З ліку гаспадарак, якія арандуюць зямлю, у 1928 г. бедняцкія складаюць 79,4% і серадняцкія—20,6%.

Разглядаючы становішча гаспадарак, арандуючых зямлю да моманту іх арэнды, мы будзем мець наступны малюнак:

Забесьпячэньне зямлёю гаспадарак, арандуючых землю да моманту арэнды (у дзесяцінах).

| Гады | Бядняцкія | | | | | Серадняцкія | | | | | Па ўсіх групах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пахаці | Сенажаці | Інш. ужытк. | Няўжытк. | Усяго | Пахаці | Сенажаці | Інш. ужытк. | Няўжытк. | Усяго | Пахаці | Сенажаці | Інш. ужытк. | Няўжытк. | Усяго |
| 1926 г. . . | 121 | 69 | 20 | 19 | 229 | 42 | 33 | 8 | — | 83 | 163 | 103 | 28 | 19 | 313 |
| 1927 г. . . | 96 | 46 | 5 | 5 | 152 | 57 | 35 | 18 | 6 | 116 | 152 | 81 | 23 | 11 | 267 |
| 1928 г. . . | 104 | 67 | 6 | 6 | 183 | 70 | 36 | 9 | 9 | 124 | 174 | 102 | 16 | 14 | 306 |

Паводле прыведзеных лічбаў можна знайсьці, што па катэгорыі бядняцкіх гаспадарак, арандуючых зямлю ў 1926 г., на кожную прыходзілася ў сярэднім 4,3 дзес. сенапашні, а ў 1928 г. сярэнді надзел раўняецца 2,9 дзес. Па катэгорыі серадняцкіх у 1926 г. на кожную прыходзілася 10,3 дзес. усіх угодзьдзяў, а ў 1928 г.—7,6 дзес. Такім чынам відаць, што з кожным годам у арэндныя адносіны ўцягваюцца ўсе бяднейшыя гаспадаркі, слаба забясьпечаныя зямлёю па сваіх надзелах. Ня гледзячы на рост гаспадарак, арандуючых зямлю за тры гады на 28%, агульная плошча зямельных угодзьдзяў, якая маецца ў іх распараджэньні, не павялічылася, а нават некалькі скарацілася; так напрыклад, у 1927 г. 61 гаспадарка, якія арандавалі зямлю, мелі сваіх зямельных угодзьдзяў 313 дзес., а ў 1928 г.—78 гаспадарак маюць 306 дзес.

Аднолькава важным будзе пытаньне: ад каго арандаваліся і арандуюцца землі па нашым раёне, якія соцыяльныя групы вёскі здаюць свае надзелы ў арэнду. Паводле вестак РВК, арандуюць землі ў абсолютнай большасьці ад сялянства, прычым у 1928 г. здаваліся землі ў арэнду выключна сялянствам. Да 1928 г. здаваліся ў нязначнай колькасьці ў арэнду фонды дзяржаўнай зямельнай маемасьці, але яны складалі 11—12% да ўсяе плошчы арандуемых зямель. Агульны лік гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду, павялічыўся з 53 да 78, што ў значнай меры зьвязана з перасяленьнем сялян за межы Беларусі, бо паводле закону перасяленцы маюць права здаваць свае землі ў арэнду на некаторы час.

Гаворачы аб тэрмінах і відах арэнды, што зьяўляецца таксама важным, мы маем:

Тэрмін арэнды:

| Гады | Бядняцкія гасп. | | | Серадняцкія | | | Па ўсіх групах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1—3 г. | 3—6 г. | Звыш. 6 г. | 1—3 г. | 3—6 г. | Звыш. 6 г. | 1—3 г. | 3—6 г. | Звыш. 6 г. |
| 1926 г. . . . . . . | 48 | 4 | 1 | — | — | — | 48 | 4 | 1 |
| 1927 г. . . . . . . | 46 | 2 | — | — | — | — | 46 | 2 | — |
| 1928 г. . . . . . . | 60 | 2 | — | 16 | — | — | 76 | 2 | — |

**Па відах арэнды:**

| Гады | Бядняцкія гасп. | | | Серадняцкія | | | Па ўсіх групах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | За грошы | З часьці | За апл. натурай | За грошы | З часьці | За апл. натурай | За грошы | З часьці | За апл. натурай |
| 1926 г. . . . . . . . | 43 | 8 | 2 | — | — | — | 43 | 8 | 2 |
| 1927 г. . . . . . . . | 42 | 2 | 6 | — | — | — | 42 | 2 | 6 |
| 1928 г. . . . . . . . | 61 | 1 | — | 16 | — | — | 77 | 1 | — |

Адгэтуль відаць, што ў сэнсе тэрміну арэнды за два гады пераважная большасьць гаспадарак арандуюць зямлю на тэрмін 1—3 гады і толькі нязначная частка—на 3—6 г., што-ж датычыцца тэрміну звыш 6 гадоў, то такіх гаспадарак няма. Узяўшы групу серадняцкіх гаспадарак, то па іх тэрмін арэнды не перавышае 3 гадоў. Віды арэнды больш за ўсё распаўсюджаны за грошы (на 98,7%) і асабліва ў 1928 г. Арэндная плата ў апошнім годзе ўстаноўлена 12,5 р. за дзесяціну пахаці і 14 р. за дзесяціну сенажаці. Ёсьць некаторае павялічэньне арэнднай платы ў параўнаньні з 1926 г., але нязначнае.

Пры вывучэньні пытаньня аб арэндных адносінах у сельскай гаспадарцы раёну, поруч з разглядам характарыстыкі гаспадарак, якія арандуюць зямлю, неабходна разгледзіць пытаньне і аб гаспадарках, якія здаюць зямлю ў арэнду, каб мець поўную ацэнку арэндных суадносін на вёсцы і іх удзельную вагу ў сельскай гаспадарцы.

**Характарыстыка гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду:**

| Групы гаспадарак | Гады | Лік гасп. | У іх душ | З іх прац. | Зямельныя надзелы гэтых гасп. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пахаці | Сенаж. | Інш. ужыт. | Няўжыткоўных | Усяго |
| Бядняцкія | 1926 г. | 30 | 121 | 36 | 67,21 | 22,85 | 9,60 | 40,00 | 103,66 |
| | 1927 г. | 42 | 137 | 53 | 87,13 | 51,70 | 10,54 | 22,03 | 171,40 |
| | 1928 г. | 28 | 138 | 60 | 60,05 | 28,51 | 6,19 | 7,90 | 102,65 |
| Сераднацкія | 1926 г. | 6 | 18 | 11 | 27,00 | 13,00 | — | 1,00 | 41,00 |
| | 1927 г. | 3 | 8 | 5 | 14,75 | 6,50 | 3,75 | 2,47 | 27,47 |
| | 1928 г. | 12 | 67 | 36 | 40,25 | 16,17 | 12,53 | 7,75 | 76,70 |
| Заможныя | 1926 г. | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 1927 г. | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 1928 г. | 2 | 13 | 7 | 11,9 | 5,77 | — | 1,5 | 19,17 |
| Па ўсіх групах | 1926 г. | 36 | 139 | 47 | 94,21 | 35,85 | 9,60 | 5,00 | 144,66 |
| | 1927 г. | 45 | 145 | 58 | 101,88 | 58,20 | 14,29 | 24,50 | 198,87 |
| | 1928 г. | 42 | 218 | 103 | 112,20 | 50,45 | 18,72 | 17,15 | 198,52 |

З паказанай табліцы відаць, што за тры гады былі некаторыя хістаньні ў павялічэньні гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду, і ў 1928 г. яны павялічыліся на 17% у параўнаньні з 1926 г. Разам з гэтым павялічылася і плошча зямлі на 28,7%. Павялічэньне гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду, ішло галоўным чынам за кошт серадняцкіх гаспадарак і ў нязначнай частцы за лік заможных. Што датычыцца бядняцкіх гаспадарак, то іх колькасьць зьменшылася, асабліва ў 1928 г., дзе параўнальна з 1927 г. зьмяншэньне адбылося на 34%. Фактычна гэта зьяўляецца некаторым эфэктам усіх экономічных мерапрыемстваў ураду, накіраваных на падняцьце маламоцных гаспадарак.

У папярэдніх лічбах гаспадарак, якія арандуюць зямлю за апошні год, мы мелі колькасьны лік іх 78, а памеры зямель, здадзеных у арэнду за гэты год, выражаецца ў памеры 198,62 дзес. Такім чынам на 1 арандуючую гаспадарку прыходзіцца 2,5 дзес. усіх угодзьдзяў. Сваіх-жа зямель у гэтых гаспадарках налічваецца ў сярэднім на кожную — 3,9 дзес.

Разам са сваёй і арандаванай зямлёю набіраецца на кожнаю гаспадарку, якія арандуюць землі — 6,4 дзес. Такім чынам, гэтая лічба яшчэ раз пераконавае нас, што арэндныя адносіны ў сельскай гаспадарцы Случчыны асаблівага месца не займаюць і пры сучасным яе стане ня можа стымуляваць перарастаньню ў кулацкія гаспадаркі тых, якія арандуюць землі, тым болей пасьля ўвядзеньня закону аб скарачэньні тэрміну арэнды.

Нарэшце, досыць важным пытаньнем зьяўляецца і прычыны здачы зямлі ў арэнду. З наступных лічбаў можна ўстанавіць:

| Групы | Гады | Лік гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду з прычын | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Перасяленьня | Пэрыод выезд. на зараб. | Іншых | Задаюць усю зем. | Задаюць больш пал. | Задаюць мен. пал. |
| Бядняцкія | 1926 г. | 5 | 10 | 15 | 21 | 4 | 5 |
| | 1927 г. | 6 | 16 | 20 | 35 | 3 | 4 |
| | 1928 г. | 17 | 8 | 3 | 27 | — | 1 |
| Серадняцкія | 1926 г. | 5 | — | — | — | — | — |
| | 1927 г. | 3 | — | — | — | — | — |
| | 1928 г. | 12 | — | — | 12 | — | — |
| Заможныя | 1928 г. | 2 | — | — | 2 | — | — |
| Па ўсіх групах | 1926 г. | 10 | 10 | 15 | 21 | 4 | 5 |
| | 1927 г. | 9 | 16 | 20 | 35 | 3 | 4 |
| | 1928 г. | 31 | 8 | 3 | 41 | — | 1 |

Падвёўшы падагульненьні арэнднаму пытаньню па Случчыне, неабходна падкрэсьліць, што здача зямель у арэнду, за апошні год асабліва выклікаецца перасяленьнем, якое адбываецца за межы БССР; з 42 гаспадарак, якія здаюць зямлю ў арэнду, 31 перададзена з прычыны перасяленьня, рэшта здае з прычыны выезду на заработкі. Памер гас-

падарак, уцягнутых у арэндныя адносіны, як арандуючых, так і тых, хто здае зямлю ў арэнду, а разам з гэтым памер арандуючых плошчаў зямлі, параўнальна з агульным лікам гаспадарак і зямель па раёне, нязначны (0,03% зямель).

Арэндныя суадносіны, як гэта зазначалася раней, у агульнай гаспадарцы раёну, не зьяўляюцца фактам, стымулюючым перарастаньня ў кулацкія гаспадаркі. Пры наяўнасьці ўсіх экономічных мерапрыемстваў, створаных у адносінах да паасобных социяльных груп вёскі, арэнда зямлі па Слуцкім раёне ніякага ўплыву на социялістычную перабудову вёскі ня можна зрабіць.

## Збор зернапродуктаў і іх таварнасьць у сельскай гаспадарцы раёну.

Пытаньне хлебнага балянсу ў сучасны момант зьяўляецца адным з галоўных пытаньняў, на якое загострываецца ўвага нашай партыяй і ўрадам. Выпаўненьне пляну індустрыялізацыі краіны шчыльна зьвязана з ростам сельскай гаспадаркі, з ростам „харчавой і сырцавой базы індустрыялізацыі“. На падставе гэтага надзвычайна важным будзе вывучэньне на мясцох дынамікі руху як валавога збору зернапродуктаў, так і іх таварнай часткі ў сельскай гаспадарцы раёну. Паводле матар'ялаў РВК і раённай статысткі, гэтае пытаньне характарызуецца наступным:

**Валавы збор зернапродуктаў па ўсіх групах гаспадарак і іх таварная частка (у пудох):**

| Гады | Валавы збор | Усяго расходавана зярна за год | | | | Таварн. частка | %% тавар. част. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сялянскія гаспадар. | Савгасы | Колгасы | Усяго | | |
| 1927 г. . . . . | 1671250 | 1493071 | 12168 | 6048 | 1511963 | 159963 | 9,5% |
| 1928 г. . . . . | 1682155 | 1495151 | 14985 | 6938 | 1517074 | 165081 | 9,9% |

Адгэтуль мы бачым, што таварная частка зернапродуктаў па ўсіх групах гаспадарак раёну павялічылася на 0,4%; павялічэньне бязумоўна нязначнае; рост-жа валавога збору зернапродуктаў павялічыўся на 10905 п. альбо на 0,7%. Назіраецца павялічэньне расходу зярна на ўнутраное спажываньне як самім насельніцтвам, так і на ўтрыманьне жывёлы. Асабліва павялічалася вырасходаваньне на кармленьне жывёлы па саўгаскіх гаспадарках, дзе гэты расход вырас на 23,1% у параўнаньні з мінулым годам. Больш падрабязныя матар'ялы аб таварнасьці зернапродуктаў па трох прыведзеных тыпах гаспадарак даюць нам наступны малюнак:

**Валавы збор зернапродуктаў па сялянскіх гаспадарках і іх таварнасць у пудох.**

| Дата | Валавы збор | Расходавана на працягу году | | | | Таварн. лішкі | %% таварнасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На насеньне | На карм. насельн. | На карм. жывёлы | Усяго | | |
| 1927 г. . . . . | 1637271 | 302806 | 606403 | 583862 | 1493071 | 144200 | 8,8% |
| 1928 г. . . . . | 1647835 | 293158 | 616022 | 585971 | 1495151 | 152684 | 9,3% |

У абсолютных лічбах збор зернапродуктаў павялічыўся на 10564 п· за год. Такое павялічэньне трэба лічыць недастатковым, калі ўзяць пад увагу агульную колькасьць гаспадарак. Падняцьце ўраджайнасьці, за кошт якога ішло павялічэньне зярна, бязумоўна было недастатковае.

На таварнасьці зернапродуктаў меў вялікі ўплыў недарод траў у большасьці сельсаветаў на працягу двух апошніх гадоў, што прымусіла сялянства пакідаць для сябе большыя страхавыя запасы зярна, маючы на ўвазе неабходнасьць пратрыманьня жывёлы. Пабач з павялічэньнем валавога збору зернавых культур, назіраецца значна ўзросшая валавая продукцыя бульбы, што зьвязана з разьвіцьцём гадоўлі сьвіней.

Таварнасьць па сялянскіх гаспадарках вырасла на 0,5% у той час, калі па ўсіх тыпах гаспадарак разам было павялічэньне на 0,4%.

Па савецкіх гаспадарках ёсьць наступныя вынікі:

**Валавы збор зернапродуктаў па савгасах і іх таварнасьць (у пудох).**

| Гады | Валавы збор | Вырасходавана | | | Тарарныя лішкі | %% таварнасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Насеньня | На жывёлу | Усяго | | |
| 1927 г. . . . | 27840 | 3533 | 8636 | 12169 | 15672 | 56,3% |
| 1928 г. . . . | 27000 | 3407 | 11578 | 14985 | 12015 | 44,0% |

Тут наогул павялічэньне вырасходваньня зярна за год адбылося на 23%, значна болей, чым па сялянскіх гаспадарках, прычым рост расходу зярна на кармленьне жывёлы вельмі павялічыўся за адзін год. Разам з гэтым ёсьць зьмяншэньне таварнасьці зярна на 12,3%. Трэба зазначыць, што зьмяншэньне таварных лішкаў зярна па савецкіх гаспадарках ёсьць ненормальная справа, пры наяўнасьці хлебных цяжкасьцяў на рынку. Савгасы павіны выконваць пастаўленую перад імі задачу хлебных заводаў, як буйныя гаспадаркі, зразумела не падрываючы іншых галін сваёй гаспадарчай дзейнасьці. Калгасы, як новы тып гаспадарак, яшчэ досыць маладыя, пры недастаковым іх разьвіцьці, яшчэ ня маюць адпаведнай удзельнай вагі ў агульнай валавой продукцыі зернавых культур гаспадаркі раёну. У 1927 г. таварныя лішкі колгасаў складалі 1,3% іх валавога збору, а ў 1928 г. яны павялічыліся да 5,2%. Тэмп росту для аднаго году досыць значны і гэты факт сьцьвярджае асноўную ўстаноўку па вырашэньні хлебнага пытаньня праз аграмаджаную буйную гаспадарку, дзе ёсьць поўная магчымасьць ужываць усе спосабы падняцьця ўраджайнасьці і павялічэньня прыбытковасьці гаспадаркі.

---

## Соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі раёну.

Пытаньне пераводу нашай вёскі на соцыялістычныя асновы, утварэньне новых соцыяльна-экономічных суадносін на вёсьцы, тэарытычна абаснаваных і практычна даказаных нашаю партыяй, зьяўляецца штодзённай практычнай працаю. У. І. Ленін яшчэ ў 1919 г., гаворачы аб сялянстве, зазначаў, што „шлях вёскі да соцыялізму ляжыць у напрамку

ад дробнай індывідуальнай гаспадаркі да буйнай колектыўнай на аснове высокай машыннай тэхнікі“.

На сучасным этапе разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі, калі яна адноўлена да даваеннага ўзроўню, калі на шляху свайго аднаўленьня яна усё цясьней зрасталася з соцыялістычным горадам праз сыстэму самых рознастайных відаў коопэрацыі, калі с-г. коопэрацыя і яе прасьцейшыя выгляды змаглі павялічыць свае капіталы і ўзмацніць сваю гаспадарчую дзейнасьць, Комуністычная партыя намеціла шляхі рэконструкцыі вёскі. XV зьезд УсеКП(б) высунуў лёзунг: „Вёска наперад да буйнай колектыўнай гаспадаркі“. Пад гэтым лёзунгам непасрэдна і праходзіла практычная праца па ўзмацненьні соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі раёну.

## Колгасы і савгасы раёну.

Па справе будаўніцтва колгасаў і савгасаў XV Партыйны Зьезд пастанавіў:

„Узмацніць дапамогу справе колгаснага будаўніцтва і ўзмацніць савгасы, абярнуўшы іх на справе ва ўзорныя буйныя гаспадаркі соцыялістычнага тыпу пры адначасным узмацненьні іх дапамогі сялянскай гаспадарцы“.

Конкрэтна ў колгасным будаўніцтве па Слуцкім раёне ёсьць павялічэньне сеткі колгасаў і ўзмацненьне іх эконамічнага стану. Да сучаснага моманту іх налічваецца 14 з агульным лікам сямей 109. Да 1928 г. існавала 8 колгасаў, за 1928 г. організавана новых 6. З усяго ліку колгасаў яўрэйскіх налічваецца 9 і беларускіх 5. У парадку падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўкампаніі 1929 г. аформлены 2 новыя колгасы на сялянскіх землях, з якіх 1 у вёсцы, уключанай у плян зямляўпарадкаваньня і 1-на хутарох сталыпінскага зямлябудаўніцтва.

Агульнае эконамічнае становішча колгасаў да сучаснага моманту характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | У ОРГАНІЗАВАНЫХ: | | |
|---|---|---|---|
| | да 1928 г. | за 1928 г. | Усяго |
| а) Забесьпячэньне зямлёю | | | |
| Пахаці | 373,6 дзес. | 167,6 дз. | 541,2 дзес. |
| Сенажаці | 169,2 „ | 32,8 „ | 202,0 „ |
| Сады | 5,5 „ | 23,7 „ | 29,2 „ |
| Залежы і няўж. землі | 182,4 „ | 39,8 „ | 222,2 „ |
| Лесу | 161,0 „ | — | 161,0 „ |
| Разам | 891,7 дзес. | 263,9 дзес. | 1155,6 дзес. |
| б) Забесьпячэньне жывёлаю | | | |
| Коняй | 59 шт. | 32 шт. | 91 шт. |
| Кароў | 210 „ | 96 „ | 306 „ |
| Сьвіней | 17 „ | 54 „ | 71 „ |
| Разам | 286 шт. | 182 шт. | 468 шт. |

| | У ОРГАНІЗАВАНЫХ: | | |
|---|---|---|---|
| | да 1928 г. | за 1928 г. | Усяго |
| в) Забесьпячэньне будынкамі | | | |
| Жылых дамоў . . . . | 14 | 8 | 22 |
| Хлявоў . . . . . | 16 | 6 | 22 |
| Склад. памяшканьняў . . . | 18 | 8 | 26 |
| Разам . . . | 48 | 22 | 70 |
| г) Забесьпячэньне машынамі | | | |
| Буйных машын . . . | 40 | 15 | 55 |
| Дробных машын . . . | 65 | 28 | 93 |
| Разам . . . | 105 | 43 | 148 |
| д) Капіталы: | | | |
| Паявыя . . . . . | 19.584 р. | 18.600 р. | 38.184 р. |
| Пазычаныя . . . . | 39.785 р. | 16.319 р. | 56.104 р. |
| Разам . . . | 59.369 р. | 34.919 р. | 94.288 р. |
| е) Асабовы склад колгасаў | | | |
| Мужчын . . . . . | 129 чал. | 95 чал. | 224 чал. |
| Жанчын . . . . . | 125 „ | 91 „ | 216 „ |
| Разам . . . | 254 чал. | 186 чал. | 440 чал. |
| ж) З іх пайшчыкаў . . | 69 чал. | 41 чал. | 110 чал. |

Па забесьпячэньні зямлёю мы маем у сярэднім па 82,5 дзес. сенапахаці на кожны колгас, што бязумоўна вельмі мала і затрымлівае пашырэньне колгасаў за лік уліваньня новых сямей і высоўвае пытаньне аб пашырэньні іх за лік далучэньня зямлі. Буйных колгасаў да гэтага часу па раёне ня было, самы большы налічваў 17 сямей, а рэшта колгасы драбнейшыя. Ёсьць колгасы з вельмі малымі зямельнымі надзеламі, такіх налічваецца 2. З вясны 1929 г. назіраецца пералом у бок організацыі больш буйнейшых колектываў, прычым гэты пералом заўважаецца сярод саміх колгасьнікаў, якія да гэтага часу баяліся ўключацца ў буйную гаспадарку. Практыка гаспадарчай дзейнасьці ў колектывах пераканала ўдзельнікаў іх у тым, што больш пасьпяхова можна разгортваць працу толькі тады, калі ёсьць большая колькасьць рабочай сілы. Пэрспэктывы для організацыі вялікіх колектываў ёсьць значныя і вельмі каштоўна тое, што ў гэтым пераконваецца само насельніцтва. За час нядаўгага існаваньня калгасаў яны змаглі ўсё-ж такі практычна давесьці вакольнаму насельніцтву сваю перавагу. Мы мелі цэлы шэраг экскурсій сялян у колгасы перад тым, як рашыць самім пытаньне аб пераходзе ў колектывы, і гэтыя экскурсіі далі самыя станоўчыя вынікі.

Суадносіны паміж сваімі і пазычанымі капіталамі ў існуючых колектывах выражаюцца як 1 : 4, так што, наогул кажучы, становішча досыць нормальнае, закрэдытаванасьці няма, гаспадарчая праца разгортваецца за кошт сваіх уласных капіталаў.

Савгасаў па раёне налічваецца 3, з якіх 2 уваходзяць у склад Белсельтрэсту, а 1 знаходзіцца пад ведамам РВК. Усімі савгасамі занята зямлі 1436 дзесяцін. Агульнае становішча савгасаў да сучаснага моманту характарызуецца іх стабільнасьцю. Значна палепшылася апрацоўка зямлі, што дало падвышэньне ўраджайнасьці. Рабочых коняй савгасы налічаюць 82 шт. і маладняку—10 шт., рагатай жывёлы—221 шт., сьвіней—48 шт. і маладняка—202 шт.

Савгасы і колгасы, як тып аграмаджаных гаспадарак, пры іх сучасным стане, поўнасьцю даказваюць іх пераважнасьць. Лічбы ўраджайнасьці і тэмп падняцьця ўраджайнасьці яскрава сьведчаць аб тым, што толькі ў буйных гаспадарках, дзе ўжываюцца найлепшыя формы зямляапрацоўкі, атрымліваецца значнае падняцьце прыбытковасьці. З лічбаў ураджайнасьці, атрыманых па трох тыпах гаспадарак, мы маем:

| | Параўнальныя лічбы ўраджайнасьці за 1928 г. | | |
|---|---|---|---|
| | Сялянск. гаспадар. | Савгасы | Колгасы |
| | Сярэдні ўраджай з 1 гэкт. | | |
| Жыта . . . . „ . | 56 п. | 68 п. | 84 п. |
| Аўса . . . . . . | 49 п. | 53 п. | 55 п. |
| Бульбы . . . . . | 790 п. | 845 п. | 833 п. |

Такім чынам мы бачым, што па ўраджайнасьці сялянскія гаспадаркі стаяць значна ніжэй, і самая большая ўраджайнасьць будзе ў колгасах.

Прычыны гэтаму досыць яскравыя, а для большага сьцьвярджэньня іх прывядом наступныя матар‘ялы. Калі па колгасах засяваецца пад бульбу 26,1% усяе плошчы пасеву, канюшыны—10,5%, лубіну—10,7%, то па сялянскіх гаспадарках гэтыя-ж культуры засяваюцца ў наступнай колькасьці: бульбы—14,2%, канюшыны—6,2% і лубіну—0,6%, і маючы на ўвазе, што пасеў гэтых культур спрыяе падвышэньню ўраджайнасьці, то зразумела, што сялянская гаспадарка, пры яе сучасным гаспадарчым укладзе, ня зможа дагнаць па ўраджайнасьці буйную гаспадарку, бо селянін ня можа вясьці такі совазварот і такую апрацоўку зямлі як буйная гаспадарка. Падвышэньне ўраджайнасьці за апошні год праходзіла наступным тэмпам; па сялянскіх гаспадарках ураджай зернавых культур падняўся на 1,1%, на бульбу—0,4%, а па буйных гаспадарках на зернавыя культуры—2,8%, а на бульбу—3,2%. Такім чынам, нашы соцыялістычныя астраўкі на вёсцы запраўды становяцца прыкладнымі гаспадаркамі, якія практычна паказваюць шлях для вёскі ў сэнсе палепшаньня дабрабыту сялянства праз буйную гаспадарку.

Бягучы гаспадарчы год зрабіў вялікі пералом у справе колектывізацыі. Вёска загаварыла аб колектывах, розныя соцыяльныя праслойкі пасвайму абмяркоўваюць колгасную справу. Наогул, мы маем

такое становішча, што аб колектывізацыі актыўна сталі гаварыць, што колектывізацыя сур'ёзна пастаўлена вёскаю на чаргу дню, што далейшае ўзмацненьне існуючых колектываў, якія пакажуць прыклад вядзеньня новага тыпу гаспадарак, абгрунтаваных на соцыялістычных асновах, павінна вырашыць тэмп справы колектывізацыі.

## Сельска-гаспадарчая коопэрацыя і яе прасьцейшыя віды.

Разьвіцьцё сельска-гаспадарчай коопэрацыі і яе прасьцейшых відаў за апошнія гады праходзіла наступным парадкам:

| Віды коопэрацыйных аб'яднаньняў | 1926 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік аб-яднань-няў | Лік пай-шчыкаў | Лік аб-яднань-няў | Лік пай-шчыкаў | Лік аб-яднань-няў | Лік пай-шчыкаў |
| Крэдытных с.-г. таварыств. | 2 | 2583 | 3 | 3306 | 4 | 4512 |
| С.-Г. Таварыств. | 2 | 368 | 1 | 140 | — | — |
| Малочных арцеляў | 2 | 182 | 3 | 234 | 6 | 568 |
| Калгасы | 7 | 56 | 8 | 69 | 14 | 110 |
| Машынныя т-вы. | — | — | — | — | 3 | 30 |
| Мэліорацыйныя т-вы. | 5 | 96 | 5 | 100 | 8 | 160 |
| Тарпяныя т-вы. | 1 | 20 | 4 | 86 | 7 | 148 |
| Усяго. | 19 | 3305 | 24 | 3935 | 42 | 5582 |

Усімі відамі коопэрацыі ахоплена ў 1928 г. 41,4% двароў супроць 34% у 1927 г. На працягу трох гадоў усе сельска-гаспадарчыя т-вы прынялі на сябе крэдытныя функцыі. Значны рост праходзіў за лік прасьцейшых відаў коопэрацыі за кошт вытворчага коопэраваньня, якое да сучаснага моманту патрабуе больш шпаркага тэмпу разгортваньня. Шляхам крэдытаваньня па лініі коопэрацыі сялянства вызваляецца з-пад экономічнага ўплыву кулацкай вяршынкі і паступова зрастаецца з соцыялістычным сэктарам гаспадаркі. Практычна ў справе крэдытаваньня за апошнія гады ёсьць значнае павялічэньне сродкаў на доўгатэрміновыя і кароткатэрміновыя крэдыты. Узяўшы для ўзору 2 крэдытныя т-вы, мы ўбачым наступны рост крэдытных сум.

| Назва т-ва | Гады | Доўга-тэрміно-выя | Каротка-тэрміно-выя |
|---|---|---|---|
| Ленінскае | 1926-27 г. | 15.585 р. | 23.296 р. |
| | 1927-28 г. | 22.011 р. | 23.653 р. |
| Слуцкае | 1926-27 г. | 34.825 р. | 19.555 р. |
| | 1927-28 г. | 73.999 р. | 33.202 р. |

Доўгатэрміновыя крэдыты, уложаныя ў бядняцкія гаспадаркі, даюць нам неабходны эфэкт, будучы ўложанымі ў зварот гаспадаркі на большы тэрмін, і рост доўгатэрміновых крэдытаў дае магчымасьць стварыць большую экономічную базу для ўздыму маламоцных гаспадарак.

Надзвычайна важным будзе і тое пытаньне ў сэнсе клясавым, хто ў нас коопэраваны, хто зрастаецца з соцыялістычным сэктарам, хто крэдытуецца, куды накіраваны нашы крэдытныя асыгнаваньні, паколькі самы фак накапленьня сродкаў у вёсцы зьяўляецца надзвычайна важным з таго боку, дзе праходзіць накапленьне, у руках якіх соцыяльных груп і ці ня можа гэтае накапленьне стымуляваць перарастаньне індывідуальных гаспадарак у кулацкія.

Наша задача накіраваць усе сродкі нізам вёскі, сельскай беднаце з тым, каб не дапусьціць іх пролетарызаці і стварыць умовы для іх экономічнага ўздыму і паступовага ўрастаньня ў сыстэму соцыялістычнай гаспадаркі.

Прывядом лічбы аб соцыяльным складзе пайшчыкаў аднаго з крэдытных таварыстваў, узятых для ўзору (Слуцкага):

| Соцыяльныя азнакі | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| а) па пасеўнасьці: | | |
| Беспасеўных гасп. | 60 | 60 |
| З пасевам да 2-х дзес. | 370 | 590 |
| З „ ад 2-х да 4 дз. | 721 | 692 |
| З „ ад 4-х да 6 дз. | 595 | 528 |
| З „ ад 6-ці да 8 дз. | 558 | 363 |
| б) паводле коняй: | | |
| Гаспадаркі бяз коняй | 290 | 296 |
| З адным канём | 1388 | 1529 |
| З двума канямі | 519 | 408 |
| Трох і больш коняй | 109 | — |
| в) Па кароўнасьці: | | |
| Бескароўных гаспадар | 195 | 233 |
| Аднакароўных „ | 1044 | 1167 |
| Двухкароўных „ | 972 | 824 |
| Трохкароўных „ | 95 | 9 |

З лічбаў соцыяльнага складу пайшчыкаў заўважаецца, што пашырэньне ідзе галоўным чынам за кошт бяднейшай часткі насельніцтва і што ахоплены коопэрацыяй у абсолютнай большасьці бядняцка-серадняцкі склад вёскі. У некаторых арцелях, як напр. малочныя, мы можам заўважыць нязначную праслойку многакароўных гаспадарак, дзе за апошнія часы асаблівая ўвага зьвернута на пашырэньне бядняцка-серадняцкага асяродку ў іх.

Крэдытаваньне вёскі па лініі крэдытнай коопэрацыі характарызуецца наступнымі лічбамі, узятымі для ўзору па двух крэдытных таварыствах.

| Соцыяльныя азнакі | Слуцкае Крэд. Т-ва | | | | Ленінскае Крэд. Т-ва | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | |
| | Лік пазык | Сума | Лік пазык | Сума | Лік пазык | Сума | Лік пазык | Сума |
| Базпасеўных . . | 8 | 529 р. | 10 | 600 р. | 26 | 3400 р. | 5 | 315 р. |
| З пасевам: | | | | | | | | |
| Да 2-х дзес. . . | 173 | 7234 р. | 573 | 25629 р. | 238 | 3445 р. | 205 | 7165 р. |
| 2—4 дзес. . . | 589 | 22135 р. | 1531 | 36243 р. | 502 | 2200 р. | 459 | 14157 р. |
| 4—6 дзес. . . | 276 | 12804 р. | 139 | 4540 р. | 249 | 14900 р. | 79 | 3722 р. |
| 6—8 дзес. . . | 85 | 4730 р. | 7 | 255 р. | 14 | 625 р. | 1 | 48 р. |
| Звыш 8 дзес . . | 162 | 6996 р. | — | — | 12 | 484 р. | — | — |
| Бяз коняй . . | 272 | 17156 р. | 392 | 12326 р. | 69 | 6750 р. | 113 | 6331 р. |
| З адным канём . | 956 | 35433 р. | 1772 | 52054 р. | 614 | 22398 р. | 582 | 17092 р. |
| З двума канямі . | 65 | 1793 р. | 96 | 2890 р. | 276 | 14255 р. | 54 | 1984 р. |
| Трох і больш . | — | — | — | — | 8 | 420 р. | — | — |
| Бескароўных . . | 86 | 4039 р. | 118 | 5666 р. | Няма вестак | | 198 | 3793 р. |
| Аднакароўных . | 657 | 28213 р. | 1829 | 47522 р. | | | 504 | 16540 р. |
| Двухкароўных . | 454 | 18240 р. | 285 | 13351 р. | | | 140 | 4819 р. |
| Трохкароўных . | 36 | 3606 р. | 28 | 728 р. | | | 7 | 255 р. |
| Чатырох і больш . | 10 | 330 р. | — | — | | | — | — |

Такім чынам разьмяшчэньне крэдытаў праводзілася сярод бядняцка-серадняцкіх колаў у абсолютнай большасьці. Галоўныя сродкі накіраваны гаспадаркам бяз коняй, без кароў, адным канём і з аднэй і двумя каровамі. На падставе гэтага неабходна падкрэсьліць, грунтуючыся на лічбах, што ўся крэдытная політыка праводзіцца выключна ў інтарэсах беднаты, у першую чаргу, і серадняцтва, і што гэта зьяўляецца адным з экономічных рычагоў па падняцьці самых нізкіх у экономічным сэнсе слаёў нашай вёскі.

### Пэрспэктывы разьвіцьця сельскай гаспадаркі Случчыны.

Далейшае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі раёну накіроўваецца па шляху, вызначаным урадавым законам, які выдадзены па гэтым пытаньні ў агульнасаюзным і рэспубліканскім маштабе. Паводле матар'ялаў РВК асноўныя мерапрыемствы па падняцьці с.-г. на бліжэйшыя гады зводзяцца да наступнага:

Па лініі колектывізацыі і наогул пашырэньня соцыялістычных укладаў на вёсцы да 1933 г. прадугледжваецца давесьці агульную зямельную плошчу пад колгасамі да 11.960 гэктараў, гэта значыць

павялічыць параўнальна з сучасным станам на 10.04 гэкт., пасьля чаго агульная плошча зямлі пад колектывамі будзе складаць 12% усяе зямельнай плошчы раёну. Па лініі вытворчага коопэраваньня намечана пашырыць ахоп сялянскіх двароў з такім разьлікам, каб давесьці яго да 75% агульнага ліку двароў. У сучасны момант коопэравана гэтымі відамі коопэрацыі 1104 двары. Існуючыя колгасы намечана пашырыць шляхам далучэньня да іх новых зямельных фондаў і павялічэньня ліку сямей у іх складзе.

У напрамку падняцьця ўраджайнасьці прадугледжана давесьці ўжываньне штучнага ўгнаеньня да 1933 г. з такім разьлікам, каб угнойваць да 5000 гэкт. зямлі. Устанавіць абавязковасьць зьбіраньня попелу і ўжываць кожны год яго да 25.000 пудоў. Торпаўгнаеньнем ахапіць да 5000 гэкт. да канца пяцігодкі, увёўшы абавязковасьць угнаеньня торпам у тых вёсках, дзе будуць праводзіцца торпараспрацоўкі, пачынаючы гэтае мерапрыемства з вясны 1930 году. Вапнаваньне глебы давесьці да канца пяцігодкі да 2000 гэкт., у першую чаргу зьвярнуўшы ўвагу на горшыя глебы раёну. Засеў лубіну давесьці таксама да 2000 гэкт., прычым асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на пяшчаныя землі Старэўскага, Сарагоўскага, Урэцкага і Дарасінскага сельсаветаў. У колгасах і саўгасах увесьці абавязковасьць закладкі компосных ям.

Увядзеньне гатунковага палепшанага пасеву намечана да 1933 г. увесьці на плошчы да 70% усяго пасеву. Намечана пашырэньне насеньняводных таварыстваў з такім разьлікам, каб забясьпечыць выкананьне пляну ўвядзеньня гатунковага насеньня і пасеву. З вясны 1930 г. мяркуецца правесьці рэгістрацыю гаспадарак, якія выкарыстоўваюць нядобраякаснае насеньне з тым, каб устанавіць тэрмін перамены яго на добраякаснае. Забесьпячэньне вёскі машынамі ўсіх відаў прадугледжваецца ў такой колькасьці, каб стварыць належны стымул для больш шпаркага тэмпу колектывізацыі і каб забясьпечыць магчымасьць выкананьня пляну ўздыму ўраджайнасьці і палепшаньня культурнасьці вядзеньня гаспадаркі наогул. Асаблівая ўвага ў пляне загостраваецца на колектыўныя формы выкарыстаньня больш складаных машын шлахам організацыі машынных таварыстваў.

У справе правядзеньня земляўпарадкаваньня і пашырэньня пасяўной плошчы намечана пэрспэктыўным плянам: пасяўную плошчу павялічыць на 10.000 гэкт., прычым павялічэньне павінна прайсьці за кошт распашкі заляжалых зямель, за лік культываваньня пяшчанікаў, асушкі забалочаных зямель і засеву папару пасьля правядзеньня земляўпарадкаваньня. Земляўпарадкаваньнем ахапіць да 70 — 75% усяе плошчы зямель раёну, маючы на ўвазе тое, што да сучаснага моманту дарэволюцыйным і пасьлярэволюцыйным земляўпарадкаваньнем ахоплена было да 29% усяе плошчы зямель. Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня мяркуецца павялічэньне колектыўных форм у землякарыстаньні.

Па гадоўлі жывёлы прадугледжваецца прыняць захады да палепшаньня якасьці жывёлы ў сялянства, увесьці ў практыку контрактацыю і вучот палепшанага маладняка ў сялянскіх гаспадарках з мэтаю недапушчэньня яго ўбою, організацыя злучных пунктаў і пашырэньне малочнай коопэрацыі з тым, каб стварыць стымул для пашырэньня жывёлагадоўлі ў прыватнасьці рагатай жывёлы, організаваўшы збыт малочных продуктоў. У пытаньні разьвіцьця жывёлагадоўлі прадугледжана пашырэньне кармавой базы. Для гэтага мяркуецца знач-

нае пашырэньне плошчы засеву карняплодамі і травасеяньнем, правядзеньне закладкі штучных выпасаў з разьлікам кожны год ня менш 50 гэкт., увядзеньне абавязковага культываваньня задзічалых выганаў, дзе з вясны 1929 г. мяркуецца закультываваць ня менш як 1000 гэкт. Павярхоўным культываваньнем сенажацяў мяркуецца ахапіць да 1933 г. да 70% агульнай плошчы сенажаці раёну. Уцяпленьне хлявоў сялянскіх гаспадарак мяркуецца правесьці поўнасьцю к канцу пяцігодкі, а ў колектыўных гаспадарках да зімы 1929 году.

Значную ўвагу ў пляне далейшага разьвіцьця сельскай гаспадаркі займае пашырэньне торпараспрацовак і агнятрывалага будаўніцтва паколькі раён бязьлесны. Практычна намечана організаваць за пяцігодку 5 новых агнятрывалых таварыстваў і павялічыць вытворчую працу існуючых на 300%. Па торпараспрацоўках мяркуецца забясьпечыць поўнасьцю ўстаноўлены парадак пераводу на тарпяны апал насельніцтва ў працягу ўсяго часу.

У парадку пашырэньня досьледнасьці ў вядзеньні сельскай гаспадаркі і ўцягненьня ў гэтую справу самога сялянства да 1933 г. мае быць даведзена колькасьць сялян - дасьледчыкаў ня менш чым да 5 чал. на кожны сельсавет.

Такія ў агульных рысах мерапрыемствы, намечаныя райвыканкомам на бліжэйшыя 5 гадоў па падняцьці сельскай гаспадаркі.

### Агульныя вывады.

Сельская гаспадарка раёну, якая перажыла разбурэньне у гады імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, а таксама ў часы окупацый, перайшоўшы на шлях мірнага будаўніцтва, няўхільна падымаецца, што відаць з прыведзеных лічбаў росту пасяўной плошчы па ўсіх культурах, росту жывёлагадоўлі і наогул валавой продукцыі гаспадаркі. Аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі таксама сьведчаць і лічбы скарачэньня бясконных, бескароўных і безінвэнтарных гаспадарак. Гэтаму росту спрыяюць усе мерапрыемствы Партыі і Ураду, накіраваныя на падняцьце маламоцных гаспадарак. У сваім росьце сельская гаспадарка ўрастаецца ў соцыялістычны сэктар усяе гаспадаркі па лініі росту коопэраваньня па ўсіх відах коопэрацыі. Падатковыя і крэдытная політыка накіраваны непасрэдна на падняцьце бядняцкіх і слабых серадняцкіх гаспадарак, зьяўляючыся адным з экономічных рычагоў для ўздыму адсталых гаспадарак. Лічбы забесьпячэньня вёскі інвэнтаром і павялічэньне інвэнтару за апошнія гады, а таксама надзвычайна павялічаны попыт на машыны з боку сялянства, яскрава сьведчыць аб уздыме вёскі і яе вытворчых сіл, прычым вельмі каштоўным у гэтай справе зьяўляецца большае ўжываньне ў аграмаджаных гаспадарках буйных машын і пашырэньне колектыўных форм выкарыстаньня машыны.

Адзначаючы агульны рост валавой продукцыі сельскай гаспадаркі раёну, мы заўважаем некаторае адставаньне тэмпу разьвіцьця зернавых культур і асабліва таварнасьці зернапродуктаў, заўважаецца моцнае павялічэньне нутранога спажываньня зярна як на кармленьне насельніцтва, так і жывёлы.

Жывёлагадоўля ўзросла за даваенны ўзровень, а па гадоўлі сьвіней і авец значна перарасла ўзровень 1915 г.; гэта сьведчыць аб тым, што інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі раёну ідзе за кошт росту дробнай жывёлагадоўлі, што зразумела, калі мець на ўвазе аграрную перанаселенасьць раёну.

Значная праца праароблена па зямлябудаўніцтву, зьнішчэньню капіталістычных форм зямлякарыстаньня, хаця сталыпінская сыстэма мае ўплыу на заможныя вярхі вёскі, якія напіраюць на расьсяленьне на хутары.

У справе зямлябудаўніцтва яшчэ ёсьць надзвычайна многа работы, ёсьць значная колькасьць вялікіх вёсак з заблытаным зямлякарыстаньнем, якія перашкаджаюць уздыму ўраджайнасьці і правядзеньню колектывізацыі вёскі.

Прыведзеныя лічбы росту ўраджайнасьці трох тыпаў гаспадарак яскрава нам гавораць аб тым, што толькі з пераводам сельскай гаспадаркі ад дробнай да буйнай вытворчасьці, ад індывідуальных да аграмаджаных буйных гаспадарак магчыма падняць яе прыбытковасьць з значна большым тэмпам і палепшыць дабрабыт працоўнага сялянства.

„Мы знаем, што толькі на аснове рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, гэта значыць на аснове пераходу сельскае гаспадаркі да высокай тэхнікі і колектывізму, магчымы каранныя зьмены ў тэмпе разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Дзеля гэтага ўсе нашы мерапрыемствы па ўздыме сялянскай гаспадаркі ў сучасны момант павінны быць цясьнейшым вобразом увязаны з задачамі рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, з задачамі пераходу сельскай гаспадаркі да буйнай вытворчасьці“ (Молатаў).

Усе прыведзеныя лічбы аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі раёну поўнасьцю сьцьвярджаюць гэтую думку.

Аграмаджаныя гаспадаркі нашай вёскі ў сучасны момант яшчэ ня маюць значнай удзельнай вагі ў агульнай гаспадарцы. Плошча зямель пад савгасамі і колгасамі складае 1,3% да ўсяе плошчы зямлі, але да сучаснага моманту мы дабіліся таго, што аб колектывізьме актыўна загаварыла вёска, прычым розныя соцыяльныя праслойкі вёскі парознаму аб гэтым гавораць, пачынаючы ад клевяты з боку кулацтва і канчаючы самым бескарысным дзелавым абмеркаваньнем пытаньня з боку бядняцка-сэрадняцкага сялянства. Экскурсіі сялян у колгасы па іх уласнай ініцыятыве сьведчаць аб вялікай зацікаўленасьці гэтаю формай зямлякарыстаньня. Зразумела, што яшчэ няма належнай рашучасьці ў селяніна парваць з індывідуальнаю ўласнасьцю і перайсьці на колектыўныя формы жыцьця; ён чакае, каб угледзець прыклад і пераканацца ў перавяжнасьці колектыву над яго дробнаю гаспадаркаю.

Наогул-жа мы бачым, як на нашых вачох старая вёска з яе гаспадарчымі і бытавымі ўкладамі трашчыць, нашы колгасы, гэтыя маладыя расткі ў сельскай гаспадарцы, маюць добрую глебу для свайго разьвіцьця, гэтую глебу падрыхтавала ўся сыстэма капіталізму, панаваўшая да гэтага часу. Лёзунг Комуністычнай Партыі „Вёска наперад да буйнай колектыўнай гаспадаркі“, зьяўляючыся надзвычайна своячасовым, ёсьць аснова ўсяе працы на вёсцы.

---

**Матар'ялы, якімі карыстаўся:**


1. Молатаў — Даклад аб працы на вёсцы.
2. Пастановы XV зьезду Ўсе КП(б) па дакладу т. Молатава.
3. Статыстычны даведнік на 1928-29 год.
4. Перапіс ската па б. Менскай губэрні за 1915 г., перавыданы ЦСУ.
5. Статыстычныя весткі раённай статыстыкі і справаздачныя матар'ялы Слуцкага райвыканкому.

Студэнт-мэдык
Ант. Хвед. Жаўрыд.

# Лекавыя сродкі народнай мэдыцыны.

*У Чавускім раёне (Магілеўскай акр.), Грэскім р. (Менскай акр.) і Мілаславіцкім р. (былая Калінінская акр.).*

Народная мэдыцына ў нас на Беларусі пакуль-што яшчэ грае немалую ролю ў справе лячэньня ня толькі па самых глухіх кутках, але і ў мястэчках і нават сярод некаторай часткі насельніцтва па гарадох.

„Лекары-знахары“, у чыіх руках галоўным чынам знаходзіцца народная мэдыцына, шмат людзей адпраўляюць без пары ў магілу і робяць шмат калецтва.

Народная мэдыцына ўжывае два спосабы лячэньня: расьліны і „шэпты“. У лячэньні хвароб расьлінамі ёсьць шмат цікавага для вывучэньня.

Я зьмяшчаю ніжэй тыя расьліны і наогул сродкі лячэньня ад некаторых хвароб, якія ўжываюцца ў вёсках вышэйпамянёных раёнаў, дзе я працаваў будучы ўжо студэнтам у часы летніх вакацый і меў магчымасьць з імі азнаёміцца.

*З Сям. Compositae — склад. кветных, ужываюцца наступныя:*

⊕ Tanacetum vulgare W.

Дзікая рабіна, піжма. Вараць усю расьліну ў духу з вадою і адвар даюць піць ад глістоў, а таксама пры нядобрых адчуваньнях з боку сэрца.

⊕ Herba Absinthii (ад Artemesia Absinthium W.).

Палын. Сушанае лісьцё настойваюць на сьпірытусе і настойку п'юць пры моцных болях у жываце.

+ Marticaria chamomilla W.

Рамонак. Ужываецца навара ад прастуды.

+ Senecio vulgaris W. (?).

Агрэст звычайны. Сок сьвежай расьліны, у часе яго цьвіценьня, ужываецца ад бародавак. Пры гэтым, перш чым памазаць бародаўку, трэба яе крыху зрэзаць і выціснуць з яе лімфу.

*З сям. Cruciferia—крыжакветных:*

+ Kaphanus sativus W.

Агародная рэдзька. Яна ўжываецца ад мігрэні (Hemicrania) і наогул ад вялікай болі ў галаве. Рэдзьку труць на тарцы і потым прыкладаюць яе да галавы (звычайна—да ілба).

⊕ Расьліны, азначаныя зоркаю, узяты са слоў вядомай у сваёй ваколіцы „лекара-знахаркі“ Садоўнікавай Парaскі па мянушцы „Пётэха“, якая жыве на х. Ваініл, Самулкаўскага с.-с., Чавускага раёну.

+. Расьліны і лекавыя сродкі, адзначаныя крыжыкам, адносяцца да Грэскага раёну Менскай акругі, а неадзначаныя—да Мілаславіцкага раёну, былой Калінінскай акругі.

⊕ Capsella Bursa pastoris Much.

Пастухова торбачка, ці расходнік (народная назва). Ужываецца ад сэрца. П'юць адвар.

+ Cochllaria Armoracia W.

Хрэн. Яго труць і прымаюць per os (ядуць) ад перапою гарэлкі

Brassica oleracea W.

Капуста качанная. Яе лісьцё, сьвежае, ужываецца пры моцных болях галавы. Лісьцё прыкладаюць да галавы.

*З сям. Wiliaceae—лілейных:*

Allium Sativum W.

Часнок. Ужываецца ад глістоў. Яго ядуць разам з селядцом.

+ Allium Cepa W.

Цыбуля. Бяруць пласток ад галоўкі цыбулі, пякуць яго на агні і прыкладаюць да балячак.

⊕ Acorus Calamus W. (сям. Araceae — аройнікавых).

Аер сушаць, потым настайваюць на сьпірытусе альбо гарэлцы ці нават на вадзе і настойку п'юць пры болях у жываце. Корань яго ўжываецца ад залатухі.

Folia Alnus glutinos'a. (сям. Betulaceae — бярозавых).

Лісьцё чорнай вольхі прыкладаюць да балячак (скул).

⊕ Tuber Betula (сям. Betulaceae).

Бярозывая шышкі, якія толькі што пачынаюць цьвісьці, настойваюць на гарэлцы і настойкай залiваюць раны.

⊕ Veronica chamaedrys W. (сям. Scrofulariaceae — нарычнікавых).

Дуброўка. Корань заварваецца і п'юць пры болях у жываце.

+ Wycoperdon (сям. gasteromycetes — нутравікі).

Порхаўка. Сухім пылам (спаравы пыл), які атрымліваецца на паверсе порхаўкі, калі яна сасьпее, засыпаюць раны, асабліва сьвежыя.

⊕ Erythraea Centaurium Pers. (сям. Gentianaceae — гарачаўкавых).

Цантаўра, альбо ацантаўра, як некаторыя вымаўляюць. Ужываецца ў якасьці настойкі на гарэлцы ад сухот і жаўтухі.

⊕ Radix Rumex. (сям. Polygonaceae — грэчкавых).

Корань конскага шчаўлюка ўжываецца ад каросты. Корань таўкуць (сыры) з сьвіным салам (Adeps suillus) і гэтаю мазьзю мажуць цела.

⊕ Pelytrichum Commune W. (сям. Polytrichàceae—палітрыхавых).

Зязюлькін лён, ці панароднаму „Божая Раса“. Ужываецца ў людзей пры затрыманьні мачы (anuria) і пры мачаспусканьні крывёю ў кароў. П'юць адвар расьліны.

⊕ Hyoscyanus niger W. (сям. Solanaceae—паслянавых). Беляна чорная ці труп'ян (назва народная). Ужываецца для ап'яненьня. П‘юць адвар.

+ Flor. Tilia (сям. Tiliaceae — ліпавых).

Ліпавы цьвет ужываецца як гарбата ад запаленьня лёгкіх і наогул ад прастуды.

Mentha piperita W. (сям. Wabiatae — губакветных).

Мята. Лісьцё (сырое) прыкладаюць да скулы, якое спрыяе скарэйшаму загойваньню.

+ Viburnum opulus W. (сям. Caprifoliaceae — жымаласных).

Каліна звычайная. Яе ягады, якія пасьпяваюць к восені, ужываюцца ад чаду. Ягады затыкаюць у вушы.

+ Radix Veratr. albi (Veratrum album W. сям. Wiliaceae— лілейных).

Корань чамярыцы заварваюць і гэтай заварай лечацца ад каросты (мажуць цела).

Semina Quercus tostae.

Жалуды. Яны ўжываюцца ад вольнасьці, асабліва ў дзяцей. Жалуды паджарваюць, потым іх мелюць ці таўкуць і настайваюць на вадзе (2-3 стал. лыжкі на шклянку вады).

+ Sedum acre W. (сям. Crassulaceae — тоўсьцянковых).

Ачыток востры. Сок сьвежай расьліны ўжываецца ад загару (color brunneus cutis) і рабаценьня; ім мыюцца.

+ Vaccinium. Myrtillus W. (сям. Vacciniaceae — брусьнічных).

Чарніцы. Сухія ягады чарніц ужываюцца ад вольнасьці; некаторыя іх вараць, а большасьць проста ўжывае сухія ягады.

Viola Tricolor W. (сям. Violaceae — фіалкавых).

Анюціны вочкі. П'юць адвар ад залатухі.

⊕ Radix Valerianae (Valerianae officinalis W; сям. Valerianaceae).

Валяр‘янавы корань настайваюць на сьпірытусе і настойку п‘юць хворыя на нэрвы, а таксама ад парушэньня.

Potentilla argentea W. (сям. Rosaceae—ружакветных). Лапчатка сярэбраная. Адвар ужываецца ад залатухі.

+ Semen Wini — лёнавае семя; яго таўкуць, потым параць і прыкладаюць да пухліны, каб яна скарэй нарвала і каб менш балел а.

┼ Spiritus frumenti Tilia — ліпавая гарэлка, якою заліваюць розныя раны. Яна робіцца так: бяруць ліпавае дрэва (вецьце) і вараць яго ў духу ў печы ў накрытым чыгуне, з прырobленай да яго трубачкай, гэта значыць, пераганяюць вадкасьць, якая маецца ў ліпавым дрэве. Гэты перагон і ёсьць ліпавая гарэлка.

Pix liqyida — чысты дёгаць, разам з cuprum Sulfuricum — сінім каменем і Nicatiana rustica (сям. Solanàceae) — цюцюнём — гэтая мешаніна заварваецца і ўжываецца ад кароcты. Вынікі добрыя. (А. Ж).

┼ „Тарпатын“ (назва народная). Яна гатуецца з смалы (Pix Stirax), сьвінога сала (Adeps Suillus) і воску (cera) — усё гэта разам варыцца. „Тарпатын“ прыкладаюць да скулы, якая ад яго скарэй прарываецца.

Urtica Urens W. (сям. Urticaceae — крапіўных).

Крапіва жгучая альбо малая. У народзе яе завуць „Жвучка“. Ужываецца ад рэматусу (Rheumatismus articularis acuta, sub'acuta et chronica). Вараць цэлую расьліну з вадою ў духу ў печы і потым робяць ванны.

⊕ Trifolium repens W. (сям. Papilionaceae — матылёвых).

Белая канюшына ці дзяцельнік (назва народная). Гатуецца адвар ад шышак і яго п'юць пры скрыпеньні ў суставах (Rheumatismus artischronica?).

┼ Асобая мешчаніна, якая гатуецца з мёду (Mel), ліпавага цьвету (Flor. Tilia┼Ag. font.) і гарэлкі (Sp. frumenti).

Гэтая мешаніна ўжываецца ад прастуднага кашлю (Bronchopneumonia), асабліва ў дзяцей.

┼. Wac — малако-сырадой; ужываецца ад кароcты ў дзяцей, ім мажуць цела.

⊕ Ol. terebinthinae — скіпідар.

Ужываецца пры дыхавіцы (задышцы), якая мае сувязь з вялікім харкавіньнем (Bronchilis chronica et Emphisema). Пачынаюць піць ад 3 кропель і даходзяць да 15—20 кропель, 3 разы на дзень — на вадзе.

┼ Tela araneae — павуціньне.

Павуціньнем закладаюць сьвежыя раны, каб яны не загніваліся.

┼ Fel. suillus — сьвіная жоўць; яна ўжываецца для заліваньня розных ран.

„Чарваточына“ (назва народная) — зямля, якую натачылі чэрві; яна ўжываецца дзеля прысыпкі сьвежых параненьняў.

Petroleum — гàза; ёю заліваюць розныя раны.

Cinis s. spodos — попел (зала); ім засыпаюць сьвежыя раны.

Urina — мача. Пры толькі што зробленым раненьні чалавек сваёю ўласнай мачой залівае рану.

Sopo vulgaris — мыла звычайнае. Пры гнаеньні вачэй запускаюць, мыючыся, мыла ў вочы, „каб яно параел, і вочы больш не гнаіліся“.

Рожу (Erysipelis) лечаць прысыпкай жытняй мукі з сырога жыта і да гэтага яшчэ сякуць над ёю крэсівом аб крамень, мяркуючы так, каб на балючае мейсца ляцелі іскры.

+ Барсукова сала. Яно ўжываецца ад рэматусу (Rheumatismus artic. acuta et sub'acuta), якім націраюць суставы. Яно вельмі дорага цэніцца сярод сялянства і лічыцца самым лепшым лякарствам ад рэматусу.

Пад канец я хачу апісаць адну процэдуру, якая ўжываецца пры лячэньні ад пярэпалаху ў Грэскім раёне.

Бяруць попел і прасейваюць яго праз рэшата; разбаўляюць вадою і мыюць ім жывот, рукі, твар і г. д. Потым працэджваюць праз анучку і скатываюць тры галачкі. Пасьля гэтага іх разломліваюць і глядзяць, ці ёсьць у іх валасы. Калі ёсьць, дык гэта значыць, што жывот баліць ад пярэпалаху. Гэтым і заканчываецца ўсё лячэньне пярэпалаху. Некаторыя да гэтага яшчэ дадаюць шэпты.

---

**Проф. П. Салаўёў.**

# Атрутная мошка.

У канцы траўня і пачатку чэрвеня 1929 г. у Горках у вялікай колькасьці зьявілася невялікая, даўжынёю 3 мілімэтры, мошка, якая вельмі мучыла людзей і жывёлу. Студэнты Акадэмі, праводзячы цэлыя дні на практычных занятках і экскурсіях у полі, вельмі пакутавалі ад гэтай кусьлівай мошкі. У той час, як камар, кусаючы чалавека, дае ўсё такі ведаць аб сваім набліжэньні асаблівым „сьпевам“, дык гэтая мошка ціха падлятае і атакуе чалавека вялікімі масамі, пралазячы ў нос, вушы, пакрываючы твар, рукі і наогул усе адкрытыя часткі цела. Укусы гэтай мошкі пасьля сябе пакідаюць больш прыкметныя і адчувальныя сьляды, чым пасьля ўкусаў камара. Пасьля ўкусаў гэтай мошкі скура моцна пухне, чырванее і баліць.

Аглядзеўшы гэтую невялікую мошку, я пераканаўся, што перад намі асобны невялікі камарок, які належыць да цікавага роду Simulium. Самым звычайным у Эўропе відам гэтага роду ёсьць Simulium ornatum. Але заўважаны ў Горках від, на маю думку, больш падыходзіць да віду Simulium argyreatum. Гэтая мошка мае значнае *гаспадарчае* і *мэдыцынскае* значэньне. Натуральная гісторыя разьвіцьця гэтай мошкі досыць падрабязна разгледжана ў перакладнай кнізе Лямпэрта „Жизнь пресных вод“ (Изд. Девриена 1900 г., стар. 170—173). У гэтым апісаньні мошкі трэба падкрэсьліць адну важную акалічасьць: „Большасьць чарвы двухкрыльлёвых, якая жыве ў вадзе, звычайна знаходзіцца ў стаячай вадзе, але чарву Simulia мы заўсёды павінны шукаць у *бягучай вадзе*“. З гэтай-жа кнігі можна ўзяць найбольш яскравы прыклад таго гаспадарчага значэньня, якое мае гэтая мошка. Лямпэрт піша: „Калі з аднэй толькі справаздачы Тэмэшвары за 1880 г., ня кажучы аб іншых справаздачах, мы даведваемся, што ў Кубіна на працягу толькі 4-х гадзін загінула ад укусаў колумбацкага маскіта 400 сьвіньей, 80 коняй і 40 галоў быдла, дык зусім ясна можна бачыць у гэтым усе адзнакі стыхійнай навалы“.

Што датычыцца мэдыцынскага значэньня мошкі, дык аб гэтым можна знайсьці матар'ял у падручніку Мартыні (Мэдыцынская Энто-

мологія, 1923 г. стар. 181—189). Аўтар кажа: „Укусы мошак спачатку вельмі сьвярбяць, успухаюць. Вынікі ўкусаў — сьлюзавы абцёк лёгкіх, крывацёкі ў сардэчнай цягліцы, мутнае напаўненьне пячонкі і нырак, павялічэньне касы і лімфатычных залозаў. Жывёлы трацяць працаздольнасьць, у кароў прападае малако“.

У якасьці супроцьатруты можна даваць сьпірытус для ўнутранога ўжываньня (тое самае Нікольскі раіць пры ўкусах зьмей), унутрывэнознае ўвядзеньне кофэіну, а такама сардэчныя сродкі (дыгіталіс).

Папярэднія прышчэпкі супроць укусаў да гэтага часу не далі добрых вынікаў. У мэтах аховы змазваюць цела алеістымі і ароматычнымі сродкамі, разводзяць дым і акрываюць твар і рукі сеткай. Ворагамі атрутных мошак зьяўляюцца драпежныя бабкі („коромысло“), драпежныя мухі *ктыры* і некаторыя птушкі, а чарву гэтых мошак у вадзе знішчаюць некаторыя ашыткі (Phrygapea).

Кусаюць, як і ў камароў, саміцы. Мошкі ня любяць ценю і наскрознага руху паветра. Ад вадаёмаў, дзе выведіся мошкі, яны могуць заляцець на 2 км., а самае вялікае іх вандраваньне 10—12 км. Такім чынам, зусім няправільна думка некаторых горацкіх жыхароў, што мошкі ветрам занесены з Сібіры. Праўда, у Сібіры, вельмі шмат кусьлівых двухкрыльлёвых, якія вядомы пад агульнай назвай „гнус“. Калі едзеш па Сібіры, дык нават з вакна вагону бачыш, як на полі працуюць мужчыны і жанчыны, узброеныя сеткамі супроць „гнусу“. З тае прычыны, што мошка, якая ў вялікай колькасьці зьявілася вясною, зьявіцца яшчэ і ўвосень, калі надвор'е будзе спагадным для яе, а зьявіцца яна ня толькі ў Горках, але і ў іншых мясцох БССР,—краязнаўцам карысна ведаць аб вышэй пералічаных фактах. Я ў канцы прывяду цытату з кнігі проф. Халадкоўскага (Курс энтомолёгии 1912 г. т. II, стар. 396). Ён піша: „Вельмі часта гэтыя мошкі былі прычынай вялікага падзяжу жывёлы. Для ратаваньня ад іх раяць для цела жывёлы ўжываць масьць, складзеную з настою тутунёвага лісьця (1 кгр. на 10 кгр. вады, выпарваць да гушчыні мёду), сала (1/2 кгр.) і газы (8 гр.)“.

Вельмі цікавым зьяўляецца, урэшце, той факт, што ў Арнольда ў яго „Каталоге насекомых Могилевской губ“ (1902 г.) зусім няма вестак аб існаваньні ў нас Simulium

---

**А. Шашалевіч.**

# Па Дзьвіне ў Сураж

*(Краязнаўчыя нататкі).*

13-VI. Роўна а 12 гадзіне параход на Вяліж выходзіць з Віцебску, і мы плывем па Дзьвіне. Шмат народу едзе, а параходзік зусім маленькі, цяжка яму справіцца з яшчэ поўнай вадой і плысьці ўверх па рачной плыні. Да Суражу, кажуць, будзе цягнуць ня меней 9 гадзін, хоць тут усяго ад Віцебску 50 в. Але ня прыходзіцца шкадаваць, што так доўга будзе цягнуцца гэтае рачное вандраваньне. Прыгаство Дзьвіны і ўзгоркаў над ёю прымушае неадрыўна глядзець на зелянеючыя бярозавыя гайкі, цёмна-зялёныя стромкія хвоі і падобныя на кіпарысы высачэзныя елкі. А надвор'е, як у ліпні — цёплае, пахучае. Неба чыстае, сіняе, як келіх бірузовы.

Едуць госьці з Ленінграду—рабочыя, служачыя з сем'ямі, едуць адпачыць у ціхіх вёсках Беларусі. Тут яны маюць сваякоў. Едуць сяляне дамоў пасьля розных клапот у Віцебску і яны трымаюцца асобнай купкай. Паціху гамоняць між сабою. Можна наперад сказаць, аб чым гавораць яны: хлеб, контрактацыя, колектывы, савгасы, комуны. Цяжкі быў год, прымусіў сялян аб новых формах гаспадаркі думаць і ўжо ня чутна прнцыпова-негатыўных адносін да колектывізацыі сельскай гаспадаркі. Крытыкуюць і часам злосна новыя формы яе, але пад агонь пападае людзкая неорганізаванасьць, хцівасьць, несьвядомосьць, гразь, а супроць карэннай перабудовы сялянскай гаспадаркі на коопэрацыйных асновах ніхто ня кажа. Гэта палажэньне заваявала агульнае прызнаньне бядняцка-серадняцкіх мас. З сялянамі спрачаецца агроном і служачы бліжэйшага савгасу. Сяляне прыводзяць факты:

— У нас (у савгасе) работа восем часоў, у суботу ў абед звонюць, шабаш... А ў нядзелю выхаднэй дзень. Сена ляжыць. Панядзелкам дож пашоў, сена й паплуло! Якая гэта правіла?.. Не, зь зямлёю трэба так: сь пеўнямі ўставай, з курам кладзіся! Во як трэба ў нашым жыцьці! Ніхто етага ні перакруціць.

— Перакруцім! Навука ўсё пераробіць на карысьць чалавека! кажа служачы савгасу.

— Мы на ета нічога ні скажам. Правільна. Людзіна нявучоная, як сякера нітачбная! А толькі людзі пад свой бок скарэй цягнуць. У нас паставілі аднаго за начальства, а ён наеў, напіў на 6000 руб., а цяпер у Допрыі сядзіць. А на ўсіх худая гаворка...

— Паршывая авечка, як тэй казаў...

— А куды глядзелі рабочыя? пытае агроном.

— Куды яны глядзелі? Такія рабочыя! Абы міне ні чапалі, а казну ніхай скубець! Латрюгі сыбраліся. Калі ходзіць загаччык, тады яны нешта калупаюць, адышоў ён—сядуць, ды нічога ні робюць.

— Далей так ня будзе! запэўняе служачы савгасу. Цяпер узяліся за гэтых шкоднікаў. Праз год і паху не застанецца ад гэтай шумеці.

— Народ мы такей, біз наглядатая ні звыклі ў рабоці. Калі ня ўзыскуюць, дык гармідар, ні дзела выходзіць. Сабярэцца, скажам, дваццаць дзевак, гагатня, сьміхатня, а дзела і на двох хапіла б... Як куры, пакалыплюць зямлю, а трава бур'ян-бур'янам. Мая жонка зь дзеўкай скарэй за іх справілася б.

— А то пашлюць 10 чалавек расьпіліць поўсажні дроў... Гарнізатараў большы, ік рабочых. На гуце, што ля нас, 80 чалавек сь пер'імі ходзіць, усё запісвыюць, а што йны запісвыюць, каб папытаць.

— Дзе ж лепшы ўраджай, ці ў вас, ці ў саўгасах? пытаю я. Селянін, якога звалі Сумон, кажа:

— Вядома, там раўней паля, зімля больш родзіць. І машыны ўсе ёсь, і гною, як трэба, і яшчэ ўдабрэньня даюць. Чаму ня быць ураджаю?

У комунах, колектывах таксама?

— І там большы зімля даець. Усякую падмогу ім даюць у доўг, а калі йшэ вернуць... Ражжыца можна. Усё табе ў рукі: машыны, адборны сімян, супір-хасхат (апошняе слова, як цяжкае, селянін вымаўляе з нейкай усьмішкай). Яно й выходзіць, хоць і мала работаюць, а ўраджай пабольшы зы наш. Ета трэба ны праўду скызаць.

Цягнецца доўгая размова на гэтыя жыцьцёвыя тэмы. І адзін толькі вывад можна зрабіць: селянін хоць і крытыкуе колектывізацыю, хоць

на словах і не давярае ёй, але гэта ёсьць толькі традыцыя, якая пачынае зжывацца. На практыцы ён сам імкнецца да гэтых новых форм жыцьця.

Пражджаем каля вёскі Хатолі, што на правым беразе Дзьвіны... А на левым, над самай вадой стаіць найпрыгажэйшы вялізны курган, заросшы сасьняком. Побач з ім зусім маленькі. Курган такі вялікі, што міжвольна яго зялёны кумпал зварачвае на сябе ўвагу ўсіх, хто едзе.

— Прас Хатолю збойная дарога йдзе—кажа адзін дзед—тута войны вялікі былі. Косьці людзей тут ліжаць.

— Німа тама касьцей — адказвае нейкі хлопец — у нас разрылі адзін такі, дык гаршчкі з попілам... Падаецца шмат тлумачэньняў пахаджэньня курганаў, шмат легенд, паданьняў. Няпрыкметна разгараецца дыскусія аб рэлігіі. Два стараверы люта спрачаюцца з маладымі хлопцамі. Адзін хлопец патрабуе паказаць яму бога, калі ён ёсьць. Стары выходзіць з роўнавагі: „бог ня слухаець, што сьвіня рюхаець". Хлопец плюе і адыходзіць.

Пад вечар прыяжджаем у Сураж. На беразе ўсе насяленьне прышло сустракаць параход. Кожны грамадзянін мястэчка лічыць сваім абавязкам увечары сустрэць параход, а ў раньні яго праводзіць. Кожнага, хто зьлязае з параходу, суражане пытліва аглядаюць, асабліва, калі прыежджы для іх незнаёмы.

Сураж — досыць буйнае мястэчка, якое маляўніча раскінулася па берагох рр. Дзьвіны, Касьплі і Суражкі. Апошняя летам перасыхае, але ў гэтым годзе яе разьліў шмат клапотаў прынёс — да палавіны заліў хаты і зусім паграбы з бульбай у некаторых жыхароў. З жахам паказваюць на сьляды вясновай павадкі. Цяпер гэтаму і верыць ня хочацца. У Суражы мост праз Касьплю. Да гэтага году быў мост і праз Дзьвіну, але зімою яго разабралі з прычыны яго нягоднасьці. Між іншым, усё насяленьне кажа, што вельмі пасьпяшаліся разбурыць мост: ён яшчэ прастаяў-бы на малае 5 год. Ня думаю, каб гэта была праўда: такая моцная павадка, як у гэтым годзе, пэўне зьнясла-б мост і не ўдалося-б ратаваць каштоўны будаўнічы матар'ял. Цяпержа без маста, як бяз ног. Значная тэрыторыя, эканомічна зьвязаная з Суражам, адрэзана. Парому яшчэ не зрабілі.

Пакінуўшы рэчы, іду бегла аглядаць горад Сураж. Між іншым, у Віцебскім Акруговым Т-ве краязнаўства я прачытаў адносіну Віцебскага АВК, які прапануе Т-ву выказацца аб проекце аднаго грамадзяніна перамяніць назву гэтага гораду на больш сучасную. Т-ва паслала гісторыю гораду з тлумачэньнем самай назвы „Сураж" і падкрэсьліла немэтазгоднасьць перамены назвы. Былі спрэчкі аб сутнасьці самай назвы. Памойму, Сураж (Сурож у стары час)—умацаваны горад (сурог — умацаваньне). На гэтую думку наводзіць і той факт, што на Беларусі ёсьць яшчэ Сураж на р. Іпуці (цяпер Бранская губ.), і ў Заходняй Беларусі і гэтыя гарады ў даўні час адыгрывалі ролю ваенных заставаў.

Прыпамінаецца і песьня, якую можна чуць на Гомельшчыне:

А хто міне маладую,
А хто будзя суража́ць?

Абыходжу горад па ўсіх напрамках. Бачу шмат радыёўстановак. Пачынаю лічыць іх і толькі ў адным канцы гораду, за Касьпляй, налічваю каля 10. Праходжу ў другі канец гораду праз рынычную пло-

шчу, у чаўне пераяжджаю праз Суражку, іду ў поле. Пападаю на цікавае месца, якое знаходзіцца недалёка ад яўрэйскіх могілак і завецца „бандыцкім кладзішчам". Тут пахаваны пакараныя бандыты, якіх шмат было ў Сураскім раёне. Страх і роспач у людзей выклікалі яны. Цяпер ад гэтага жаху засталіся невялікія купкі зямлі. Ніхто сюды не заглядае — дрэнную памяць аб сабе пакінулі бандыты. На гэтым месцы, як відаць, былі старажытныя пахаваньні — ледзьве прыкметныя ўзвышэньні.

На другі дзень у раньні я іду ў вёску Храпыльну. Па праўдзе кажучы, гэта ўжо ня вёска. Яна ўся расьсялілася хутарамі. На Віцебшчыне, асабліва ў Сураскім і Межанскім раёнах ужо няма вялікіх вёсак. Некаторыя яшче ў часе вайны, іншыя ў 1924-25 г. разьбіліся на хутары. І прыходзіцца шкадаваць, што на некаторы час тут будзе затрымана перабудова сельскай гаспадаркі на падставе колектывізацыі. Іду полем. Радасна глядзець на жыта, якое добра абышло. Рунь моцная, зялёная. Усё поле разагнана раўчакамі, каб жыта не адмякала. Сёлета, здаецца, у гэтым і патрэбы вялікай няма. Сьнег не затрымаўся, не заліў палі вадою.

Іду на хутар. Прашу вады. Гаспадыня прапануе бярозавіку, якога ўжо гадоў 10 я не смакаваў. Прагна п'ецца. Заходжу ў хату. Гаспадара няма ў дварэ. Гарачы час — вясновая сяўба, недзе працуе на полі, недалёка ад хаты. Пытаю, як жывецца. Ці ня можна падводу ўзяць.

— Еты год дапёк нам. Гарчышнае жыцё. Ішэш хата ня 'бдзелана, дронам ні дакрыў. У закопах бульба прапала... А тут дробнэя дзеці, калі сыма не даглéдзіш... Некалі, некаму вымесь хаты... А ў падводы не, ні паедзіць ён... Корм дарагей, пусьцім у поля, што ён там ускубець... А вам куды трэба?

— У два канцы. У Мяжу, альбо ў Віцебск.

— Ён сам скора прыдзіць. Яшэ й ня сьнедаў.

Я саджуся на лаву і аглядаюся. У хаце чыста, сьветла. У пярэднім куту два вялікія „лубачныя" абразы і побач з ім з аднаго боку портрэт Леніна, з другога Маркса, за імі ўдоўж сьцен портрэты правадыроў — Сталіна, Рыкава, Калініна і інш. У самым канцы гэтай галярэі, якая, відаць запаўнялася хронолёгічна і цяпер падтрымоўваецца ў належнай чыстаце, ёсьць і нашы беларускія правадыры. Вісяць прыгожыя набожнікі. Праўда, пад іх не папалі Ленін і Маркс. Як відаць, у жанчыны ў думцы ўсё ж была нейкая мяжа. А мо' ў гэтым вінен яе сынок, які вучыўся ў Сураскай 7-цы і кінуў яе, бо плату наклалі, праўда, вельмі малую. Для селяніна часта і гэта—нож у сэрца. Яшчэ адна цікавая этнографічная дэталь, якая сьмешна злучае нейкія старыя перажыткі з новымі зьявамі. Перад абразамі я заўважыў на нітачцы духа сьвятога, які сам сабою (deus ex machina), аутоматычна ўвесь час кружыўся. Гэты сьвяты душок зроблены нібы модэль самалёту: хвост з паперы, крыльлі таксама, дзюба я сам ня ведаю з чаго, а тулава сьплецена з саломы. Такім чынам, была няйстойлівая роўнавага, і галубок увесь час на пацеху дзецям кружыўся. Пад абразамі на століку елачка з насоджанымі на яе галінкі пафарбаванымі вялікоднымі яйкамі. Фарбоўка вельмі рознастайная і можна зрабіць вывад аб вельмі значным ліку прыродных фарб, якія вядомы мясцовым сялянам, і значным разьвіцьці мастацкага густу ў узорах. Зрабіў нататкі аб гэтым.

Прыходзіць гаспадар і хоць адразу-ж адмаўляецца ехаць са мной у падарожжа, мы доўга гаворым з ім. І тут спраўдзілася палажэньне, што цяпер асноўная думка, якая пануе ў думках селяніна, гэта пытаньне аб колектывізацыі. Гаспадар хутару сам пачынае выказваць свае думкі аб новых формах с. гаспадаркі У гэтых думках ёсьць нейкая недагаворанасьць. Селянін рэзюміруе свае словы:

— Я пашоў бэ ў калякціў, каб тама работаць ня тольк зы кавалку хлеба, а каб плацілі, як на зімлядзельнай фабрыкі. Тады б усе кінулі хутары і ў калякцівы падаліся б.

Я пакідаю хутар, прашу выбачэньня за турботы. Селянін кажа.

— Не! Што вы! Сьвежаму чыалавеку і мы рады. Ён праводзіць мяне на шлях. Каля хаты ляжыць новая спрунжыновая барана. Пытаю, ці добра ёю скародзіць. Селянін хваліць яе, кажа, што нічым не падгадзіць старым даваенным баронам, а цана бадай тая самая. Дарожка ад хутара да шляху абсаджана дрэўцамі.

— Топілім абсадзіў, ніхай прыгажэй будзець! А цяпер пайду пад бульбу поля рабіць, біз іе німа як жыць. Хоць цана кусаецца, таварыш. Па два рублі пуд!

Мы разьвіталіся. Адышоўшы трохі, селянін раптам запытаўся:
— А што, таварыш, ці паказваець мэтэоролёгія, якое лета сёліта будзець? Зіма, як пісалі ў газетах, так і была...

Я адказаў, што можна толькі на месяц прыблізна беспамылкова вызначыць надвор'е, на большы тэрмін могуць быць памылкі. Як вырас селянін за гэтыя рэволюцыйныя гады! Яго мова зьмянілася, павялічыўся запас слоў, новымі паняцьцямі аўладаў ён, новыя ідэі ім заўладалі. У гэтым адыграла ролю ня толькі школа, розныя курсы, мітынгі, але ўсё жыцьцё, усе палітычна-грамадзкія ўмовы новага ладу.

У РВК знаёмлюся з матар'яламі, якія маюць выключна краязнаўчы характар і неабходны для працы мясцовай краязнаўчай організацыі. У габінэце сэкратара на сьценах шмат параўнальных дыяграм, якія даюць уяўленьне аб сельскай гаспадарцы раёну. Відаць, што дыяграмы досыць верагодна адбіваюць сапраўдны стан рэчаў. Як і па ўсёй Віцебшчыне, на працягу гэтых год у Сураскім раёне зьмяншаецца жытні клін і павялічваецца засеў бульбы, лёну і канюшыны. З году ў год расьце плошча пасеву — у 1928 годзе пад пасевамі было 26783 га, у 1926 г. 24578 га.

У краязнаўчым стасунку зварачае на сябе ўвагу праца раённага статыстага. Для нашых краязнаўчых організацый у ёй столькі важных момантаў, якія трэба выкарыстаць. На вялікі жаль краязнаўчыя організацыі ня толькі ня цікавяцца зьместам і формай працы раённага статыстага, але ў большасьці і не дамагаюцца ўцягнуць гэтага працаўніка ў кола сваёй краязнаўчай чыннасьці. А між тым гэта скромная фігура ў сваіх руках мае шмат краязнаўчых об'ектаў. Я доўга і падрабязна знаёмлюся з працай раённага статыстага. Асноўны яго абавязак — вясьці вясновыя і асеньнія апытаньні сялян - гаспадароў. Да 10% усіх сялянскіх гаспадарак (а ў раёне іх усяго 7604) трэба апытаць. Апрача таго, што гэтыя апытаньні павінны даць матар'ял для меркаваньня аб спосабах апрацоўкі зямлі, аб наліччы жывога і мёртвага інвэнтара, аб угнаеньні, у самым процэсе такіх абсьледваньняў шмат ёсьць іншых краязнаўчых момантаў, якія не занатоўваюцца і якія надзвычайна карысна было-б ведаць і старанна зьбіраць. Райстатысты шмат дае іншых вестак, як напр. весткі аб цэнах, аб стане

рынку, аб руху заразьлівых хвароб і г. д. Прыкладам сказаць, сураскі райстатысты ведае раён, як свае пяць пальцаў, між тым яго веды ніхто ня думае скарыстаць у краязнаўчым стасунку. Ня кажучы ўжо аб тым, што з яго дапамогаю можна скласьці карту прамысловасьці раёну, ад яго можна нават сабраць весткі аб турыстычных об'ектах раёну, аб месцазнаходжаньні некаторых карысных выкапняў (торф у Касьплянскай дачы ў урочышчы „Вал", дзе глыбіня яго заляганьня даходзіць да $2^1/_2$ сажн.). Найбольш прыгожыя месцы ў Сураскім раёне па яго думцы: 1) б. маёнтак Брыгітполь у 2 кл. ад Суражу, 2) урочышча Склютоўскі лес каля в. Дубраўкі Марчонскага с.-с. 3) в. Лагі Ботаніцкага сс., якая ляжыць між гор і некаторымі па сваёй прыгожасьці завецца „Другім Каўказам".

Мясцовая краязнаўчая організацыя ўжо некалькі месяцаў не працуе. Між тым раней організацыя была досыць моцнай, заснавала краязнаўчы гурток пры школе 7-цы, мела некаторыя сродкі і фотографічны апарат (і цяпер ёсьць). Вынікам працы краязнаўчага гуртка ёсьць музэйчык пры 7-цы. Канешне, у ім у першую чаргу розныя карты раёну, колекцыі ўзораў, набоек. Самае цікавае — гэта матар'ялы па гісторыі бандытызму ў Сураскім раёне: фотографічны здымак усяго бандыцкага батальёну (фотограф, які рабіў здымак, быў растрэлены), фотографія бандыцкага атамана Ардэна, докумэнты аб зьверствах і г. д. З археолёгічных рэчаў вельмі цікавы ёсьць камённы нож (7 в.), знойдзены ў размыве берагу Дзьвіны пасьля павадкі на „замчышчы" (цяпер тэрыторыя дрэваапрацовачнага заводу). На відным месцы вісіць у музэі дыплём, які выдаў РВК краязнаўчаму гуртку за наладжваньне краязнаўчага аддзелу на сельска-гаспадарчай выстаўцы. У музэйчыку шмат фольклёрных матар'ялаў і „Тарас на Парнасе", запісаны ад селяніна, якому 65 год. Але самае цікавае, што ёсьць у музэйчыку — гэта каля 60 апісаньняў розных вёсак раёну. На жаль, апісаньні не рабіліся па пляну, прынятаму для складаньня географічнага слоўніка раёну. Тым ня менш, сучасны стан апісаных вёсак досыць яскрава выпукляецца. Часта падаюцца такія весткі, якія іншым шляхам ніхто ня зможа сабраць. Часта падаецца крупулёзная статыстыка невялікіх вёсак. Пры некаторых апісаньнях прыкладзены вельмі добрыя пляны сяліб і нават вёсак, даецца кароткая гісторыя вёскі са слоў старых жыхароў і г. д. Апісаньні падкрэсьліваюць рэзкі пералом, які адбыўся ў вёсцы пасьля рэволюцыі. Аўтар апісаньня в. Царковішча піша: „Шляхам газэт нашы сяляне паляпшаюць сваю гаспадарку. Гавораць у нас на роднай мове. З 31 чалавека гутарыць толькі адзін настаўнік на расійскай мове. Ён улетку жыве ў Царковішчы, а ўзімку навучае дзяцей на Велікарусі". Аўтар другога апісаньня в. Харытонаўшчыны больш увагі аддае рэгістрацыі адмоўных бакоў у жыцьці вёскі. „Усюды гразь, няхольнасьць". Апрача вёсак апісаны некаторыя прадпрыемствы і фабрычны пасёлак Пудаць. Гэтыя апісаньні вёсак добра сьведчаць, што мы часта недаацэньваем вучнёўскіх краязнаўчых прац. Пры належным плянавым кіраўніцтве краязнаўчага актыву настаўнікаў, ад вучняў можна мець надзвычайна цікавыя краязнаўчыя працы. Працягнуўшы гэтую працу на апісаньні вёсак, пракорэктаваўшы яе згодна існуючых програм і інструкцый, праз некаторы час можна мець матар'ялы для географічнага слоўніка Сураскага раёну.

Мы наладжваем сход сураскіх краязнаўцаў, абіраем старшыню праўленьня і сакратара, абгаворваем плян мінімальнай краязнаўчай працы на гэты час.

На другі дзень а 6 гадзіне раніцою я вышаў на бераг Дзьвіны чакаць параходу ў Віцебск. На берагу ўжо былі людзі. Параход спазьніўся і ад нечага рабіць прыслухоўваюся да размоу. Спачатку гавораць аб нейкіх таварах. Адна жанчына кажа:

— 8 руб. за ету гніль аддыла, як ў агонь упѐрла. Другая дае тлумачэньне:

— На вырабыт дзелыюць, ні на дыбрату нылігаюць, а каб большы... Чулкі два разы надзеніш — разьлезьліся, шкло ны лямпі адзін дзень гаріц, місарубку купіла — два разы крутнула — усе вінты паслаблі.

Потым абмяркоўваюць мясцовы судзебны працэс аб жанчыне, якая падрабіла талён і ня меньш 10 раз атрымала ў коопэратывах па гэтаму талёну тавар. Жанчына абураецца:

— Пічатку падзьдзелыла, толькі дзьве буквачкі ні сходзюцца. Набрала ўсюдых, дзе казёныя лаўкі. У адным на 15 рублей пазабірала. Я гляджу — ходзіць вясёлая, адзяецца, як панская. А ёй год толькі далі.

— Чорт яго дагледзіць, народу цяперка як людзей.

— Анёж! (а канешне). Пасядзіць, прыдзець і зноўа красьці!

Міліцыянэры вязуць нейкіх арыштаваных у Віцебск. З іх адна жанчына, якая хацела лёгкай пажывы: узяла ў арэнду млын, не заплаціла ў тэрмін рабочым і цяпер яе з грудным дзіцём вязуць у Папраўчы дом. Яна — звычайная сялянка па вопратцы, відаць нехта падбіў яе ўзяць у арэнду гэты злашчасны млын. Ды яшчэ ўсю худобу апісалі. Вязуць яшчэ нейкага чалавека з таварам кваліфікаванага злачынцы. Ён пачынае некаму апавядаць аб несправядлівым прысудзе. Міліцыянэр папярэджвае:

— Замаўчы! Арыштаваны павінен быць мёртвае цела.

На беразе сустракаю сакратара мясцкому працасьветы, якая едзе ў Віцебск на нараду. Яна мне паказвае маляўнічую групу сялянак, якія прышлі здалёку, з нейкага самага глухога кутка раёну і ніяк ня могуць прызвычаіцца да параходных гудкоў. Учора забаўны эпізод быў з бабамі. Ні разу ня бачылі параходу, прышлі сустракаць яго на бераг. Самі потым казалі:

— Як заравець, заравець, а мы ’б зѐмлю усе. Такого рэву ў жыці ня чулі.

Завёў потым нехта гэтых баб у кіно. Таксама дзівіліся:

— Бягуць, бягуть коні, людзі на нас, во во набягуць на нас. Мы аж жыхануліся ў бок.

Прыходзіць параход. Дае тры моцных прывальных гудкі. Я ўсю ўвагу аддаю бабам, якія палахліва глядзелі на машыну і пры кожным гудку, як аўтоматы, падаваліся назад, чапляючыся адна за адну і сьмяючыся з свае палахлівасьці.

Мы селі на параход, а на беразе бабы яшчэ доўга стаялі і моўчкі глядзелі на страшыдлу - параход.

Адыходзячы на Віцебск, параход нечакана для баб загудзеў што ёсьць моцы. Зноў палахлівыя ўскрыкі і сьмех на параходзе.

Г. Лагун.

# „Мікольскі“ кірмаш у Рагачэве.

Вялікае значэньне мае вывучэньне кірмашоў, як аднэй з форм экономічных суадносін паміж горадам і вёскай. Матар'ялы нават невялічкіх кірмашоў даюць шмат цікавага для вывучэньня краю.

Такую мэту ставіла сабе студэнцтва Рагачэўскага тэхнікуму пры абсьледваньні „Мікольскага“ кірмашу г. Рагачэву, які адбыўся 19/XII-28 г.

Вывучэньне кірмашу разьбівалася на тры галоўнейшых часткі: 1) вывучыць, што дае вёска горадy, 2) што вёсцы дае горад і 3) рух базару.

Адпаведна гэтаму студэнты 4-га курсу, якія праводзілі абсьледваньне, былі падзелены на 3 групы. Кожная група высьвятляла адзін з гэтых момантаў. Адна—працавала выключна на базары, рэгіструючы прывезеныя з вёсак тавары. Вывучыць, што дае горад вёсцы, было магчыма шляхам падлічэньня тавараў, прададзеных сялянам коопэратывамі і дзяржаўнымі гандлёвымі ўстановамі. У гэтым шчырую дапамогу аказалі самі ўстановы, вядучы на гэты дзень прадметны запіс тавараў, купленых сялянамі. Студэнтам засталося, узяўшы зьвесткі, падлічыць і клясыфікаваць іх. Вывучэньне руху базару вялося шляхам дзяжурстваў у пікетах. Аб гэтым я буду казаць ніжэй.

Ведаць аб тым, што дае вёска гораду, можна з двух крыніц: а) улічваючы продукты, якія прадаваліся сялянамі на базары, і в) па загатоўках, праведзеных дзярж. гандлем. Вядома, што гэтыя крыніцы не даюць дасканалых лічбаў. Тут ня ўлічваюцца тавары, праданыя прыватнікам па-за межамі базару. Падлік праводзіўся шляхам запісу прывезеных тавараў. Пры гэтым аддзельныя віды тавараў, у мэтах больш дасканалага вывучэньня, на працягу дню запісваліся ў адну сетку. Гэта не выключае недасканаласьцяй, асабліва з боку колькаснага падліку, паколькі ён праводзіўся са слоў гаспадароў.

Усе прывезеныя тавары можна падзяліць на: 1) продукты сель. гаспадаркі і 2) вырабы саматужнікаў.

### I. Сель./гасп. продукты.

#### а) Паляводзтва і лугаводзтва.

| | |
|---|---|
| Сена 21 воз. . . . | цана ад 1 р.—80 к. за пуд |
| Салома 120 кулёў . . | „ „ 20 к.—15 к. куль |
| Мука 126 п. 15 ф. . . | „ „ 3 р.—2 р. 25 к. за пуд. |
| Жыта 3 п. 20 ф. . . | „ „ 2 р. 70 к. за пуд. |
| Авёс 30 пуд. . . | „ „ 3 р. 10 к.—2 р. 60 к. за пуд. |
| Ячмень 2 пуд. . . | „ „ 2 р. за пуд. |
| Семя ільняное 1 п. 20 ф. | „ „ 3 р. за пуд. |
| Каноплі 4 п. . . . | „ „ 4 р. за пуд. |
| Цыбуля 3 п. . . . | „ „ 2 р.—1 р. 50 к. за пуд. |
| Кужаль 42 п. 33 ф. . | „ „ 10 р.—12 р. за пуд. |
| Пянька 1 воз . . | „ „ 8 р. за пуд. |

в) Жывёлаводзтва:

| | | |
|---|---|---|
| Коняй 120 шт. | . . | цана ад 250 р.—12 р. |
| Кароў 2 „ | . . | „ „ 60 р.—15 р. |
| Сьвіней 4 шт. | . . | „ „ 25 р.—8 р. |
| Авец 5 шт. . | . . | „ „ 9 р. |
| Гусей 29 шт. | . . | „ „ 2 р. 80 к.—2 р. 50 к. |
| Курэй 47 шт. | . . | „ „ 1 р. 10 к.—60 к. за штуку. |
| Качак 11 „ | . . | „ „ 1 р. 40 к. за штуку. |
| Сала 21 пуд. 20 ф. | . | „ „ 22 р. за пуд. |
| Мяса 4 п. 20 ф. | . . | „ „ 8 р. за пуд. |
| Масла 14 ф. . | . . | „ „ 1 р. 15 к. за фунт. |
| Яек 225 шт. . | . . | „ „ 6-7 к. за штуку. |
| Сьмятаны 10 кв. | . . | „ „ 25 к. за кварту. |
| Малака 9 кв. | . . | цана па 13 к. за кварту. |
| Кабаноў (бітых) 6 шт. | . | „ „ 15 р. за пуд. |
| Аўчын 10 шт. | . . | „ „ 2-3 р. за шт. |
| Воўны 30,5 ф. | . . | „ „ 1 р. 50 к. за фунт. |

с/. Іншыя продукты:

| | | |
|---|---|---|
| Мёд 3 вядры | . . | цана па 45 к. за фунт. |
| Грыбы 19 ф. | . . | „ „ 40 к. за фунт. |
| Лыкі 10 вазоў | . . | „ „ 1 р. 20 к.—85 к. за пук. |
| Ніткі 3,5 ф. | . . | „ „ 2 руб. за фунт |
| Палатно 12 арш. | . . | „ „ 48 к. за арш. |
| Пушніна 1 скурка | . | „ „ 2 р. 50 к. |
| Кажухі 5 шт. | . . | „ „ 50 р.—11 р. за шт. |

## II. Вырабы саматужнікаў.

а) Жалезныя:

| | | |
|---|---|---|
| Тапары 11 шт. | . . | цана „ 1 р. 50 к. за шт. |
| Стругі 2 шт. | . . | „ „ 1 р. 25 к. за шт. |
| Долата 6 „ | . . | „ „ 50 к. за шт. |
| Нажы 8 шт. | . . | „ „ 30 к. за шт. |
| Сьвёрдлы 30 шт. | . . | „ „ 1 р. 50 к.—30 к. за шт. |

в) Іншыя вырабы.

| | | |
|---|---|---|
| Хамуты 1 шт. | . . | цана па 8 р. |
| Калёсы 1 „ | . . | „ „ 75 р. |

Драўляныя вырабы 314 шт.
Ганчарных вырабаў 450 шт. на агульную суму 120 руб.

Усяго прывезена тавараў на базар на суму 10826 руб. З гэтага ліку большасьць прыпадае на жывёлу: коняй, кароў ды інш. Што датычыцца вырабаў саматужнікаў, дык сума іх складае 8,07% у агульным прывозе. Гэта падкрэсьлівае, што саматужніцтва ў Рагачэўскім раёне разьвіта слаба. Больш пашырана дрэваапрацоўчая галіна. Гэта сьведчыць аб значэньні лесу на Беларусі.

Загатоўкі тавараў праводзіліся крэдытным т-вам, канторай Бел. Дзяржгандлю і загатоўчымі пунктамі г. Рагачэву.

Агульная сума загатовак 837 руб.:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Льну і пянькі | на 514 р. 50 к. | Шчаціны | на | 36 р. 75 к. |
| Крухмалу | „ 115 „ 50 „ | Пушніны | „ | 30 „ 11 „ |
| Скур | „ 66 „ 41 „ | Грыбоў | „ | 16 „ 95 „ |
| Збожжа і насеньне | „ 63 „ 34 „ | Воску | „ | 16 „ 85 „ |
| | | Інш. продуктаў | „ | 23 „ 03 „ |

Для высьвятленьня пытаньня аб тым, што горад дае вёсцы, улічваліся толькі тыя продукты, якія прадаваліся ў дзяржаўных і коопэрацыйных крамах. Падліку тавараў, прададзеных прыватнікамі, ня было, з прычыны об'ектыўнай немажлівасьці наладзіць гэты падлік. Але гэта ня мае вялікага значэньня, паколькі галоўная маса тавараў і галоўныя закупкі адбываліся ў коопэратывах. Такім чынам, сялянам было прададзена:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Абутку і адзеньня | на 1286 р. | Бляшаных вырабаў | на 68 р. |
| Мануфактуры | „ 253 „ | Інструмантаў | „ 55 „ |
| Жалезных тавараў | „ 305 „ | Начыньня | „ 31 „ |
| Бакалеі | „ 184 „ | Шорніцкіх вырабаў | „ 28 „ |
| Хлебнага віна | „ 140 „ | Кніжак | „ 22 „ |
| Канцэлярскіх прылад | „ 75 „ | Іншых тавараў | „ 552 „ |

Усяго сялянамі куплена на 2981 руб.

З прыведзеных лічбаў можна заўважыць, што галоўныя закупкі вёскі прыпадаюць на абутак і адзеньне—42,5% агульнай сумы. Відно, што вёска ў большасьці адмовілася ўжо ад самаробнай тканіны і абутку. Цікава падкрэсьліць і лічбу „зеленого змея". А яна займае досыць „пачэснае" мейсца ў агульнай суме закупак, прыблізна каля 5%, у той час, як на кніжкі і канцэлярскія прылады пайшло толькі 2,7%. Вынікі, думаю, досыць яскравыя.

Прыблізна, агульны зварот кірмашу складае 13664 руб. Лічба досыць значная для такога невялікага эконом. центру, як Рагачэў.

Ня менш важную ролю пры вывучэньні кірмашу грае вывучэньне руху базару, яго шматлюднасьці. Вывучэньне праводзілася шляхам выстаўленьня пікетаў на ўсіх вуліцах, вядучых к плошчы базару.

Вывучэньне праводзілася па сетцы, якая мае наступныя рубрыкі:

| | | |
|---|---|---|
| Падводы | Гаспадыні | Моладзь |
| Сяляне | Служачыя | Цікавыя тыпы |
| Сялянкі | Чырвонаармейцы | |

Па такой шкале рабіліся адзнакі рыскамі. У сетцы рабіліся адзнакі тых людзей і хурманак, якія сталі на базар. Падліку руху з базару ня было. Гэтае дасьледаваньне мае характар досыць дасканалы. Пікеты працавалі з 8 гадз. раніцы да 2-х дню. У выніку мы маем наступныя лічбы: падвод—1640; сялян—5440; сялянак—1905; гаспадынь—1571; служачых — 375, чырвонаар. — 122, моладзі — 773, цікавых тыпаў — 16 (к цікавым тыпам аднесены 3 паны, 2 рабіны і 11 размалёваных кабет).

Гэтыя лічбы дапаўняюць толькі малюнак і характар базару. Ня цяжка заўважыць, што галоўная маса базару складаецца з сялянства. Гэта кладзе адбітак і на самы характар кірмашу.

Урэшце, трэба застанавіцца яшчэ на ахопе кірмашом вёсак, г. ё. вызначыць, які ўплыў мае Рагачэў, як экономічны асяродак, і як далёка распаўсюджваецца яго экономічны ўплыў. Гэты бок высьвятляўся поруч з вывучэньнем таго, што вёска дае гораду. Пры адзнаках аб

прывезеным тавары рабілася адзнака і адкуль ён прывезены. Мяркуючы па вестках раён уплыву г. Рагачэву распаўсюджваецца навокал радыусам каля 25 клм. Бязумоўна, што большага радыусу нельга было і чакаць, паколькі недалёка знаходзяцца такія-ж асяродкі, і таму акаляючыя іх вёскі падпадаюць пад уплыў гэтых асяродкаў.

Вось, коратка ўсё тое, што было высьветлена пры вывучэньні „Мікольскага“ кірмашу студэнтамі Рагачэўскага Дзярж. Пэд. тэхнікуму.

---

**Ів. Карандзей.**

# Помнікі старасьветчыны і краявіды Вульскага і Расонскага раёнаў Полаччыны.

Полаччына вельмі багата рознымі помнікмі старасьветчыны і прыгожымі краявідамі. З гэтага боку ёй трэба адвесьці першае месца на Беларусі.

Мы прывядзем тутака некалькі заўваг аб тых помніках, якія яшчэ захаваліся да гэтага часу і якія, паколькі нам вядома, нідзе не апісаны і належным чынам не абсьледаваны.

Мы прывядзем весткі толькі з двух раёнаў Полаччыны — Вульскага і Расонскага.

Вульскі раён надзвычайна багаты вазёрамі з дзівоснымі формамі.

Галоўнейшыя вазёры злучаны паміж сабой рэкамі Дзівай і Праксай, а далей—праз раку Тураўлянку—і з Заходняй Дзьвіной.

Вульскі раён багаты і рознымі археолёгічнымі помнікамі.

Так па шляху, што з мястэчка Камень у Вулу, недалёка ад с. Суша, стаіць вялікі каменны крыж. Далей па гэтай-ж дарозе, каля маёнтку Сокарава, ляжыць каменны крыж разьмерам 119×82 санцімэтры. На крыжы ёсьць надпіс, сэнс якога разабраць цяжка.

Мясцовыя жыхары апавядаюць, быццам пад гэтым крыжам пахахавана 200 забітых стральцоў, у часе ўзяцьця крэпасьці Суша.

У вурочышчы „Баранаўскі Бор“, Вусайскай лясной дачы, каля шляху, які ідзе з вёскі Баранова на вёаку Гракава, у паўвярсты ад в. Баранава, ляжыць вялікая каменная пліта, з трыма высечанымі на ёй крыжамі. Недалёка ад гэтае пліты, каля магільніку, знаходзяцца чатыры насыпаных курганы даволі значнае вышыні.

У Вульскай лясной дачы, у вурочышчы „Аўгустберг“, на левым беразе ракі Вульлянкі, пры ўтоцы яе ў Зах. Дзьвіну, ёсьць шмат вялікіх курганоў.

*Расонскі раён.* Перш за ўсё цікава адзначыць мясцовасьці — „Нешчадра“ і „Сакалішча“ — дзе да гэтага часу захаваліся штучныя насыпы і равы.

У 10—12 вярстох ад м. Расоны знаходзіцца сяло Межна, дзе, кажуць, быў вялікі замак, абкружаны вадой. І цяпер яшчэ засталіся вялікія валы і равы.

Але для краязнаўцы самым цікавым у Расонскім раёне будзе Юхаўскае лясьніцтва, якое займае суцэльную плошчу прыгожага бору ў 24 тысячы гэктараў.

Такога каштоўнага суцэльнага масыву няма ўва ўсёй Беларусі. Рэльеф гарысты. Паміж гор. шмат вазёр. У Паўночнай дачы знаходзіцца возера Белае, вада ў якім надзвычайна празрыстая. На глы-

біні 6-7 сажняў можна ясна бачыць дно. Жыхары ваду з гэтага возера лічаць лекавай.

Возера Белае абкружана гарамі, на якіх расьце вялікі хваёвы лес. Па сваёй прыроднай прыгожасьці другога такога мейсца знайсьці цяжка.

У квартале № 52 Паўночнае дачы знаходзіцца гара вышынёй каля 7 мэтраў. На гары ёсьць канавы.

У квартале № 22 гэтае-ж дачы ёсьць гара вышынёй звыш 18 мэтраў, якая завецца — „Багатыр Гара“.

Пра гэтую гару ёсьць такая легенда:

Даўно-даўно, на гэтай гары жыла вялікая жанчына. Ростам гэтая жанчына была 3 аршыны. Ваду яна насіла на гору вялікімі цэбрамі, па два цэбры за адзін раз, а ў кожным цэбры было па 15 судаў.

Каля тэй гары шло нейкае татарскае войска. І запыталіся ў гэтае жанчыны-багатыркі, дзе дарога да рускага вайска! Жанчына-багатырка ўзяла ды і завяла войска татарскае ў балоты, дзе яно і было пабіта рускім войскам. Рэштка-татарскага войска, уцякаючы назад, забіла жанчыну-багатырку і пахавала на гэтай гары. Гара і стала звацца пасьля гэтага — „Багатыр Гара“.

У кв. кв. 42 і 50 Паўдзённае дачы шмат курганаў, на якіх расьце стары лес.

У кв. № 104 тэй-жа дачы ляжыць вялікі камень. На камяні гэтым высечана падкова.

Мясцовыя старыкі кажуць, што камень з гэтай адзнакай служыў месцам, дзе былі захаваны грошы.

У кв. № 91 знаходзіцца гара каля 14 мэтраў вышанёй, пад назвай „Сівая“. Назву гэтую гара атрымала таму, што на ёй пахаваны польскі правадыр вайска „Сівы“, ні-то—„Сівоха“.

---

Т. Гурыновіч.

# Там, дзе знойдзены Старобінскія грыўні.

Рака Случ, невялікая ў сучасны момант, лічылася ў даўныя часы вялікаю і судаходнаю ракою. Аб гэтым сьведчыць форма і шырыня яе даліны; аб гэтым сьведчаць курганы, якія засталіся па ўсіх высокіх берагох гэтае ракі. Так, у межах Старобінскага раёну, ад самага мяст. Пагосту і далей у глыб Палесься ня знойдзецца больш-менш значнага ўзвышша на беразе, каб яно ня было ўсеяна гэтымі курганамі. Будучы судаходнаю ракой, Случ доўгі час служыла галоўнай магістральлю паміж княствам Слуцкім і Тураўскім.

У адным з гэтакіх месц, каля вёскі Мілкавічы, у 10 вярстах ад мяст. Старобіна, у ніз па цячэньню ракі Случ, вярсты дзьве за вёскаю Мілкавічы, сярод лясоў, ёсьць прыгожы узгорак пад назваю Дабрычава. На ўзгорку разьмясьціліся з даўных часоў чатыры хутары; у двух з іх жывуць Гарасімені, а ў другіх двух Тройнічы.

Гэты ўзгорак мае ў шырыню вярсты дзьве і ўдоўж вёрст пяць. На самым узвышшы раскіданы высокія курганы. Іх налічваецца ў сучасны момант 22. Да гэтага часу гэтыя курганы амаль што не чапаны, бо глеба, дзе яны знаходзяцца, пескаватая і ня прыгодна для распрацоўкі. Вакол гэтае мясцовасьці лясістыя нізіны, рэдка перарываемыя значнымі палянкамі хутаран. Маючы заданьне ад ЦБ. Краязнаўства

абсьледаваць помнікі старасьветчыны, я, дасьледуючы гэтыя курганы, зайшоў да аднаго з гэтых хутаран і павёў з ім гутарку аб курганох: ці ведаюць яны пра іх якія небудзь паданьні, можа ёсьць якія-небудзь знахадкі і г. д. Гэта было вясной 1927 году. Мне ўдалося выявіць, што каля аднаго з хутароў быў выпадкова знойдзены гліняны гаршчок з попелам, але яго разьбілі і мне ўдалося пабачыць толькі




Шыйныя аздобы жанчын X—XI стагодьдзя.

чарапкі з яго. Далей мне гэты селянін неахвотна паведаміў, што яго сусед Герасіменя Парфен нашоў нейкія срэбныя рэчы, і што ў яго іх ужо таргаваў старобінскі бляхар. Калі я пашоў да Герасімені, дык ён мне паказаў як самыя рэчы, так і тое месца, дзе яны былі знойдзены. Высьветлілася, што гэтыя срэбныя знахадкі былі выпадкова знойдзены ў часе ральбы, і дзьве штукі з іх плугам былі зусім зламаны. Ляжалі гэтыя рэчы ўсе ў адным месцы. Гэты скарб складаўся з 4 грыўняў, вітых у тры столкі і загнутых у акружыну аднэй грыўні, унутры

пустой і аднога бранзалета на руку. Усе рэчы гэтыя срэбныя і захаваліся надта добра да гэтага часу. Я папрасіў у гэтага селяніна, каб ён аддаў іх, як каштоўнасьць, у музэй, і ён зрабіў гэта з ахвотаю, толькі прасіў мяне, каб яму расказалі посьля досьледу, што яны такое і, калі можна, даць яму ўзнагароду. Высьветлілася, што гэтыя грыўні ў яго ўжо таргаваў старобінскі бляхар. Толькі выпадкова гэтыя грыўні не папаліся ў рукі бляхара. Мною была праведзена з сялянамі гэтых хутароў гутарка аб значэньні курганоў, аб іх ахове, і яны мне абяцалі іх не капаць і другім гэтага не дазваляць. Частка гэтых рэчаў мною зараз-жа была накіравана ў Інбелкульт для досьледу; адна грыўня вітая, адна пустая ўнутры і бранзалет. Адну з 3 вітых грыўняў перадалі ў Бабруйскае акруговае т-ва краязнаўства, а дзьве і да гэтага часу знаходзяцца ў школе 7-годцы і скора будуць пераслалы ў Акадэмію Навук. Атрымаўшы перасланы скарб, ЦБК дало наступае тлумачэньне ад 28 мая 1927 г.: „Старажытныя рэчы, якія прыслала Ваша т-ва: 1) грыўня вітая, 2) грыўня спаяная, унутры пустая і 3) бранзалет з рукі — маюць агульнадзяржаўнае значэньне. Экзэмпляры рэдкія. Для вывучэньня скарбу трэба каб ён цалкам быў дастаўлены ў Інбелкульт, прычым пажадана атрымаць падрабязговае высьвятленьне, пры якіх абставінах быў знойдзены скарб, дзе (у кургане ці на полі) і пералічыць, што было знойдзена. Для заховы прысланыя рэчы часова перадаюцца ў Дзяржаўны Музэй“.

Хоць насельніцтва хутароў і вёскі Мілкавічы лічыцца карэнным насельніцтвам, але паданьняў аб гэтых курганох у яго не захавалася.

С. Мялешка.

# Праца Навукова-Дасьледчае Экспэдыцыі Цэнтральных Дзяржаўных Рэстаўрацыйных Майстэрняў у г. Полацку.

28 ліпеня г. г. у Полацак прыбыла з Масквы Навукова-Дасьледчая Экспэдыцыя Цэнтральных Дзяржаўных Рэстаўрацыйных Майстэрняў Наркамасьветы РСФСР у складзе выдатных вучоных: І. Р. Грабара, П. Д. Бараноўскага, Д. П. Сухава, мастака-рэстаўратара Г. О. Чырыкава і фотографа майстэрняў А. В. Лядава.

Мэта экспэдыцыі была наступная: азнаямленьне з старажытнымі помнікамі архітэктуры і монумэнтальнага малярства г. Полацку, абсьледваньне старажытных конструкцыйных форм архітэктурных будоў XII веку, выяўленьне характараў фрэсак, якія ёсьць у Полацку, а таксама адшуканьне новых фрэсак.

Пры абсьледваньні Спаскай царквы (XII в.) бышага Спаса-Ефрасіньевага манастыра, экспэдыцыяй былі ўстаноўлены вельмі значныя памылкі ў абмерах і архітэктурным аналізе помніка, якія былі дапушчаны Н. М. Бруновым і шэраг недакладнасьцяй у рэконструкцыі помніка І. М. Хозарава.

Як першы так і другі не ўразумелі сэнсу „тумб“ у барабане, якія аказаліся пры дэталёвым абсьледваньні ніжняй часткою пілястраў, што ўпекнялі ў старажытнасьці барабан.

Для поўнага высьвятленьня першапачатковай архітэктуры помніка патрэбна зрабіць дакладныя навуковыя абмеры, якія патрабуюць даволі доўгага часу. Трэба адзначыць, што экспэдыцыя прызнала вельмі пажаданым правядзеньне такой працы, бо гэта можа даць надзвычайна важныя матар'ялы для гісторыі беларускага мастацтва.

З прычыны таго, што архітэктарам-археолёгам Бараноўскаму і Сухаву нельга было затрымацца на больш доўгі час, на гэты раз прышлося абмежавацца толькі абсьледваньнем разьведачнага характару.

Затым экспэдыцыя правяла абсьледваньне росьпісі сьцен Спаскай царквы. Было намечана месца на паўднёвай сьцяне помніка супроць паўднёва-заходняга слупу. На працягу 29 і 30 ліпня мастаком-рэстаўратарам Г. О. Чырыкавым была ачышчана ад пазьнейшых насланьняў плошча, якая напасрэдна прылягае да паўднёвага акна.

Пад 8 слаямі пабелкі і масьляных фарбаў знойдзена галава „сьвятой", напэўне пакутніцы, азначыць якую дакладней даволі цяжка, пакуль ня будзе адчынена ўся фігура.

Гэтая фрэска ёсьць напэўна твор 1-ае паловы XII веку, высокага майстэрства, вельмі арыгінальная па свайму характару і тэхніцы, не падобная на іншыя вядомыя фрэскавыя цыклі тэй-жа эпохі.

Затым, Г. О. Чырыкавым была знойдзена захованая ў алтары на паўночнай лапатцы ўнізе пад новым масьляным малюнкам праведнага Якіма фрэска, якая малюе Яна Златавустага, таго-ж самага характару і тэхнікі, што і папярэдняя. Разьмер выкрытай фрэскі 109×114 сант. 31-га ліпня на працівалеглай, паўднёвай алтарнай лапатцы пад новым малюнкам „праведнай" Ганны выкрыта фрэска, якая малюе Васіля вялікага, таго самага характару і тэхнікі, што і дзьве папярэднія. Абедзьве фрэскі амаль па пояс, таму што некалькі ніжэй яны ўваходзяць сваімі нагамі ў падпольле, што прымушае дапусьціць узьнятасьць падлогі прыкладна на $2^1/_2$ аршыны.

Абедзьве фрэскі пакрыты ў даволі значнай колькасьці рознага часу „графити", пачынаючы ад 1492 г. да 1832 г., апошняга году, калі фрэскі былі яшчэ не замазаны.

Гэтыя „графити" прадстаўляюць надзвычайна вялікую цікавасьць і даюць багаты гісторыка-культурны матар'ял, заслугоўваючы спэцыяльнага дасьледваньня і апублікаваньня. (Вось для прыкладу зьмест аднаго „графити"—„у 1492 годзе памёр кароль, а сын яго Аляксандар на княжэньне сеў 31-га ліпеня таго-ж году").

Шмат „графити" напісаны на старажытнай беларускай мове, а частка — на латынскай і польскай мовах.

Далейшыя абсьледваньні выявілі з пэўнасьцю тое, што ўвесь помнік унутры распісаны і ёсьць даволі грунтоўныя падставы чакаць, што першапачатковая росьпісь 1-ае паловы XII веку ў найбольшай сваёй частцы захавалася здавальняюча пад масьлянымі фарбамі XIX веку, але праца па яе выяўленьні надзвычайна марудная, цяжкая і складаная.

Для рэстаўрацыі ўсіх фрэсак патрабуецца праца некалькіх рэстаўратараў на працягу 3-х гадоў. На вялікі жаль, экспэдыцыя з прычыны адсутнасьці часу не змагла адчыніць больш фрэсак.

Але гэтую працу з цягам часу патрэбна ўсё-ж такі давесьці да канца, таму што яна дае ўсяму сьвету адзін з самых найвыдатнейшых помнікаў беларускага старажытнага мастацтва. Адначасова з гэтымі

працамі праводзілася абсьледваньне руін двух цэркваў быўшага Барысаглебскага манастыра (XII в.), галоўным чымам, у мэтах устанаўленьня ступені захаванасьці фрэсак, калісьці скрозь пакрываўшых іх сьцены і часткова ўцалелых да сучаснага моманту.

Абсьледваньне выявіла, што ў малой царкве, якая зьяўляецца Барысаглебскай — аб чым з упэўненасьцю кажуць цэнтральныя фігуры— фрэскі Барыса і Глеба, напісаныя на аўтарных пілонах, проста супроць галоўнага ўваходу — эпідэрма маляўнічай паверхні поўнасьцю страчана і захавалася толькі падгатоўка, амаль толькі контуры композыцыі, інакш кажучы, толькі першапачатковы нарыс іх.

Аднак і ў такім выглядзе ўсе сьценапісы прадстаўляюць значную іконаграфічную каштоўнасьць, папаўняючы нашы сучасныя веды ў галіне бізантыйскай іконаграфіі.

Экспэдыцыяй устаноўлена, што Барысаглебская царква была расьпісана ў XII в. і з надворнага боку.

У другой царкве (Параскевы Пятніцы) фрэскі захаваліся крыху лепш, асабліва пад пабелкай, дагэтуль яшчэ пакрываючай значную частку сьцен, але і тут верхнія слаі малярства загінулі безпаваротна ўжо ў ранейшыя часы і былі ледзь відны к моманту першай агульнай пабелкі сьцен.

Экспэдыцыі ўдалося ўстанавіць толькі прыблізна некаторыя з сюжэтаў, рэшта-ж сюжэтаў засталіся нявысьветленымі. Затым экспэдыцыяй устаноўлена, што ў абедзьвюх царквах разбураныя скляпеньні былі ўжо пазьнейшымі, аб чым сьведчыць іх кладка, тагды як самыя сьцены першапачаткова былі вышэй.

У памяшканьні акруговага краязнаўчага музэю, у будынку быўшага Сафійскага сабору таксама было зроблена абсьледваньне, якое дало адмоўныя вынікі: шляхам выстукваньня сьцен і частковай пробнай расчысткі было высьветлена, што няма падстаў спадзявацца тут на выкрыцьцё значных фрэсак у ніжняй частцы сьцен, але ня выключана мажлівасьць наліччa калі ня цэлых композыцый, дык хоць-бы значных фрагмэнтаў у верхніх частках сьцен, да якіх дабрацца не ўдалася.

Пакідаючы Полацак з яго найвыдатнейшымі помнікамі архітэктуры і монумэнтальнага малярства, старажытнейшымі на тэрыторыі СССР — экспэдыцыя вынесла наступныя пажаданьні: 1) каб захаваць ад руйнаваньня каштоўныя фрэскі—патрэбна зараз-жа пакрыць руіны двох царквей Барысаглебскага манастыра. Адначасова трэба абгарадзіць абодвы помнікі плотам, з мэтаю спыненьня далейшых кладашуканьняў і расьцягваньня цэглы з боку акаляючага насельніцтва, для чаго вельмі пажадана прызначэньне асобнага вартаўніка, адказнага за цэласьць руін.

2) Што датычыцца царквы быўшага Спаскага манастыра (XII в.), дык пажадана ўнесьці ў вышэйшыя інстанцыі БССР пытаньне аб асыгнаваньнях на працягу трох гадоў па 3.000 рублёў штогодна для поўнай рэстаўрацыі старажытнага сабора як яго архітэктуры, зусім папсутай, так і сьценапісаў, зараз замазаных. Кіраўнік экспэдыцыі праф. Ігар Грабар ад імя Цэнтральных Дзяржаўных Рэстаўрацыйных Майстэрняў РСФСР заявіў, што іх працаўнікі будуць шчасьлівы прадаставіць БССР увесь свой вопыт, веды і тэхнічны апарат для гэтага вялізарнага заданьня, якое, бязумоўна, з энтузіязмам будзе прывітана сусьветнай навукай і спаткае спачувальны водгук сярод працоўных мас, таму што гэты помнік ёсьць для іх найвялікшы помнік мастацтва,

а ня культу, помнік, які сьведчыць аб надзвычайна высокай культуры на старажытнай Беларусі. 3) У мэтах папулярызацыі беларускіх помнікаў старажытнасьцяў трэба зьмясьціць каля кожнага помніка альбо на самым помніку, на мясцох навейшай кладкі, каб не парушаць старажытную кладку, асобых дошчачак, якія будуць растлумачваць старажытнасьць і сусьветнае значаньне помнікаў, што зьявіцца, бязумоўна, стымулам у насельніцтва да больш уважлівых адносін да старажытных помнікаў.

---

# ХРОНІКА.

## Інструкцыйны ліст да ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

Краязнаўства, як усебаковае вывучэньне прыроды, гаспадаркі і насяленьня мясцовага краю, за апошнія гады пачынае адыгрываць прыкметную ролю ў культурным і гаспадарчым жыцьці БССР. Калі раней, пры самым пачатку разьвіцьця ў нас гэтага грамадзкага руху, краязнаўства абмяжоўвалася толькі вывучэньнем пытаньняў гісторыі і культуры розных раёнаў БССР, дык цяпер яно пачынае ахапляць найбольш актуальныя пытаньні экономічнага і прыроднага вывучэньня паасобных раёнаў БССР. Дасьледваньне глебаў БССР, расьлінных згуртаваньняў, карысных выкапняў, лясных і рыбных багацьцяў— усё гэта цяпер прыцягвае пільную ўвагу краязнаўцаў, пачынае ўваходзіць у кола іх краязнаўчай зацікаўленасьці.

Зразумела, і вывучэньне сельскай гаспадаркі паасобных раёнаў БССР прыцягнула дасьледчую ўвагу нашых краязнаўцаў. Орган Цэнтральнага Бюро Краязнаўства БССР часопіс „Наш Край", які выяўляе пераважныя краязнаўчыя імкненьні дасьледчыкаў БССР, за апошні момант атрымаў шэраг досьледаў у галіне мясцовай с. гаспадаркі. Частка матар'ялаў ужо надрукавана за гэты год.

Трэба заўважыць пры гэтым, што нашы краязнаўчыя організацыі і паасобныя аматары - краязнаўцы, вывучаючы сельскую гаспадарку, у першую чаргу вывучаюць дынаміку с. гаспадаркі, тыя лічбовыя даныя, якія характарызуюць яе, тыя тэндэнцыі, якія выразна вызначаюцца ў раёнах БССР. Нашы краязнаўцы покуль што зусім не зьвяртаюць увагі на вывучэньне самых процэсаў, якія адбываюцца ў глебах розных раёнаў БССР пад уплывам сельска-гаспадарчай дзейнасьці чалавека, яны мала вывучаюць тыя зьмены, якія можна ўнесьці ў спосабы карыстаньня зямлёй на падставе азнаямленьня і вывучэньня мясцовых прыродна-гістарычных і экономічных умоў. Так, напр., вывучэньне мясцовага паляводзтва — досьледы аб ролі таго ці іншага ўгнаеньня ў мясцовых умовах, аб ролі розных сартоў насеньня ў павышэньні ўраджаю, выбар у гэтым напрамку найлепшага ў мясцовых умовах насеньня, нагляданьні над уплывам розных відаў апрацоўкі глебы, над рольлю зялёных і мінэральных угнаеньняў, вывучэньне балот ня толькі з боку прыроднага, а і з пункту скарыстаньня ў сельскай гаспадарцы — усе гэтыя пытаньні паляводзтва яшчэ вельмі мала цікавяць шырокія краязнаўчыя колы БССР. Між тым зусім зразумела неабходнасьць правядзеньня масавых краязнаўчых досьледаў у гэтым напрамку.

Таксама пытаньні паляпшэньня садоўніцтва БССР яшчэ не зьвярнулі на сябе ўвагі краязнаўцаў БССР. Садоўніцтва, як яно разьвіваецца ў мясцовых умовах, зусім не ілюстравана ў нашых краязнаўчых досьледах. Пытаньняў у гэтай галіне шмат: вывучэньне мясцовых тэрмінаў пасадкі прышчэпаў, мясцовых спосабаў пасадкі, уплыву розных відаў угнаеньняў у садовай працы, увядзеньня новых культур і сартоў і г. д.

Таксама нашы краязнаўчыя організацыі яшчэ ня могуць пахваліцца сваімі досьледамі ў гародніцтве, сваімі нагляданьнямі над увядзеньнем новых сартоў гародніны, сваей праверкай прыстасаваньня іх да мясцовых прыродных умоў, іх рэнтабельнасьці ў мясцовай гаспадарцы, досьледамі над культурай кармавых і цукровых буракоў, вывучэньнем асобных культур, найбольш спрыяльных для пэўных раёнаў БССР.

Усе гэтыя пытаньні ў БССР плянава вывучае Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна. Бюро вывучае спосабы паляпшэньня тэхнікі і організацыі с. гаспадаркі БССР, ставіць шырокую колектыўную дасьледчую працу ў галіне с. гаспадаркі, правярае дасягненьні, здабытыя ў паасобных гаспадарках і папулярызуе іх.

Зразумела, што нашы краязнаўчыя організацыі, вывучаючы актуальныя пытаньні с. гаспадаркі свайго краю, павінны быць шчыльна зьвязаны з раённымі с. гаспадарчымі станцыямі (Менская, Горацкая, Віцебская Турская і Палеская) і з раённымі бюро сялян-дасьледчыкаў, якія ёсьць ці будуць у бліжэйшы час заснаваны ў адміністрацыйных раёнах БССР. Аб формах такой організацыйнай сувязі трэба заўважыць, што Акруговыя

т-вы краязнаўства ў сваёй штодзённай працы ня могуць не зьвязацца з раённымі Дасьледчымі с.-г. станцыямі, а раённыя т-вы краязнаўства самы шчыльны контакт павінны мець з агропунктам і раённым бюро сялян-дасьледчыкаў, а таксама з паасобнымі сялянамі дасьледчыкамі. Апошняе будзе вельмі карысна і для разьвіцьця агрономічнай справы ў БССР і для разьвіцьця краязнаўства наогул. Нашы краязнаўчыя організацыі павінны памятаць, што сяляне-дасьледчыкі ёсьць найбольш сьвядомая часткі вясковага насяленьня, якая ідзе насустрэчу культур-мерапрыемствам Савецкай улады і ў справе вывучэньня мясцовага краю наогул можа быць вельмі карыснай сваімі ведамі, культурнай дапамогай і дасьледчай ініцыятывай.

Неабходны і другія формы ўвязкі нашых краязнаўчых організацый з дасьледчымі органамі НДІ імя Леніна і Наркамзему—удзел краязнаучых організацый у с.-г. выстаўках, с.-г. нарадах, конфэрэнцыях сялян-дасьледчыкаў, у экскурсіях на дасьледчыя станцыі, колгасы, адлюстроўваньне працы сялян-дасьледчыкаў у краязнаўчых мясцовых музэях, кутках і выстаўках.

Цэнтр. Бюро Краязнаўства рэкомэндуе ў правядзеньні краязнаўчых досьледаў у галіне мясцовай с. гаспадаркі кіравацца „Програмай і інструкцыяй дасьледчай працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў“, якую выдала Менскае Цэнтральнае Бюро сялян-дасьледчыкаў пры НДІ імя Леніна. Інструкцыя ахапляе ўсе віды досьледаў у с. гаспадарцы і каштуе ўсяго 25 к.

Старшыня Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук А. Казак.

Сакратар Бюро Прыстасаваньня і сялян-дасьледчыкаў пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі, імя У. І. Леніна. Г. Чуйко.

1 верасьня 1929 г.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 23/IV-29 г.

Заслухалі даклад т. Самцэвіча аб краязнаўчай працы на фабрыках і яе організацыі. Прынята пастанова аб пастаноўцы дакладу на гэтую тэму ў Культадзеле ЦСП і прыняцьці першых крокаў да організацыі спробных гурткоў краязнаўства на прадпрыемствах. Заслухана інформацыя прадстаўніка Навукова - дасьледчага інстытуту імя Леніна - т. Чуйко аб сувязі ў працы ЦБК з Інстытутам сялян - дасьледчыкаў. Ухвалена пастанова аб неабходнасьці шчыльнай сувязі мясцовых краязнаўчых організацый з працай раённых бюро сялян-дасьледчыкаў. Вылучылі ад ЦБК прадстаўніка ў Інстытут сялян-дасьледчыкаў т. Шашалевіча. Заслухана справаздача т. Касьпяровіча аб краязнаўчай працы на Бабруйшчыне і ў Асіпавіцкім раёне. Заслухана інформацыя т. Жураўскага аб краязнаўчай працы на Аршаншчыне.

### Пасяджэньне 7/V-29.

Заслухана інформацыя т. Жураўскага аб выніках працы курсаў краязнаўства, наладжаных т-вам краязнаўства пры БДУ і ЦБК. Выказана падзяка ўсім лектаром на краязнаўчых курсах, выдана 30 экз. зборніка „Краязнаўства“ найбольш актыўным наведальнікам курсаў. Заслухана інформацыя дырэктара Віцебскага мастацкага тэхнікуму т. Вольскага аб краязнаўчай працы ў Мастацкім тэхнікуме. Ухвалена пастанова падтрымаць хадайніцтва краязнаўчага гуртку пры тэхнікуме перад НКА аб дапамозе экскурсіі сяброў гуртка. Прызнана неабходным зьмясьціць у часопісу „Наш Край“ артыкул кіраўнічага характару аб мастацка-краязнаўчай працы. Разглядалася пытаньне аб камандыроўках і экспэдыцыях сяброў ЦБК. Прынята пастанова аб камандыраваньні: 1) т. Шашалевіча ў Полацкую і Віцебскую акругі для інструктаваньня краязнаўчых організацый; 2) т. Жураўскага — у Лоеўскі і Камарынскі раёны для экспэдыцыі па вывучэньні гаспадаркі раёну; 3) т. Шашалевіча — у экспэдыцыю ў Чачэрскі раён, Гом. акр. — у канцы жніўня; 4) т. Касьпяровіча ў экспэдыцыю ў Менскую акругу. Усім сябром, якія камандыруюцца, даручана наладзіць краязнаўчую працу ў раёнах. Заслухана інформацыя т. Бядулі аб вывучэньні ім быту колгасаў. Прынята пастанова хадайнічаць перад Прэзыдыумам БАН аб прадстаўленьні паездкі ў колгасы т. Бядулі ў мэтах вывучэньня колгасаў.

### Пасяджэньне 1/VI-29.

Заслухана справаздача т. Шашалевіча аб командыроўцы ў Віцебскую і Полацкую акругі. Адзначана добра наладжаная краязнаўчая праца ў Віцебскім раёне (укладаньне археолёгічнай карты, складаньне зборніку „Наш сельсавет“, досьледы народнай мэтэоролёгіі і інш.). Прынята пастанова прасіць Віцебскі РВК выдаць грашовую дапамогу Віцебскаму раённаму т-ву Краязнаўства для рэалізаваньня мерапрыемстваў Т-ва. Прызнана наяўнасьць добрых умоў для разьвіцьця музэйна-краязнаўчай працы ў Дрысенскім і Асьвейскім раёнах Полацкай акр. Высунута перад Дзярж. Музэем пытаньне аб неабходнасьці компэнсаваць раённыя т-вы за збор музэйных рэчаў, якія дасылаюцца ў Менск. Вырашана пытаньне аб разьмеркаваньні між акругамі экскурсійных літароў, атрыманых ЦБК. Разгледжана пытаньне аб програме для вывучэньня раёну з антырэлігійнымі мэтамі і даручана т. Касьпяровічу ўкласьці гэтую програму. Прынята пастанова аб камандыраваньні на Гомельскую Акруговую Краязнаўчую Конфэрэнцыю т. Жураўскага.

### Пасяджэньне 12/VI-29.

Заслуханы даклад т. Казака аб соцыялістычным спаборніцтве сярод краязнаўчых організацый.

Ухвалілі: а) прыняць у аснову спаборніцтва пастанову Комісіі ад 12.6.29; б) лічыць магчымым уступіць у спаборніцтва з Украінскім Комітэтам Краязнаўства, высунуўшы наступныя об'екты: 1) разгортваньне краязнаўчай сеткі да паасобных прадпрыемстваў і нізавых адміністрацыйных адзінак; 2) разгортваньне школьна-краязнаўчай сеткі (школьн. гуртк. кр-ва) да наяўнасьці працаздольнага гуртка ў кожнай 7-годцы; 3) уцягненьне ў краязнаўчую справу большага ліку сялян, рабочых і моладзі; 4) выданьне інструкцый і програм па найбольш актуальных пытаньнях сучаснасьці: вывучэньне колектыўных форм гаспадаркі; вывучэньне гісторыі рэвруху; вывучэньне раёну з антырэлігійнымі мэтамі; вывучэньне прамысловасьці; 5) выкананьне аднэй ударнай працы ўсімі раённымі краязнаўчымі організацыямі; в)раіць акруговым таварыствам краязнаўства абмеркаваць пытаньне аб спаборніцтве паміж акр. таварыствамі.

Вылучаны т. Касьпяровіч прадстаўніком ЦБК на конфэрэнцыю выкладчыкаў пэдтэхнікумаў і даручана яму зрабіць даклад аб выкладаньні ў пэдтэхнікумах мэтодыкі краязнаўства. Зацьверджаны плян цыклю краязнаўчых лекцый па радыё.

## Што атрымала ЦБК і рэд. час. „Наш Край“ у красавіку—ліпені 1929 г.

Ад Е. Максімовіча (Староб. р.), П. Котава (Езярышч. р.). П. Усыпкі (Езяр. р.), Бародкі (Староб. р.), Х. Клімянка (Жалоб. р.), А. Бялькевіча (Стар. р.), А. Жышкевіча (Староб. р.) — картак слоў жывой мовы—720.

Ад А. Крукоўскага (Мазыр): 1) Слоўны матар'ял Бярозаўск. с. с. Юравіцк. раёну. 2) Асаблівасьці гаворкі Бярозаўск. с. с.. 3) Слоўны матар'ял в. Цешкаў Нараўл. р. 4) Дыялектолёгічн. матар'ялы в. Цешаў Нараўл. р. 5) Слоўны матар'ял в. Канатоп Нараўл. р. 6) Дыялектолёгічныя матар'ялы в. Канатоп Нараўл. р. 7) Песьні з в. Цешава. 8) Слоўны і дыялектолёгічны матар'ял в.в. Ратавы і Дзернавіч Нараўл. р.

Ад Асіпавіцк. кр. гуртку пры чыгуначнай школе фольклёрных запісаў 60.

Ад Ветрынскай 7-кі (Полаччына) песьні і казкі аб волатах.

Ад Капаткевіцк. р. т-ва казкі аб волатах.

Ад Ю. Шаблінскага (Клічаўскі р.), У. Ляпяшынскага, Я. Соўкі. (Хойніцкі р.) А. Даўгучыца (Старадарoскі р.), Я. Кавалёва, Гапеява і Волкава (Высач. р.), А. Караткевіча (Карма), А. Мальчыка (Бягомльскі р.), П. Котава (Езяр. р.), Т. Канатопава (Журавічы), Г. Дзядкова (Жур. р.), Белавусава, П. Усыпкі (Езярышча), Ц. Бабцова (Бых. р.), С. Шандарэўскага (Езяр. р.), У. Янковіча (Слуцак), А. Прахарэнкі (Тур. р.), Е. Максімовіча (Староб. р.), А. Бабіцкага (Смаляв. р.), — фольклёрныя матар'ялы ўсяго 1063 №№.

Ад Рагачэўскай Яўрэйскай школы 7-кі сшытак яўрэйскай народнай творчасьці (афорызмы).

Ад Старобінскага Раённ. Т-ва Краязнаўства дзьве стараславянскія вітыя грыўні.

Ад Гурыновіча (Старобін) „Там, дзе знойдзены Старобінскія грыўні“.

Ад П. Забелы і Т. Шацкага (Гомель) „Парк пры саўгасе „Барысаўшчызна“ (Гом. акр.“).

Ад Р. Дзеравянкі (Нараўл. р.). „Рэлігійныя сэкты Нараўл. р.“

Ад А. Бяляева (Коханава) „Соцыяльна-экономічны і культурны стан Кохан. р.“.

Ад Б. Брэжго (Дзьвінск). „М. Яновічы“.

Ад І. Крыцкага (Слуцак) „Будаўніцтва с.-г. Случчыны“.

Ад Д-р. Рысіна (Горкі). Даклад „Санітарна-бытавая характарыстыка вёскі Горацк. р.“.

Ад Я. Мазуркевіча (Віцебск) „Віцебская краёвая літаратура“.

Ад Проф. П. Салаўёва (Горкі) Фэнолёгічны бюлетэнь.

Ад С. Шаўковіча (Тураўскі р.) „Палескае с.-г. т-ва“.

Ад Яна Баравіцкага (Лоеў) „Мінулае Лоеўскага р.“

Ад А. Фурсэвіча (Мсціслаўль) „Дзявочая гара“.

Ад Хініча (Старобін). „Троху аб нашым“

Ад М. Варшала і Маханіка (Старобін) „Санітарна-бытавое апісаньне м. Старобіна“.

Ад В. Самцэвіча. „Аб краязн. працы ў нізавых краязнаўчых організацыях“.

Ад В. Вольскага „Беларускія элемэнты ў бытавой абраднасьці літоўскіх татар“.

Ад З. Даўгялы „Цыганы ў Полацку (26-XI-1533 г.)

Ад М. Акіншэвіча. „Гістарычныя, археолёгічныя і этнографічныя заўвагі аб Веткаўскім р.“ і „Старыя звычаі ў Веткаўскім раёне“.

Ад Б. Хініча „Апісаньне м. Старобіна“.

Ад Д. Васілеўскага „Гісторыя г. Дуброўны“.

Ад Г. Лагуна (Рагачэў) „Мікольскі кірмаш у Рагачэве“.

Ад Гомельск. Акруг. Т-ва артыкулы: Е. Кушалевіч „Кабылянскае балота“, К. Баева „Да пытаньня аб крыніцах па гісторыі Гомельшчыны“ і М. Саламыкіна „Нататкі аб Ветк. р.“.

Ад Е. Максімовіча „Хатняе лячэньне сялянства“.

Ад проф. П. Салаўёва (Горкі) „Атрутная мошка“.

Ад М. Ласава (в. Гараны, Дубров. р.) „Культ. і народная гаспадарка“.

Ад М. Вайцянкова (Мсьціслаўль) „Апісаньне бровару ў Мсьціслаўлі“.

Ад В. Вольскага (Віцебск) „Вусныя паданьні літоўскіх татар“.

Ад М. Лур'е (Сіроціна) „Віцебская губ. у 1919—21 г.“.

Ад. Ц. Шышкова (Арш. р.) „Экономічны стан в. Барані“.

Ад Ц. Мінзурэнкі (Дубр. р.) „Радзіны і хрэсьбіны“.

Ад краязнаўчага гуртку пры Невельскай школе II ступ. „Краязнаўчы зборнік“. Зьмест: 1. Краязнаўства і школа. 2. Рыбная гаспадарка ў Невельскім раёне і г. д.

Ад М. Мікіціна (Клічаў) „Асаблівасьці мовы Клічаўскага р.“.

Ад Т. Кулакова і М. Валатоўскага (Азарычы) „Першабытная гаспадарка Анікея Галяка“.

Ад А. Шаўковіча (Лельчыцы) „Апісаньне Мілашэвіцкага с. с.“

Ад М. Старавойтава (Азар. р.) „Слабада Давыдаўка, Азарыцк. р.“

Ад А. Немцава (Асіпавічы) „Шкляная гута Комінтэрн“.

Ад В. Самцэвіча „Па Барысаўшчыне“ (нататкі).

## Ахова помнікаў прыроды на Украіне.

Усеукраінскі Комітэт Аховы Помнікаў Прыроды існуе з 12-II-1928 г. у складзе прадстаўнікоў урадавых устаноў, навуковых організацый і т-ваў. У комітэт уваходзяць прадстаўнікі: Наркамзему, Наркамасьветы, Наркамздароўя, НК унутраных спраў, Усеукр. Управы Лясоў, Акадэміі Навук, С. Г. Інстытуту, Навуковага Т-ва, Украінскага Комітэту, аховы помнікаў культуры і інш.

Комітэт вылучыў бюро ў складзе 7 асоб і 1 кандыдата. Працуюць дзьве комісіі — Чапельская (у справе заказьніка „Асканія Нова“) і пясковых заказьнікаў.

За мінулы год Комітэт зрабіў такую працу: 1. Рэгістрацыю помнікаў — было зарэгістравана 199 помнікаў і сьпісы былі пасланы Акрвыканкомам з указаньнем мерапрыемстваў, неабходных для іх аховы; 2. Рэестр лясоў, якія неабходна ахоўваць (87 дзялянак); 3. рээстр цалін Украіны (264); 4. рээстр старых насаджэньняў па акругах.

Комітэт правёў 32 экспэдыцыі для абсьледваньня лесавых урочышчаў, лясоў, стэпавых цалін, каменных магілак, стану жывёльнага сьвету на Дняпры (сярэдні), балак, лесавых заказьнікаў, колёній баброў, букавых лясоў, распаўсюджаньня азалі і расьлін паўночнай Украіны. Гэту працу зрабілі проф. Акімаў, Шарлеман, Браўнер, інспэктар Лаўрэнко і працаўнікі комітэту Дохман, Каваленка, Чафранаў, Левін. Комітэт апрацаваў проект Палажэньня аб Пяшчаным заказьніку Дняпроўскага нізу, падаў уралу проекты Дзяржаўных заказьнікаў: 1. Гумальскага імя III Інтэрнацыяналу (б. парк Патоцкага — Софіеўка);

2. Устымеўскага парку на Крамянеччыне.
3. Авеньніўскі парк на Крыварожжы;
4. „Чорны Лес“ на Зіноўеўшчыне;
5. „Карабельны Гай“ на Валыні.

Пры дапамозе і дзякуючы Ініцыятывы Комітэту мясцовыя Акрвыканкомы абвясьцілі заказьнікамі мясцовага значэньня:

1. Сасновы бор „Гэрманшчына“ — 150 га (Палтаўшчына).
2. Міхайлаўская цаліна — 200 га (Сумская акр.).
3. Акадэмічная цаліна — 154 га (Палтаўская акр.).
4. Валынскі заказьнік па р. Цецяраву — 7 га.
5. Качаноўскі парк каля г. Нежына.
6. Парасоцкі лес Палтаўскай акр. — 140 га.
7. Старыя дрэвы па шляхох Віньніцкаму, Рамнянск. і інш.
8. Любамірскі стэп на Днепрапятроўшчыне.

Як у гэтых заказьніках, так і ў ранейшых (Чаплі, Міхайлаўская цаліна і інш.) наладжана сталая ахова, забаронены парубкі, касьба травы і г. д.

Поруч з працаю па рэестрацыі і дасьледваньні заказьнікаў Комітэт папулярызаваў ідэю аховы помнікаў прыроды ў друку (Радзяньске село, Вісті, Комуніст, Радзянська Освіта), дасылаў брошуры, выдаваў лістоўкі, лісты-плякаты (Днепрапятроўская Акрінспэктура выдала 11 лістовак на мэты аб ахове прыроды), перасылаў зацікаўленым асобам падручную літаратуру, даваў парады і г. д.

Цэлы шэраг экскурсій, якія былі організаваны з ініцыятывы Комітэту, краёвых і акруговых Інспэктарыятаў (экскурсіі па р.р. Псёлу, Ворсклі, Дняпры, Самары, у стэп і лясы заказьнікаў Гуляй Поле і інш.) — усё гэта таксама спрыяла пашырэньню сярод мас, асабліва моладзі і вучняў, ідэй аховы помнікаў прыроды. На Днепрапятроўшчыне тольні было організавана 40 школьных гурткоў з лікам 2000 сяброў — аматараў прыроды.

Для першага году дзейнасьці Комітэту зроблена вялікая праца. Трэба памятаць, што за час вайны і рэволюцыі справа аховы помнікаў прыроды зусім заняпала, вельмі шмат надзвычайна каштоўных помнікаў было зьнішчана, зрабавана, сапсавана.

У самай практыцы нізавых органаў улады, у грамадзянскіх організацыях, у паасобных грамадзян вельмі мала сьвядомых адносін да аховы помнікаў прыроды.

Такім чынам амаль увесь год пашоў на популярызацыю ідэй аховы помнікаў прыроды, на складаньне проектаў заказьнікаў, рэестрацыю, апісаньне і абсьледаваньне. Цяпер далейшая праца Комітэту робіцца больш яснай, хоць і не лягчэйшай. Цяпер Комітэт мае 146 корэспондэнтаў, апрача 4 краёвых інспэктур (Кіеў, Адэса, Харкаў, Днепрапятроўск) і яшчэ краёвую комісію ў Белай Царкве Т-ва аматараў прыроды ў Адэсе і Днепрапятроўску.

Пакуль што гэтаю працай мала ахоплены школы, профсоюзы, комсамол, якія маглі-б правесьці вялізную працу па ахове помнікаў прыроды, выяўленьні новых і популярызацыі самай ідэі аховы прыроды. На гэта трэба больш усяго зьвярнуць увагу Комітэту.

Чым больш сьвядома будзе ставіцца насяленьне да аховы прыроды, чым больш людзей будзе прыцягнута да гэтай справы, тым лепш і дасканальней будзе наладжана гэтая справа на Украіне. Прыклад культурных краін Эўропы, дзе кожны помнік прыроды, як і наогул усялякія насаджэньні: дрэвы па шляхох, паркі, лясы і г. д., добра ахоўвае ўсё насяленьне — гэты прыклад, гэтую традыцыю трэба ўзяць для нас за ўзор.

Харкаў.

Міх. Быкавец.

## Пэрспэктывы цукраварэньня ў Беларусі.

У красавіку 1928 г. Аршанскае таварыства Краязнаўства заслухала інформацыю Горацкага раённага таварыства краязнаўства аб цукравай прамысловасьці ў БССР. Па інформацыі прынята пастанова: Прасіць Горацкае Т-ва Краязнаўства прадоўжыць далейшае вывучэньне мажлівасьцяй цукраварэньня. У Горках заняўся спэцыяльным дасьледваньнем цукравых буракоў проф. А. Ключароў.

Акруговае таварыства напісала Акрза адносіну з просьбай пасадзіць у адным з савгасаў некалькі лех цукравых буракоў. Праз некалькі дзён Аршанскі акруговы зямельны аддзел паведаміў таварыства, што цукравыя буракі засеяны ў колгасе Талачын і савгасе Забалацьце.

Увосень атрыманыя карняплоды былі старанна выбраны з лех, узважаны і накіраваны ў тэхнолёгічную лябараторыю Горацкай сельска-гаспадарчай Акадэміі для выяўленьня процантаў цукру.

Ня гледзячы на дрэннае надвор'е мінулага лета, буракі на Аршаншчыне вырасьлі вельмі добра: у сярэднім 290 п. на гэктар. Асабліва буйныя цукравыя буракі вырасьлі на дасьледчым полі ў Горках: ураджай даходзіў да 350 п. на гэктар. Культура буракоў досыць працаёмкая і пашырэньне іх пасеваў на вёсцы дасьць занятак значнай частцы тых рабочых рук, якія зараз выпіраюць цэлымі хвалямі з вёскі ў гарады на біржы працы.

Тэхнолёгічная лябраторыя Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках знайшла, што цукравыя буракі з савгасу Бабінічы далі 17% цукру, буракі з савгасаў Забалацьце, Высокае далі 17,85% цукру. Буракі Горацкага дасьледчага поля — ад 17,24 да 18,36% цукру. Згодна паведамленьня проф. Ключарова, па % цукру буракі Аршанскіх савгасаў мала ўступаюць бураком Украіны, а па ўраджаю караньплодаў у некаторых выпадках перавышаюць украінскі ўраджай буракоў. Глебы Беларусі, такім чынам, даюць добрыя ўраджаі цукравых буракоў. Для свайго разьвіцьця буракі патрабуюць 160—170 безмарозных дзён і ня менш 1400° Ц. у суме тэмпэратур за ўсе дні. Сярэдняя гадавая тэмпэратура Аршаншчыны значна перавышае патрэбную суму сутачных тэмпэратур. Ні з боку глебы, ні з боку клімату няма ніякіх перашкод для развядзеньня цукравых буракоў у нас, на Аршаншчыне.

Простыя буракі разводзяцца сялянамі для сваёй патрэбы з даўных часоў. Перашкоды для масавых засеваў буракоў могуць сустрэцца толькі ў мэханізаваньні выпалываньня і выкапкі буракоў. Калі-ж палоць лехі з буракамі ўручную, дык гэта вельмі ўдарожыць сыры продукт.

Пакуль аграномы займаліся засевамі і аналізамі буракоў, мы заняліся высьвятленьнем гісторыі цукраварэньня на Беларусі. Папароўшыся ў бібліотэцы Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, у старых часопісах паловы XIX сталецьця, мы напаткалі сьляды цукраварняў на Аршаншчыне і па ўсёй Беларусі. У Аршанскім павеце былі цукраварні ў Крыўках, Забалацьці у 1840—1855 г. У 1843 г. у Магілеўскай губэрні было 3 цукраварных заводы, 1848 г. — 6 заводаў, якія давалі ў год 2900 пудоў цукру (Обзор деятельности Департаменту Земледелия за 1844—1854 г. г. СПБ. 1855 г., ст. 129-130).

Аказваецца, беларускія паны-прамыслоўцы ўжо даўно варылі цукар на ўсёй плошчы этнографічнай Беларусі. Былі цукраварні ў Паўночнай Беларусі, у сучаснай Полацкай акрузе. З чэцьверці буракоў панскія заводы вываравалі 15-16 фунтаў цукру. Прадавалі ў гэты час цукар дорага: пясок $22^1/_2$ кап. фунт, а рафінад 25 кап. серабром за фунт. Выціскі і барду давалі каровам.

Ураджаі буракоў на панскім полі дасягалі 600—1000 пудоў з дзесяціны. Праўда, пад такія засевы не шкадавалі класьці гною. Справа правалілася з-за нізкай тэхнікі, слабай продукцыйнасьці працы прыгонных сялян на заводах, і Украіна перагнала Беларусь.

За сто год тэхніка цукраварэньня далёка пакінула тэхніку панскіх заводаў. Электрычнасьць значна зьніжае сабекошт цукру. З гэтае прычыны ёсьць усе падставы гаварыць аб адраджэньні цукравае прамысловасьці ў Савецкай Беларусі. Незадача панскага цукраварэньня павінна быць улічана і высьветлена, каб з большым посьпехам разгарнуць плянава справу цукраварэньня ў нас.

Д. Васілеўскі.

## Другая Латвійская географічная конфэрэнцыя.

19-га і 20-га чэрвеня ў Рызе адбылася другая Латвійская Географічная Конфэрэнцыя, скліканая з ініцыятывы Латвійскага Географічнага Таварыства. У конфэрэнцыі прыймала ўдзел каля 300 удзельнікаў, як сяброў вышэйназванага Т-ва, гэтак і зацікаўленых географічнымі ведамі і досьледамі асоб, пераважна з профэсуры Латвійскага Унівэрсытэту і шырокіх колаў латвійскага настаўніцтва.

На Конфэрэнцыі было прачытана за 2 дні 29 розных рэфэратаў і дакладаў, большасьць якіх была ілюстравана цікавымі дыапозыты-

вамі, фотографіямі, дыяграмамі і нават кінофільмамі. Пасьля закрыцьця Конфэрэнцыі, а таксама і ў перарывах паміж заняткамі яе было наладжана некалькі цікавых экскурсій у музэі, па Рыскай гавані, у Рыскі дзяржаўны халадзільнік, што пабудаваны па апошняму слову тэхнікі, у обсэрваторыю Латвійскага Унівэрсытэту і інш. Даклады прачытаны былі гэткія:

1. Доц. І. Вокалдэр. Мэтоды гаспадарчае географіі.

2. Інж. А. Янсон. Латвійская трангуляцыя.

3. Інж. І. Лейман. Асаблівасьці топографіі Глуда-Лібаўскага раёну і ўплывы іх на шлях пракладваньня новае чыгункі.

4. І. Вітыньш. Геолёгічна-глебазнаўчыя досьледы аб Глуда-Лібаўскай чыгунцы.

5. Эдв. Янсон. Фэнолёгічныя досьледы расьліннасьці ў Латвіі.

6. Проф. Н. Малта. 5-я міжнародная экскурсія географаў-расьлінаведаў па Чеха-Славакіі і Польшчы ўлетку 1928 году.

7. Гед. Раман. Тыпы географічных ляндшафтаў ад Паўночнага Ледавога акіяну да Сярэдняе Афрыкі.

8. Проф. Е. Краўс. Хваляваньні зямной кары ў Латвіі.

9. Прыв. доц. М. Гутманс. Соль, нафта і гаручы сланец у Латвіі.

10. О. Мельліс. Крышталёвыя палявыя камяні ў Латвіі і межы іх пашырэньня.

11. Доц. Э. Робэнштэйн. Карысныя выкапні ў Латвіі.

12. Проф. І. Купцыс. Мінэральныя воды і дзюны ў Латвіі і іх паходжаньне.

13. Інж. П. Стакле. Гідромэтрычныя назіраньні ў Латвіі.

14. Інж. П. Стакле. Вадзяныя сілы ў Латвіі.

15. В. Озоліньш. Усманскае возера. Лімнолёгічны агляд.

16. М. Скуэнэкс. Географія і статыстыка.

17. Проф. Э. Блессэ. Назовы мясцовасьцяй ў Латвіі.

18. Інж. А. Кюзэ. Мэліорацыя ў Латвіі.

19. Інж. А. Курсіш. Паніжэньне роўні вады ў Лубанаўскім возеры.

20. Эд. Куравуз. Стан латвійскае прамысловасьці.

21. Інж. А. Лабуцін. Організацыя Рыскага порту.

22. Інж. К. Пурнс. Адзначэньне шляхоў караблёў ў латвійскіх водах.

23. Л. Стаўцітайс. Геомагнэтычныя нагляданьні ў Латвіі.

24. Г. Ваўманіс. Аб досьледах клімату Латвіі.

25. І. Варлоціс. Вэгэтацыйны пэрыод у Латвіі.

26. В. Мейзіс. Аб рыбалоўлі і рыбагадоўлі ў Латвіі.

27. Інж. К. Цімушка. Сетка чыгунак у Латвіі і далейшыя заданьні ў іх будаўніцтве.

28. Інш. І. Сіленэкс. Грунтавыя шляхі ў Латвіі.

29. А. Карліванс. Матар'ялы да складаньня мапы Вольмарскай акругі.

Спыніцца на зьмесьце пералічаных дакладаў, з-за вялікага іх ліку і значнага зьместу, няма магчымасьці. Падаўляючая большасьць, як гэта відаць з самых тэм, прысьвечана Латвіі, але ня глядзячы на гэта, многае мае цікавасьць і для нас, беларусаў, як бліжэйшых суседзяў Латвіі, якія маюць з ёй даволі жывыя зносіны.

Усе даклады 2-й Географічнай Конфэрэнцыі будуць выдрукаваны асобнай кнігай. Працы 1-й Географічнай Конфэрэнцыі, што адбылася ў Рызе 19-га і 22-га чэрвеня 1927 году, ужо надрукаваны і складаюць салідную кніжку ў 208 старонак, з рознымі мапамі, дыяграмамі і іншымі дадаткамі, пад назовам „Geografiski raksti". („Географічныя Нарысы"). Сшытак першы. 1928.

У часе Конфэрэнцыі Т-вам была наладжана для прысутных на Конфэрэнцыі ўдзельнікаў безграшовая выстаўка, на якой дэмонстраваліса колекцыі, сабраныя сябрамі Т-ва ў часе падарожжаў па Латвіі і замежамі яе, а таксама фотографіі, географічная літаратура і дапаможнікі. Буйнейшыя рыскія выдавецтвы, кнігатаргоўлі і магазыны школьных дапаможнікаў ў залях таго-ж будынку, дзе адбывалася Конфэрэнцыя, са свайго боку наладзілі рэклямныя выстаўкі навейшых выданьняў, падручнікаў, мап і іншых школьных дапаможнікаў па географіі. Горад Рыга для Конфэрэнцыі даў памяшканьне ў лепшай з сваіх гімназій на вуліцы Валдэмара № 1. У мэтах збору сродкаў для Т-ва за ўваход на Конфэрэнцыю (не на выстаўкі) бралася плата ў памеры двух латвійскіх латаў (каля аднаго рубля на савецкія грошы).

* * *

На заканчэньне варта сказаць некалькі слоў аб самым Латвійскім Географічным Таварыстве.

Таварыства гэта яшчэ маладое. Яно зацьверджана Рыскім Акруговым Судом, які зацьвярджае статуты навуковых і асьветных таварystваў, 16 сьнежня 1922 году, (статуты політычных організацый у Латвіі зацьвярджае міністар унутрашніх спраў), а фактычную працу распачало толькі ў 1923 годзе, гэта значыя шэсць год назад. Таварыства мае 110 актыўных сяброў, 3 сяброў ганаровых і шмат спачуваццеляў з ліку настаўнікаў географіі ў латвійскіх школах.

Т-ва зьяўляецца прыватнаю організацыяй і незалежна ў сваёй працы ні ад ураду, ні ад партыйных груповак, а статут вызначае яго мэты гэткім чынам:

а) пашыраць географічныя веды і досьледы ў Латвіі і па-за межамі яе;

б) вывучаць географію бацькаўшчыны, організоўваючы і праводзячы дасьледчую працу;

в) пашыраць географічную ідэю і вербаваць прыхільнікаў географічнае навукі;

г) арганізаваць настаўнікаў географіі ў Латвіі і дапамагаць ім у географічнай спэцыялізацыі;

д) дапамагаць таварышам географам маральна і матар'яльна".

Шыроказадуманая праца Т-ва ўсё больш пашыраецца і ўмацоўваецца. Зараз Т-ва зьвязана з 40 рознымі замежнымі географічнымі ўстановамі ў Эўропе, Азіі, Афрыцы і Амэрыцы. Супрацоўнічае яно з Ленінградзкімі географічнымі ўстановамі і з Украінскім Географічным і Картографічным Інстытутам у Харкаве.

Наступная 3-я Конфэрэнцыя Географічнага Таварыства намечана ў Дзьвінску. На гэтай Конфэрэнцыі выступяць з дакладамі аб беларусах у Латвіі гр. К. Езавітаў і С. Сахараў. Зробіць даклад з гістарычнае географіі пр. Б. Брэжго. Вельмі было-б пажадана, каб аб розных географічных і геолёгічных назіраньнях у вярхоўях ракі Дзьвіны выступілі з дакладамі беларускія географы і дасьледчыкі з Савецкай Беларусі.

Праз Рыскае Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва Латвійскае Географічнае Таварыства зараз наладжвае сувязь з Беларускім Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук.

К. Езавітаў.

27 чэрвеня 1929 году.
Латвія, Рыга.

## Экспэдыцыя па вывучэчьні помнікаў старасьветчыны г. Полацку.

Нядаўна працавала ў г. Полацку па вывучэньні помнікаў старажытнасьцяй экспэдыцыя габінэту гісторыі матар'яльнай культуры этнолёгічнага факультэту 1-га Маскоўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. На чале экспэдыцыі стаяў вядомы гісторык старажытнага мастацтва проф. Някрасаў.

Экспэдыцыя вывучала наступныя помнікі: дзьве старажытныя царквы XII веку быўшага Барысаглебскага манастыра, старажытны сабор XII в. быўшага Спаса-Ефрасіньеўскага манастыра і памяшканьне Акруговага Краязнаўчага музэю (быўшы Сафійскі сабор, у якім захаваліся рэшткі старажытнасьці XII веку, як напрыклад: старажытная кладка на ўсходняй сьцяне, фрэскі на гэтай-жа сьцяне, адчыненыя пры апошнім рамонце сабору ў 1914 г., а ў падпольлі фундамант і старажытныя слупы з рэшткамі фрэсак). Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя помнікі дэкрэтам Саўнаркому БССР ад 5 ліпня 1926 г. абвешчаны дзяржаўнай маемасьцю і падлягаюць належнай ахове. Экспэдыцыя, у выніку вывучэньня вышэйпамянёных помнікаў старажытнасьцяй, прышла к наступным вывадам.

1) Рэшткі двух старажытных цэркваў быўшага Барысаглебскага манастыра ў аснове сваёй належаць да XII веку і зьмяшчаюць у сабе найкаштоўнейшыя рэшткі фрэскавага малярства таго-ж часу, якія асабліва добра захаваліся ў малой царкве, дзе на ўсходняй сьцяне знаходзяцца старажытныя малюнкі князёў Барыса і Глеба. Фрэскі таго самага часу на тэрыторыі СССР вядомы толькі ў Крыме, Кіеве, Чарнігаве, Уладзіміры, Ноўгарадзе, Пскове, Старай Ладазе і на Каўказе. На Беларусі — гэта самы старажытны і адзіны выпадак.

Неабходна над гэтымі помнікамі зрабіць страху для захаваньня старажытных рэштак. Гэта задача Беларусі перад сусьветнай навукай. Фрэскі па стылю блізкі да Кіеўскіх.

Самыя архітэктурныя помнікі надзвычайна важны для гісторыі будаўніцтва на тэрыторыі СССР.

2) Старажытны сабор у быўшым Спаса-Ефрасіньеўскім кляштары пажадана вызваліць ад культу і выдаліць адтуль усе драўляныя часткі, у тым ліку іконастас, а таксама абразы, бо ўсё гэта з пункту погляду старажытнасьці і мастацтва ніякай цікавасьці ня мае. Пасьля таго помнік патрэбна ўзяць пад музэй і зрабіць там вопыт расчысткі сьцен і адшуканьня старажытных росьпісаў.

3) Неабходна абсьледваць кладку заходніх абсід Сафіі Полацкай,—ці не знаходзяцца там старажытныя часткі.

Што тычыцца васьміграннага тэстамэнту пад падлогаю, дык ён ня быў слупам.

Экспэдыцыя зрабіла шэраг здымкаў і зарысовак старажытных полацкіх помнікаў.

С. Мялешка.

## Разьведачная археолёгічная экспэдыцыя.

13-га чэрвеня г.г. зьвярнулася ў Менск першая разьведачная экспэдыцыя Катэдры Археолёгіі Беларускае Акадэміі Навук.

Экспэдыцыя ў складзе двох маладых аматараў-археолёгаў І. Р. Калодкіна і М. Н. Канвісарова, пад кіраўніцтвам першага, выехала з Менску 3-га чэрвеня па маршруту: Барысаў—Сьвіслач—правы бераг і Свіслач—Барысаў—левы бераг Бярэзіны. Трэба сказаць, што р. Бярэзіна ў археолёгічным стасунку для нас амаль-што не вядома. Як прыклад таго, наколькі берагі Бярэзіны мала вывучаны археолёгамі, можна прывесьці такі факт: матар'ялы, узятыя экспэдыцыяй з сабою для праверкі (месцазнаходжаньне гарадзішч, курганоў) у рэчаіснасьці аказаліся неадпавядаючымі сапраўднасьці ў большасьці выпадкаў. І наадварот: было выкрыта некалькі гарадзішч і шмат курганоў, аб якіх дагэтуль яшчэ нічога ня было вядома. Вось гэтая нявывучанасьць берагоў Бярэзіны і прымусіла Катэдру Археолёгіі накіраваць туды лёгкую разьведачную экспэдыцыю. Вынікі паказалі, што выбар быў зроблены правільна. На жаль, дзякуючы некаторым об'ектыўным прычынам (зморанасьць удзельнікаў, якія рабілі ў сярэднім па 40 кілёмэтраў у дзень), не ўдало-

ся выканаць увесь намечаны плян. Экспэдыцыя дайшла да вёскі Сьвятлана, што за м. Бярэзіна. Такім чынам, экспэдыцыя не дайшла кавалак па правым беразе, і ўвесь левы ад Сьвіслачы да Барысава. У бліжэйшы час выяжджае новая экспэдыцыя, магчыма ў тым-жа складзе, якая і дакончыць абсьледаваньне.

Усяго экспэдыцыя прайшла да чатырохсот клм., бо ішла ня толькі па беразе Бярэзіны, але і адхілялася ў бок. Па беразе, у простым напрамку, было пройдзена каля ста кілёмэтраў.

За адзінаццаць дзён экспэдыцыя дасьледавала і апісала наступныя археолёгічныя помнікі:

### 1. Стаянкі і выпадковыя здабыткі каменных прылад.

Па дарозе з вёскі Мурава ў вёску Снуя' на полі на ўзвышаным месцы, гады два таму назад сяляне выаралі каля чатырох гарцаў краменных абломкаў, сярод якіх напэўна было нямала краменных прылад, бо нават цяпер, праз два гады, экспэдыцыі ўдалося здабыць 2 краменных кліны, з якіх 1 вельмі вялікі і прыгожай апрацоўкі, пласток — пілу, а таксама некалькі іншых прылад і шмат абломкаў. Гэты факт знахаджэньня на адным месцы да чатырох гарцаў краменных абломкаў дазваляе зрабіць дапушчэньне, што ў даным месцы знаходзілася першабытная майстэрня краменных прылад.

Правы бераг р. Бярэзіны зьяўляецца высокім, узьнёслым; у гэтым крыецца прычына, што апроч апісанай стаянкі іншых ня было знойдзена.

Тут-жа трэба сказаць і аб выпадковых здабытках экспэдыцыяй прылад позьняга каленнага веку. У пас. Мураў Замак сялянкай мыў перададзены экспэдыцыі абух каменнай бякеркі, які яна атрымала ў спадчыну і скі захоўвала каля 40 гадоў. Калі прыняць яад увагу забабоны сялянства адносна капенных прылад („пяруновыя стрэлкі“, якія лечаць ад усякіх хвароб), дык такі факт робіць вельмі прыемнае ўражаньне. Зусім іншыя адносіны экспэдыцыя сустрэла з боку „культурнага“ чалавека, вясковага інтэлігента, настаўніка Кучынскага ў пасёлку Новая Уша. У гутарцы з ім экспэдыцыя выявіла, што ў гэтага настаўніка ёсьць некалькі каменных прылад; на просьбу перадаць іх экспэдыцыі з мэтай накіраваньня ў Дзяржаўны Музэй, ён адмовіўся гэта зрабіць. Толькі пазьней выявілася, што дзьве прылады перададзены яму настаўніцай тэй-жа Нова-Ушанскай школы Прадзедавай, якая з вялікай ахвотай згадзілася перадаць знойдзеныя ёю рэчы экспэдыцыі. Адзін каменны клін, знойдзены на гародзе ў часе поліва градак, настаўніца сама перадала экспэдыцыі, а рэшту прылад экспэдыцыя забрала ў Кучынскага на падставе дазволу настаўніцы. Такім чынам, у пас. Новая Уша атрымана прыгожая сякера фацьянаўскага тыпу (да рэчы, папсутая ў Кучынскім, бо ёю забівалі цьвікі), якая належыць да бронзавага веку, і каменны клін. У настаўніка Кучынскага апроч таго засталася палова каменнай сякеры, якой ён ня прыдумаў лепшага прызначэньня, як толькі разьбіваць крэйду ў школе. Гэты абломак Кучынскі так і не згадзіўся перадаць экспэдыцыі.

З выпадку з настаўнікам Кучынскім відаць, што ня ўсе тыя людзі, якія павінны служыць асновай краязнаўчага руху, разумеюць усю неабходнасьць вывучэньня свайго краю.

### 2. Гарадзішчы і селішчы.

Усяго дасьледвана гарадзішч 6; з іх 4 нанова выяўленых і 2 вядомых па матар'ялах, узятых з сабою. Гэтыя гарадзішчы знаходзяцца каля в. Горы (уроч. „панскія замкі“), засьц. Бегі (уроч. Гарэлікі; гарадзішча завецца „Гара“, „Высокая Гара“), в. Навасёлкі (завецца „Замчышча“), пас. Мураў Замак (Завецца „Замак“ або „Пагулянка“), пас. Новая Уша (вур. Козы“) і каля в. Лысуха. Формы гарадзішч самыя рознастайныя: сустрэліся чатырох і трохкутныя, адно круглае, адно яйкападобнае і г д. Найвышэйшае гарадзішча знаходзіцца каля пас. Мураў Замак; яно мае ў вышыню ад паверхні р. Бярэзіны 23 м.; самае маленькае — гарадзішча каля пас. Новая Уша, якое мае ў вышыню толькі 6 м. Адпаведна вышыні, найбольшыя памеры мае пляцоўка гарадзішча каля пас. Мураў Замак (50×54 м.), а найменшыя — каля пас. Новая Уша (20×29 м.). Усе гарадзішчы маюць па некалькі валоў добрай захаванасьці, а некаторыя і равы; уваходы маюць ня ўсе. Гарадзішчы каля в. Навасёлкі і пас. Мураў Замак папсуты акопамі, а каля в. Лысуха гарадзішча разворваецца, з якой прычыны культурныя пласты пераблытаны і памеры іх цяжка вызначыць. Навасёлкаўскае гарадзішча апроч таго падмываецца Бярэзінай і частка яго назаўсёды згублена для археолёгіі.

На кожным гарадзішчы закладаўся пробны шурф памерам у сярэднім 1×1 м. Усе гарадзішчы далі выключна лепленую кераміку (штрыхаваную), аналёгічную з керамікай Банцараўскага гарадзішча пад Менскам (раскопкі С. А. Дубінскага). Апроч таго на гарадзішчах знойдзены прасьліцы, грузілы, косьці, шлак, вугальле і згусткі апаленай гліны і інш. На гарадзішчы каля в. Горы, у шурфе, акрамя таго знойдзены кавалак краменнага пластка і каля Мурава Замку — кавалак крамен. пілы. У шурфе на гарадзішчы каля пасёлку Мураў Замак была заўважана ямка з рэдкай каменнай кладкай. Гарадзішча каля в. Лысуха, раскопвалася некім у дзевяцісотых гадох, як аб гэтым расказвалі сьведкі сяляне.

Каля гарадзішча пас. Мурава Замку сяляне знайшлі калісьці два ядры; гэтыя ядры яны перадалі экспэдыцыі.

З паўночна-заходня-паўдзённага боку гарадзішча каля в. Лысухі ёсьць селішча. Знай-

дзена на ім кераміка, аналёгічная з гарадзішчанскай.

Таксама кераміка знойдзена сярод балота на N ад в. Восава. Мажліва, што і тут было селішча.

Апроч таго экспэдыцыя абсьледвала Дзям'янаў і Бабровы груды і дзюну паміж в. Снуя і пас. Новая Уша. Нічога знойдзена ня было.

### 3. Курганы.

Усяго дасьледвана, г. з. падлічана і нанесеса на плян, 571 курган. Курганы зьмяшчаюцца або вялікімі ці малымі групамі, або адзінкамі. Найвялікшая група знаходзіцца каля пас. Мураў Замак (107 курганоў), далей ідуць групы ў 103, 72, 63, 41, 25, 22 курганы і г. д. Адзін курган каля в. Мураў Замак быў раскапаны; знойдзены касьцяк і некаторыя рэчы аздобы.

Апроч курганаў дасьледваны вельмі стары магільнік. Вецер, раскідаючы пясок, адкрывае касьцякі. Экспэдыцыя заўважыла чэрап, які выглядаў з пяску і раскапала гэтае месца. Быў знойдзены цэлы касьцяк.

У заключэньне трэба сказаць, што значная частка (да 75—90% (у некат. групах курганоў разворана і разворваецца. Робіцца незразумелым, для каго і для чаго быў выдадзен урадам.), збор закон. і заг. за 1926 год, 3-VIII № 28) закон аб ахове помнікаў старасьветчыны. Няўжо толькі для таго, каб гаварыць, што толькі закон ёсьць? І нарэшце, для чаго існуе Галоўнавука, якой даручана ахова ўсіх помнікаў? Гэтае пытаньне, пытаньне аховы помнікаў, трэба раз і назаўсёды паставіць вельмі востра, бо развораныя курганы і гарадзішчы ўжо больш *ніколі* не адновяцца. А разворваюцца яны направа і налева. Захавайце-ж, каму належыць аб гэтым паклапаціцца, для навукі нашыя помнікі старыны!..

Анат. Рынейскі.

## Па колгасах Азарыцкага раёну.

*(Мазыршчына).*

21 жніўня г. г. асьветнікі ў складзе 9 асоб па ініцыятыве Азарыцкага р. м. к. саюзу працасьветы і праўленьня раённага краязнаўчага т-ва наладзілі аднадзённую экскурсію ў колгасы: яўрэйскі, імя Мясьнікова, і Прасьвет для азнаямленьня з становішчам паказаных колгасаў і збору патрэбнага матар'ялу для прадстаячай працы ў школе.

Абодва колгасы знаходзяцца ў Людзьвінаўскім с/с. Азарыцкага раёну, на адлегласьці 20 клм. ад раённага цэнтру—м. Азарыч. Колгас імя Мясьнікова організаваны ў 1922 годзе пад назвай „арцель Судзьба". Пры організацыі ў арцель уступіла 16 сям'яў выключна яўрэйскіх з Слабады Давыдаўкі, што на адлегласьці 0,50 вярсты ад месца арцелі, былога маёнтку Еўтушкавічы. Склад арцелі некалькі разоў мяняўся: адны выходзілі, другія ўступалі, часта спрачаліся, і працы сталай ня было. Паўстала пытаньне аб каранной рэорганізацыі арцелі і падбору больш устойлівага элемэнту з бедняцка-серадняцкіх мас. Такая рэорганізацыя зроблена ў 1928 годзе, калі арцель пераведзена на колгасны статут і пераіменавана ў колгас імя Мясьнікова.

Пасьля рэорганізацыі і пачынаецца сталая праца ў колгасе. Зараз ён складаецца з 6 сем'яў з лікам 29 чалавек, з якіх дарослых мужчын 8 і жанчын 6, а астатнія падросткі і дзеці. Ужыткоўнасьці колгасу складаюцца: воранае зямлі 80 гэкт., сенажаці 120 гэкт., з якіх да 50 гэкт. — зарасьлі і выган. Усё гэта ў адным кавалку. Маецца сад да 3 гэктараў, але ён запушчаны. Зараз распачата праца да пасадкі новых дрэў. Пасеўная плошча колгасу: жыта 15 гэкт., аўсу—6, бульбы—6, грэчкі—4, 5, ячменю—1, вікі з аўсом—3, канюшыны—3 і лубіну—9. Ураджаі жыта, аўсу, ячменю, вікі, грэчкі і канюшыны ўжо сабраны, і вынікі пакуль што маюцца па жыту—70 пуд. з гэкт., а астатнія культуры яшчэ не абмалочаны. Канюшына ў гэтым годзе не ўдалася. Грэчка і бульба расьце добра, але адсутнасьць дажджоў у апошнія часы адаб'ецца на ураджаі паказаных культур у адмоўны бок. Для ўгнаеньня прымяняецца: гной ад жывёлы, суперфасфат, калінайная соль і лубін. Засеў і ўборка ўраджаю ў большасьці праводзіцца машынамі. У колгасе маецца сеялка, жняярка, малатарня, арфа, саламарэзка, 8 плугоў, 6 барон, 2 акучнікі і інш. — З жывёлы ёсьць 8 коняй з іх 1 жарабец „поўардэн", 33 дойных каровы палепшанае пароды, 15 штук маладняка, 1 бугай, 3 дарослых сьвіньні і 10 парасят; свіньні вельмі добрай пароды „ёркшырскае". Трымаецца жывёла і свіньні ў добра абсталяваных хлявох, маюцца кармушкі. Корм выдаецца па норме. Жарабцом, бугаём і хракам колгас абслугоўвае патрэбы акаляючых сялянскіх гаспадарак, прычым для бяднейшых зусім бясплатна. Малако колгас здае на перапрацоўку ў Давыдаўскую малочную арцель.

З будынкаў у колгасе ёсьць дом з дастатковаю колькасьцю кватэр для наяўных сем'яў, гумно, кароўнік, сьвінарнік, стайня і амбар. Большасьць будынкаў збудавана ў 1928 і 1929 г. Кватэры для кожнае сям'і складаюцца з кухні і 1 пакою з агульнаю плошчаю 7×7 м. Настрой колгасьнікаў бадзёры. Яны вельмі ўважліва аднесьліся да нашага наведваньня і з ахвотаю паказвалі нам сваю гаспадарку і апавядалі пра сваё жыцьцё і працу. Казалі, што ім, як яўрэям, якія ў мінулым на зямлі працаваць ня мелі магчымасьці, спачатку было цяжка прывыкаць і вучыцца працаваць каля зямлі. Зараз яны ўжо самі навучыліся араць, баранаваць, жаць і весьці іншую працу. Дрэнна покуль што з касьбою. Самі косяць слаба, і гэта прымушае іх наймаць падзеньнікаў на касьбу.

У бягучым годзе колгас мяркуе прыняць яшчэ 4 сям'і. Жадаючых у колгас ёсьць многа.

Кіруецца калгас праўленьнем на чале з старшынёю Шульманам (партыец). Ён энэргічны і дзелавы чалавек, карыстаецца належным аўторытэтам сярод колгасьнікаў. Задоўжанасьці па крэдытах колгас мае да 10000 руб. на розныя тэрміны. Спадзяюцца ў бягучым гаспадарчым годзе пакрыць задоўжанасьць на 25%. Наогул, аб колгасе можна ўпэўнена сказаць, што ён упаўне жыцьцёвы, сябе апраўдвае і служыць прыкладам для акаляючага насельніцтва. Гэта можна бачыць ужо з таго, што насельніцтва акаляючых вёсак арганізавала ў 1928 годзе 3 новых колгасы ў Людзьвінаўскім с-с.: „Прасьвет“ у былым маёнтку Гарвата, „Колектывіст“, у былым маёнтку Крупіцы і „Новы быт“ на надзельных землях в. Людзьвінаўкі.

Колгас „Прасьвет“, які таксама наведалі экскурсанты, організаваны ў 1928 годзе з 10 сем'яў, але 3 з іх вышла з колгасу і засталося зараз 7 сем'яў з 42 ядунамі. Дарослых рабочых 17, жанчын—10 і падросткаў—дзяцей 15. Зямля колгасу ляжыць пры „Кацярынінскім“ шляху, што ідзе з г. Мазыра на Жлобін. Складаецца яна з 88 гэктараў пахаці, сенажаці 79, выгану—40, сялібы—3 і саду—7 гэкт. Сад знаходзіцца ў здавальняючым стане, абгароджаны. Ураджаі сёлета сярэднія.

Засеена ў колгасе: жыта 13 гэкт., аўсу—8, бульбы—6, лёну—3, ячменю—1, вікі—2, канюшыны і лубіну—2$^1/_2$ Ураджай у большасьці ўжо сабраны. Жыта дало 55—60 пуд. з гэктара. Коняй 6 мясцовай слабасільнай пароды, кароў 26, 1 бугай мясцовай сялянскай пароды. Сьвіньні таксама мясцовыя, але колгасьнікі дагаварыліся з колгасам імя Мясьнікава аб набыцьці ад іх добрых сьвіней.

Утрыманьне жывёлы яшчэ не ўпарадкавана, хлявы без кармушак, харч выдаецца не па норме, а сьвіней нават кормяць у хатах—кожны „свае“.

Колгас, як нядаўна організаваны, адзначаецца слабаю пастаноўкаю працы, асабліва з організацыйнага боку. Патрабуецца сталая дапамога з боку адпаведных устаноў і організацый, а асабліва ад аграноміі. Культурны ўзровень колгасьнікаў досыць адсталы: у хаце самога старшыні колгасу мы бачылі 2 абразы, карыты з кормам для сьвіней. Гутарка на гэтую тэму з старшынёю дужа засмуціла яго, і ён абяцаў у хуткім часе зьнішчыць гэта.

У колгасах „Новы быт“ і „Колектывісты“ пабываць нам ня было часу. Аб іх мы даведаліся, што ў „Новым быце“ праца пастаўлена дрэнна: туды папала частка заможнага элемэнту, які мяшае сталай працы. Мясцовыя організацыі і ўстановы паставілі пытаньне аб пераглядзе складу колгасаў.

У заключэньне трэба адзначыць, што ўражаньне асьветнікаў-краяведаў ад экскурсіі ў колгасы наогул добрае. Асьветнікі сказалі, што яны відавочна бачылі перавагу колгасу перад індывідуальнаю гаспадаркаю і ў далейшым абяцаюць яшчэ больш шырыць грамадзкую думку аб колектывізацыі вёскі.

Т. Кулакоў.

# Краёвая бібліографія.

*Працяг* [1]).

Пачынаючы з пятага нумару „Нашага Краю“ гэтага году, рэдакцыя дае краёвую бібліографію, каб памагчы мясцовым краязнаўцам і наогул шырокім масам працоўных знаёміцца з ужо сабранымі і апрацаванымі весткамі пра паасобныя краі БССР. У гэтым разьдзеле ўжо зьмешчаны сьпіс папярэдніх паказчыкаў краязнаўчай літаратуры, сьпіс прац агульных для некалькіх краёў і сьпіс прац аб Аршаншчыне („Наш Край“ 1929, № 5, ст. 59—63; № 6-7, ст. 90—93). Далей будуць давацца сьпісы літаратуры аб іншых краёх у альфабэтным парадку акруг. Рэдакцыя спадзяецца, што гэтыя матар'ялы, разам з раней апублікаванымі ў часопісе паказчыкамі, будуць карысны ў мясцовай краязнаўчай і політасьветнай працы і могуць стаць асновай бібліографічнай краязнаўчай картатэкі мясцовых бібліотэк і мясцовых краязнаўчых організацый.

У данай краёвай бібліографіі рэдакцыя дае сьпіс літаратуры рэволюцыйнага часу і то найбольш каштоўнай і найбольш даступнай шырокім колам. Паказваньне рэдкіх выданьняў мела-б значна меншае значэньне таму, што на мясцох іх амаль не магчыма знайсьці.

Мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны паклапаціцца, каб у мясцовых бібліотэках абавязкова была ўся паказаная ў нашых сьпісах літаратура, а таксама—сваімі сіламі дапоўніць іх як выпісваньнем новых матар'ялаў з памянёных у сьпісах выданьняў, так і іншых, уключаючы дарэволюцыйныя выданьні і газэты.

### Бабруйшчына.

Азбукін, М. і Немцаў, А. Мястэчка Асіпавічы, Бабрускай акругі. [Апісаньне]. Асіпавіцкі р. Бабр. акр. 928. Вып. II, с. 37—61. 3 малюнк. 1 табл.

А. М. Краткий экономический обзор Слуцкого округа. Асьвета. 927. № 1. с. 187—195.

Асіпавіцкі раён, Бабруйскае акругі. Краязнаўчае апісаньне. Менск 928. Вып. II, с. 88. I т.

Асіпавіцкі раён, Бабруйскае акругі. Краязнаўчае апісаньне. Менск. Выд. Інбелкульту. 928 Вып. I. Прырода. с. 152, 2., 2 карты.

Аўчыньнікаў, І. Прэснаводныя молюскі Асіпавіцкага раёну. Асіпавіцкі р. Бабруйск. акр. 928. Вып. I. с. 144—152. 2 фот.

Б. А. Организация кормовай площади, как животноводственной базы в Бобруйском округе. Сав. Буд-ва. 927, № 4. с. 152—160.

Бабіцкі. З працы Турскай дасьледчай станцыі. Плуг. 925. № 10-11. с. 16—18.

Бабицкий, Б. А. Краткий обзор деятельности Турской С.-Х. Опытной станции за 1924-25 г. с.-х. год. 1. Полевые опыты за 1924-25 с.-х. год. 2. Из работы отдела Экономии и Применения. 3. Конспект плана работ научн. отделов на 1925-26 с.-х. год. Бобруйск. (-Н. К. З. Б. С. С. Р. Турская С.-Х. Опытн. Станция). 926. 41 стр.

[...Бабруйская Акруговая Краязнаўчая Конфэрэнцыя, адбылася [20-21. лютага]. Наш Край. 926. № 2-3. (5-6). Хроніка. с. 86—88.

Багдановіч, Х. Як мы жывем. (Рагачоўскі пэдтэхнікум). Чырв. Сьцяг. 925. № 7. с. 81.

Б. Н-н. Арганізацыя Рагачоўскага падрайёну кампартыі Літвы і Беларусі ў 1918 годзе. Бальш. Бел. 928. № 12. с. 94—96.

Бажкоў, Д. Азяранская школа за 135 г. яе існаваньня. [Бабруйская акруга]. Асьвета. 926. № 3. с. 147—156.

Бобруйская уездно-городская конференция союза Всемедикосантруд от 3.-VII. Бабруйск. Медиц. Изв. 922. № 1-2 (2—4). с. 50-51.

Брансбург. Как работает Бобруйская парторганизаця. Вперед. 924. № 2. с. 88—92.

Бранц. М. Даходнасьць некаторых культур на балоце Старобінскага яўрэйскага мэліорацыйнага т-ва за 1927 г. Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 5. № 2. с. 80—82. Хроніка.

Брыгневіч. Тэзісы дакладу Акнарасьветы Бабр. акругі. (Да акруговага зьезду Саветаў). Асьвета. 925. № 5. с. 96—115. Хроніка.

Бурштейн, М. У. проф. Матар'ялы да вывучэньня садоўніцтва БССР. III. Пладовы асортымэнт Случчыны. Працы Навук. Т-ва па вывуч. Бел. 928. т. 5. с. 171—184.

---

[1]) Працяг. (Пачатак гл. „Наш Край“ 1929, № 5, ст. 59—63; № 6—7, ст. 90—93).

Бэрэн-штэйн, Б. Дасягненьні сампрамкаапэрацыі Бабруйскае акругі за 1927-28 апэрацыйны год. Шлях коопэрац. 928. № 12-13. с 47—51.

В Бобруйском Окружкоме КП(б)Б. (Из отчета за июль и август месяцы). Вперед. 924. № 1. с. 56—59.

Воўк-Левановіч, О. Н. Важнейшыя рысы—гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворкі ваколічных вёсак. Зап. Аддз.Гум. Навук І.Б.К. 928. кн. 2. с. 147—188.

Высоцкий, Г. Н. Первые водомерные исследования на Жорновском участке Белорусской Лесной Опытной Станцыі. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С.-Г. 925. сш. 6. с. 76—111. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Высоцкий, Г. Н., Савич Лидия; Савич, В. П. По Южной Белоруссии. Наблюдения при ботанической экскурсии. Рогачев—Буда Кошельская. Зап. Бел. Ін-ту С.-Г. 925. сш. 4. с. 160—209. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Ганжа, Б. О Старобинском еврейском мелиоративном т-ве. Сав. Буд-ва. 926. № 8-9. с. 254—262.

Ганжоўскі, Л. і Канавальчык, Н. Аб прыладах для лову рыбы ў ваколіцах Рагачеву. Наш Край. 928. № 6-7. с. 37—41.

Гормизе, И Л. Стекольная промышленность Бобруйского района. (По материалам НК РКИ Белоруссии). Нар. хоз-во Бел. 923. № 3. с. 53—62.

Гарбач, А. Д. Как, у кого и чем лечится современная деревня (дер. Шаловичи, Ленинского с./с. Слуцкого р. и окр. (из хирург. кружка проф. С. М. Рубашова). Бел. Мэд. Думка. 926. т. II. № 12-13. с. 66—70.

Гартны, Ц. У сялянскіх гушчах. Случчына. (Уражаньні з падарожжа). Полымя. 925. № 4. с. 173—184.

Гельфанд, Б. Л. Организация Здравоохранения в Бобруйске и уезде. Бобруйские медицинск. извест. 922. № 1-2. (2—4). с. 13-14.

Г-віч. З жыцьця і працы Слуцкае гарбарнае арцелі „Адраджэньне". Шлях Коопэрац. 928. № 12-13. с. 65—67.

Голодц, Н. И. д-р. Венерические болезни в Бобруйском гарнизоне. (Опыт обработки анкеты). Бобруйск. медицинск. извест. 923. № 4. с. 23-24.

Грамыка, М. Па Случчыне. (З уражаньня школьнага інспэктара). Вестн. Нар. Ком. Просв. ССРБ. 922. №. 11-12. с. 842.

Гурвич. Д-р. Вакцинация против скарлатины в Бобруйском округе за 1926-27 г. Бел. Мэд. Думка 928. № 1. с. 48—55.

Гурвич, Д-р. Банное дело в Бобруйском округе. Бел. Мэд. Думка. 926. т. II. № 12-13. с. 138—141.

Гурвич, окрсанврач. Проведение противоскарлатинозных прививок по Бобруйскому округу. Бел. Мэд. Думка. 926 т. II. № 10-11. с. 116-117.

Гурвич, Л. д-р. Месяц работы в Кличевском районе. Бел. Мед. Думка. 925. т. I. № 6—9. с. 257—261.

Гурвич, Л. Санитарное состояние Бобруйского округа и оздоровительные мероприятия за 25—27 годы. Бел. Мэд. Думка. 928. № 6-7. с. 17—23.

Гэмбіцкі, І. К. Валочная памера Бабруйскага староства ў XVII ст. Наш Край. 926. № 12(15). с. 10—22.

Даўгяла, З. І. Места Сьвіслацкае ў 1560 г. Наш Край. 928. № 6-7. с. 33—37.

Даўгяла, Зьм. Ів. Сьвіслацкі замак у 1560 г. [Бабруйшчына]. Наш Край. 927. № 6-7. с. 60—64.

Даўгяла, Зьм. Ів. Сьвіслацкая воласьць з 1560 г. Наш Край. 927. № 12. с. 21—37.

[... Дасягненьні Слуцкага т-ва [Краязнаўства]. Наш Край. 926. № 10-11. (13-14). Хроніка с. 75-66.

Диаконенко, С. Слуцкая лошадь. Белорусская Ветеринария. Витебск. 926. № 7—9. с. 49 50.

Дыяконенка, С. Слуцкія коні (з абсьледваньня каняводзтва ў Слуцкай акр.). Плуг. 926. № 12. с. 4—6.

[...Доклад Бобруйского Окружного Исполнительного Комитета к предстоящим районным с'ездам советов. (Март 1927 г.) Бюл. СНК. БССР. 926. № 4. с. 64—75.

Драздоў, М. Галоўныя вынікі з працы Турскай сельска-гаспад. дасьледч. станцыі за 1926 г. Рагачэў. Турская с.-г. дасьледчая станцыя. 927. с. 57. 2 карты.

Жарин, М. „Глистные заболевания глаз рогатого скота в Бобруйском уезде". Бел. Ветеринария. 924. № 1. с. 22-23.

Жарин, М. И. Эпизотический лимфагонт в Бобруйском округе и меры борьбы с ним. Бел. Ветеринария. 925. № 3(4). с. 12—18.

Зьбіткоўскі, М. Аб морве і гадоўлі шаўкоўнага вусеня ў Слуцкай акрузе. Наш Край. 926. № 1(4). с. 29.

Зьбіткоўскі, М. Геоботанічная карта Слуцкае акругі. Злажыў... Маштаб: 1.420.000 Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. I. 927.

Зьбіткоўскі, М. Кароткі нарыс расьліннасьці Асіпавіцкага раёну. Асіпавіцкі р. Бабруйскі акр. 928. Вып. I с. 95—105.

Зьбіткоўскі, М. Справаздача аб дасьледваньні Слуцкае акругі ў 1925 г. [Флёра]. Мат. да вывуч. флёры і фаўны Бел. т. I. 927. с. 93—143. 1 карта.

Зянюк, Я. З кіем па раёну. (Грозава, Слуцкай акругі). Наш Край. 926. № 8-9. (11-12). с. 62.

Исторический очерк возникновения и 2-х годичного существования Бобруйского Уездотделения Союза Всемедикосантруд. Бобруйск. Медиц. Изв. 922. № 1-2 (2—4) с. 48—50.

Іошык, С. Нашы дасягненьні. (Бабруйскае акруговае т-ва). [Паляўнічых]. Паляўнічы Бел. 928. № 2(7). с. 30-31.

И. Ф. Обзор научной деятельности секции врачей Бобруйск. отдела. Всемедикосантруд за первую половину 1921 года. Бобруйск. Медиц. Извест. 921. вып. I. с. 12-13.

Кабакоў, Н. Праца нашага акруговага праўленьня працасьветы. (Бабруйск). Асьвета. 925. № 1. с. 181—183. Хроніка.

Казарновский. Рагачевская уездно-городская организация РКП. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 44. с. 49—54.

Каменштейн, С. Бобруйская организация КПБ. Вперед. 923. № 2-3. с. 39—43.

Капыльскі раён. (Па матэрыялах з дакладу РВК). Бюл. СНК. БССР. 925. № 9. с. 61—65.

Каракін. Стружачная вытворчасьць у м. Глуску, Бабруйск. акругі. Наш Край. 926. № 2-3 (5-6). с. 51-52.

Карпека. Асобньʼя моманты работы з беднатой на Глускаму раёну. Бальш. Бел. 928. № 9. с. 65—67.

Карунчык, М. сел. Дасягненьні Кастрычнікавага мэліорацыйнага т-ва. [Вёска Сьвятое, Жлобінскага р.]. Плуг. 926. № 9. с. 7-8.

Касаткин, В. Г. Почвы Жорновского участка Лесной Опытной Станцыі. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С.-Г. 925. сш. 6. с. 61—75. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Катушкин. Унутрывыхаваўчая праца ў Бабруйскай арганізацыі. Бальш. Бел. 927. № 6. с. 24—29.

К. Г. Бабруйская Белашвейная арцель „Абʼяднаная работніца". Шлях Коопэрац. 928. № 12-13. с. 69-70.

Клебанаў, Н. Што паказалі папярэднія вынікі самакрытыкі па Бабруйскай акрузе. (Бабруйская акруговая парторганізацыя). Бальш. Бел. 928. № 11. с. 99 101.

Камлік, С. Дасягненьне ў працы Дзераўцоўска-Паплаўскага мэліорацыйнага т-ва. (Асіпавіцкі раён). Плуг. 926. № 8. с. 35-36.

Конюхаў, Н. Праца сярод вясковай беднаты. (Бабруйская акруга). Бальш. Бел. 927. № 5. с. 51—57.

Конюхов, Н. Г. Техническая сельская ячейка КП(б)Б. (Бобруйского округа, Рогачевского района). Вперед. 924. № 3. с. 64-65.

Корольков, Ф. А. д-р. Глазные болезни в Бобруйском округе. (Выдержки из доклада, прочитанного на Бабруйской окружной конференции врачей 1925 г.). Бел. Мэд. Думка. 925. т. II. № 1-2, с. 34—41.

Б. Краткий экономический обзор. Бобруйского округа. Сав. Буд-ва. 927. № 2. с. 197—206.

Крылов, И. Краткий обзор научн. совещания Бобруйск секции врачей. Бобруйск. медицинские извест. 923. № 4. с. 42.

Лісоўскі. Перамога на трэцім фронце. (Бабруйшчына), [Ліквідацыя няпісьменнасьці]. Асьвета. 926. № 3. с. 148—153.

√ Маслакавец, Г. Г. Клімат Асіпавіцкага раёну. Асіпавіцкі р. Бабруйск. акр. 928. Вып. I. с. 73—94.

Материалы к вопросу о состоянии частного капитала в Бобруйском округе. (По данным Бобруйского окрфинотдела). Сав. Буд-ва 927. № 1. с. 196—198.

Мац, А. Сʼезд медработников Бобруйского уезда (2-3. IV. 1922г.). Бобруйск. медиц. извест. 922. № 1-2. (2—4). с. 59-60.

Мац, А. Шестая Конференция Бобруйского Уст. Союза. [Медикосантруд]. Бобруйск. Медиц. Изв. 923. № 4. с. 41-42.

Мацьвяёнак, Я. Пытаньня краязнаўства ў Рагачоўскім пэдтэхнікуме. Асьвета. 924. № 2. с. 147-148.

Мікас. Аб слуцкіх паясох. Маладняк. 927. № 5. с. 87—91.

Мікіцін, М. Кірмаш ў м. Клічаве Бабруйскае акругі. (19.1. 1928). (Спроба вывучэньня зроблена вучнеўскім гуртком краязнаўства пры Клічаўскай сямігадовай школе). Наш Край. 928. № 4. с. 33—35.

Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч і Ажэўскі. Падарож па Случчыне. (Матарʼялы краязнаўчай экскурсіі Слуцкага Краязнаўчага Таварыства, якая адбылася ў 1927 годзе на працягу часу з 6—21 ліпня). Наш Край. 928. № 2. с. 24—44; № 3, с. 28—37.

Мікіцінскі, У. Слуцкі раённы Краязнаўчы Музэй. (Кароткае апісаньне). Наш Край. 928. № 1. с. 22—29.

Морзон, В. Воспоминания о работе в земстве в пределах Бобруйского уезда. Бел. Мэд. Думка. 928. № 6-7. с. 43—45.

Морзон, врач. Краткий отчет о деятельности хирургического отделения Бобруйск. Советск. больницы за 1925 г. (зав. хирург. отд. Морзон). Бел. Мэд. Думка. 926. т. II. № 4—6. с. 143—150.

Навумаў, В. Беліцкая малочная арцель імя Леніна. (Бабруйская акруга). Плуг 925. № 2. с. 41—43.

√ Немцаў, А. В. Журавец. (Ясенскага с./с. Асіпавіцкага раёну.) [Апісаньне]. Асіпавіцкі р. Бабр. акр... вып. II, 1928 г.

Немцаў, Ал. Вясельле. Запісана ў в. Смык.-Слабада Зборскага сельсавету і в. Заручэўе Дзераўцоўскага сельсавету ў студзені-лютым 1927 г. Асіпавіцкага раёну [з нотамі]. Наш Край. 927. № 4. с. 32—42.

Найденов, Н. Из результатов тридцатилетнего разведения швицкого стада на Горецкой ферме. Зап. Горецк. С.-Х. Ин-та. 926. т. III. с. 215—250. [Тэзісы на нямецк. яз.].

На Случчыне [Першая Акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя 23 кастрычніка 1926 г.]. Наш Край. 926. № 12 (15). с. 73—75. Хроніка.

Некрашэвіч, А. Некалькі слоў аб паўгадовай працы па Дальтон-пляну ў Бабруйскай сов. парт. школе. Асьвета. 925. № 5. с. 27—29.

√ Немцаў, А. Гураган 12 чэрвеня 1927 г. Бабруйшчына, Асіпавіцкі раён. Наш Край. 927. № 6-7. с. 48—52.

Немцаў, А. Замоскі сельсавет, Асіпавіцкага раёну, Бабруйскае акругі. (Краязнаў-

чае апісаньне). Наш Край. 927. № 6-7, с. 19—47.

Немцаў, А. Зборскі сельсавет. [Апісаньне]. Асіпавіцкі р. Бабр. акр. 928. Вып. II. с. 3—36.

Немцаў, А. З матар'ялаў абсьледваньня Асіпавіцкага раёну. Наш Край. 927. № 1. с. 51—54.

Немцаў, А. Помнікі старасьвеччыны ў Асіпавіцкім раёне. Асіпавіцкі р. Бабр. акр. 928. Вып. II. с. 79—88 з малюнк.

Немцаў, А. Праца па абсьледваньні Асіпавіцкага раёну ў летні пэрыод 1926 году. Наш Край. 926. № 12 (15). с. 69—71. Хроніка.

Немцаў, А. Спасабы лову жывёл і птушак у Асіпавіцкім раёне. Наш Край. 927. № 5. с. 29—32.

Нямцоў, А. Экскурсія вучняў Асіпавіцкай сямігодкі. (Матар'ялы, прысланыя Асіпавіцкім Раённым Таварыствам Краязнаўства). Наш Край. 925. № 2-3. с. 21—25.

[... Об'единенное научное совещание Бобруйских врачей и педагогов. Бобруйские Медицинск. Извест. 922. № 1-2 (2—4). с. 36—38.

Ок — Юз. Жилищное строительство в Бобруйщине. Шлях Коопэрац. 928. № 3. с.56.

Отчет Бобруйского Окружного Комитета КП(б)Б. К третьей Окружной Партийной Конференции. Бобруйск. 926. с. IV. 104.

Отчет о деятельности Комитета Бобруйской Окружной Касы Социального Страхования за время с 1 окт. 1924 г. по 1 окт. 1925 г. Бобруйск. 39 ст.

Отчет о деятельности Слуцкого Окрисполкома за прошлый оперативно-хозяйственный год и план работ на будущий год. Бюл. СНК БССР. 925. № 8. с. 48—59.

Паведамленьне аб Турскай С.-Г. дасьледчай станцыі [Рагачэўскі раён]. Сельск. і Лясн. Гасп. 927. № 1 с. 85.

[... 1-ый Слуцкий Окружной С'езд Советов Р. К. и Кр. Д. Постановления С'езда. (23—27. IV. 1925 г.). Слуцк. 925. 20 стр.

Пераход, В. І. Да характарыстыкі сасновых дрэвастанаў Бабруйшчыны. (З габінэту леса-экономікі пры Беларускай С.-Г. Акадэміі). Наш Край. 926. № 4-5 (7-8). с. 5—7.

Переход, В. И. проф. Жорновская лесная дача, как об'ект для изучения лесов Белоруссии и хозяйства в них. Нар. хоз.-в Бел. 922. № 10. с. 70—91.

Переход, В. И. проф. Метод организации хозяйства в Вязовницкой лесной даче. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С.-Г. 924. сш. 2. с. 37—52. [Тэзісы на нямецк. мове].

Переход, В. И. План хозяйства б. казенной Лапичской лесной дачи, состоящей в ведении Бел. Ин-та Сельск. Хоз-ва Нар. Хоз-во Бел. 923. № 4. с. 96—123.

Полферов-Распопин, Я. Лесное хоз-во и топливная проблема в Бобруйском округе (По материалам Окрплана). Сав. Будва. 926. № 7. с. 183—188.

Полферов-Распопин, Я. Народное хозяйство Бобруйского округа. Бобруйск. изд. Бобруйск. Окр. Исп. Ком-та. 926. с. 172. 4. 12 с. диаграмм.

Полферов-Распопин, Я. Я. Перспективы скотоводческого хозяйства Бобруйского округа. (По материалам окр. плановой комиссии). Сав.-Бу-ва. 926. № 4. с. 221—227.

Полферов-Распопин, Я. Проблема развития с.-х. промышленности в Бобруйском округе. (По материалам Окрплана). Сав. Будва. 926. № 8—9. с. 248—253.

Полферов-Распопин, Я. Современное положение торговли в Бобруйском округе. (По материалам Окрплана). Сав. Буд-ва. 926. № 5. с. 231—239.

Полянская, О. С. Белицкий торфянник. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С. Г. 925. сш. 4. с. 236—350. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Полякова, Н. Ф. Растительность полевой части основного Жорновского участка и список растений, собранных на Жорновском и Цельском участке Бел. Лесн. Опытн. Станцыі. Зап. Бел. Дз. Ін-ту С.-Г. 925. сш. 6 с. 113—136. [Рэзюмэ на нямецк. мове].

Пэркаль, К. Адчыненьне Дзіцячай Прафілактычнай Зубамбуляторыі ў Слуцку. Бюл. Бел. Т-ва Чырвон. Крыжу. 927. № 3—6. с. 36-37.

Программа и правила Бобруйской Окружн. С.-Х. и куст.-промышлен. выставки, устраиваемой в г. Бобруйске Окр. Зем. отд. с 10—20. IX. 1926 г. Бобруйск. 926. 18 стр.

Программа и правила Борисовской окружн. С. Х. Лесн. і Куст.-Промышленной выставки, устраиваемой в гор. Борисове Окруж.Зем. Отд. с 12—19. IX. 1926 г. Борисов. 926. 15 стр.

Пяцэвіч, Р. Мікіцінскі, У. Ажэўскі П. Краязнаўчы рух на Случчыне. [Да пяцігодзьдзя Слуцкага Краязнаўчага Т-ва]. Наш Край. 928. № 12. с. 62—78.

Рагавы, П. Глебы Асіпавіцкага раёну. Асіпавіцкі р. Бабруйск. акр. 928. Вып. I. с. 54—72.

Рак, Р. П. Вынікі экспэдыцыі па вывучэньні ткацтва ў Асіпавіцкім раёне і наогул па Бабруйскай акрузе. Наш Край. 926. № 8—9. с. 77-78. Хроніка.

Ратнер, С. И. д-р. Состояние здоровья родившихся в 1903 году в Слуцком округе по данным осмотра, призывных комиссий 1925 г. Бел. Мэд. Думка. 926. т. II. № 12-13. с. 23—31.

Ратнер, С. И. д-р. Состояние здоровья родившихся в 1904 г. в Слуцком округе. По данным осмотра призывными комиссиями 1926 г. Материалы к изучению здоровья населения Слуцкого округа. Ст. 2-ая. Бел. Мэд. Думка. 928. № 1. с. 56—76.

Рогинский. Экономическое обоснование постройки Бобруйского комбината. Сав-Буд-ва. 927. № 11-12. с. 22—39.

Розеншайн, Агитпропработа Слуц. Укома. (Письмо с примечаниями АПОЦБ). Вперед. 923. № 2-3. с. 46—48.

Савановіч, П. Слуцак. (Т-ва Чырв. Крыжу). Бюлет. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу. 927. № 3—6. с. 35-36.

Савіцкі, Я. Дзейнасьць В. Крушынаўскага сельскага савету, Рагачэўскага раёну Бабруйскае акругі за пэрыяд з 16 студзеня па 12 сьнежня 1926 г. Бюл. СНК БССР. 927. № 5. с. 42-43.

Савіцкі, Я. М. Разгортваем працу. (Азяранскі гурток кр-ва Бабруйскай акругі). Наш Край. 926. № 12 (15). с. 76. Хроніка.

Сведения о зарегистрированных заразн. больных в г. Бобруйске и Бобруйск. уезде за 1-ую половину 1921 г. распределен. по месяцам по данным сан. эпидемическ. под'отдела Бобруйск. Уездрава. Бобруйск. Медицинск. Извест. 921. вып. I. с. 13.

Своды доходов и расходов по местному бюджэту Бобруйского округа на 1925-26 г. Бобруйск. 925 г. [60]. 2 листа табл.

Сержпутоўскі, А. Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету—Менск. І. Б. К. 927. С. 6. [VI]. 252 [1].

Слуцкія песьняры. Вершы. Менск. 926. 62 стар. (=Кніжніца „Маладняк").

Справаздача аб дзейнасьці Капыльскага местачковага савету. Бюл. СНК БССР. 926. № 1. с. 86—89.

[...Справаздача Слуцкага Акруговага Выканаўчага Камітэту за студзень—сакавік 1926 г. Бюл. СНК БССР. 926. № 7. с. 41—50.

[...Справаздача Чырвона-Слабодзкага Раённага Выканаўчага Камітэту Слуцкае Акругі за пэрыод з красавіка па кастрычнік 1925 г. Бюл. СНК БССР. 925. № 8. с. 59-60.

С. Т. Па Случчыне ў восень. (Сельская гаспадарка). Плуг. 926. № 1. с. 4-5.

Суравец, М. Сельская гаспадарка Бабруйшчыны. Плуг. 926. № 1. с. 4-5.

Сухарев. Работа с парт'активом. (Бобруйск). Бальш. Бел. 928. № 2. с. 76—78.

Сухарев. Сов'ячейки в борьбе с бюрократизмом (Бобруйск). Бальш. Бел. 927. № 12. с. 40—44.

Тамковіч, М. Да пытаньня аб санітарна-бытавым стане вёсак: Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчыцы і Чапялі Старобінскага раёну Бабруйскае акругі. Наш Край. 927. № 12. с. 43—54.

Тарасенка, Міх. 2-х тыднёвыя мэліорацыйныя курсы ў Бабруйшчыне. Плуг. 926. № 8. с. 34-35.

Тэрлецкі, Б. К. Гідрографічна-гэолёгічнае апісаньне Асіпавіцкага раёну Бабруйскае акругі БССР. Асіпавіцкі р. Бабруйск. акр. 928. Вып. I. с. 7—53, 1 картка, 1 табл.

Удзельнік конфэрэнцыі. Першы крок зроблены. Уражаньні з конфэрэнцыі настаўнікаў беларусазнаўства, якая адбылася ў г. Слуцку 15 і 16 студзеня 1923 г. Полымя. 923. № 2. с. 133—139.

[...Уздым. Літ. зборнік Бабруйскай філіі маладняка. Бабруйск 928. кн. 2 с. 135 (3)

[...Уздым.Літ. зборнік Бабруйскай філіі Маладняка. Бабруйск. 926. 100 стар.

Флекель, И. М. д-р. Обзор научных совещаний Бобруйск. Секции врачей (Октябрь—1921 г. — май 1922 г.). Бобруйск. Медиц. Извест. 922. № 1-2 (2—4). с. 26—38

Фядзюшын, А. Нарыс фаўны Асіпавіцкага раёну. Асіпавіцкі р. Бабруйск. акр. 928. Вып. I. с. 106—143.

Хазанов, М. А. д-р. Жизнь и здоровье детей в Бобруйске и уезде по данным Оздравдета Бобруйск. Уездздрава за 1920-21 г. (Опыт обработки статист. санитарного материала). Бобруйск. Медицинск. извест. 922. № 1-2 (2—4). с. 6—11.

Хазанов, М. д-р. Эпидемические заболевания в гор. Бобруйске за 1920 г. по данным заразного отдела Бобруйск. Советской больницы. (Доложено в научном совещании врачей 10. VI. 1921 г.) (Аўторэфэрат). Бобруйск. Медицинск. извест. 921. вып. I. с. 3—7.

[...Хроника лечебно-санит. дела в. г. Бобруйске и его уезде с 15 июня 1920 г. по 1 авг. 1921 г. (Из доклада зав. отд. т. Гельфанда Уисполкому от 10 авг. 1921 г. Бобруйск. Медицинск. Известь. 921. вып. I с. 11-12.

Чэрняк, Г. Обзор деятельности Бобруйской Консультации для детей грудного возраста с августа 1920 г. Бобруйск. медицинск. извест. 922. № 1-2 (2—4). с. 11—13.

Черчес. Бацилловыделение и смертность от туберкулеза в г. Бобруйске по данным Тубдиспансера. Бел. Мэд. Думка. 928. № 6-7. с. 53—56.

Чмыхаў, М. Некалькі слоў аб працы Рагачэўскай сямігодкі № 4 ў 1925-26 навуч. годзе. Асьвета. 927. № 1. с. 61—66.

Шаевич. Итоги паевой и заготовительной кампании потребсистемы Бобруйского округа. Шлях Кооперац. 928. № 7. с. 38.

Шапиро, М. Как ведется работа с беспартийным рабочим активом (Борисов). Бальш. Бел. 928. № 8. с. 67-68.

Шериков. Итоги отчетно-перевыборной кампании по жилищной кооперации Бобруйщины. Шлях Кооперац. 928. № 7. с. 39—41.

Шэрыкаў. Жыльлёва - каапэрацыйнае будаўніцтва Бабруйскае акругі БССР. Шлях Коопэрацыі. 928. № 14 (74). с. 34-35.

Шохар, А. Нарыс расьліннасьці тарфяніку Забалацкай балотна-дасьледчай гаспадаркі. (Матар'ялы дасьледаваньня 1922 г.). Сельск. і Лясн. Гасп. 928. № 5. с. 64—70.

Шохар, А. Природа мелиорируемых земель и очередность работ. (Материалы рекогносцировочного обследования мелиоративных товариществ б. Рогачевского уезда). Сав. Буд-ва. 927. № 4. с. 147—151.

Шчакацiхiн, М. Замак у Рагачэве. Наш. Край. 926. № 10-11 (13-14). с. 26—33. З малюнкамi i плянамi.

Шынклер, Ф. II-ая выстаўка ў Асiпавiчах (Бабруйшчына). Плуг. 925. № 10-11. с. 3—5.

Энгельгардт, А. Некаторыя вынiкi працы Турскай дасьледчай станцыi. Плуг. 925. № 9. с. 3—5.

Эркiн, Г. Цэльская лясная дача i яе балоты. Наш Край. 928. № 2. с. 19—23.

Яцэвiч, П. Капыльскi с.-г. гурток. Плуг. 926. № 9. с. 5-6.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмiя Навук**

Рэдактар **З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыi: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровiч.**